

*Леў Гумілеўскі і "Кастусь Каліноўскі"*

# Нясвіжскія каеты



*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*І кожны штрых, і летапіс, і дату...*
Кастусь Жук, Затур'я.

***Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Другі год выдання***

**№ 6 ЛІПЕНЬ - СНЕЖАНЬ 2020 г.**

## У НУМАРЫ:





Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**На правах электроннага рэсурса**

**Заснавальнік:**
**Нясвіжская раённая арганізацыя Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**Рэдкалегія:**

Качановіч Леанід,
Плакса Наталля,
Суднік Станіслаў

Рэдактар
**Суднік Станіслаў Вацлававіч**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**kajety@list.ru**

**АДРАС САЙТА:**
**http//nslowa.by**
**http//pawet.net**
**http//kamunikat.org**
**http//belkiosk.by**

**10,5 друк. аркушаў**

**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2020 г.**

# *Мацей Радзівіл:* "Ніхто разумны ў Польшчы не хоча забраць і маленькага кавалачка Беларусі"

*Сённяшні галава сям'і Радзівілаў князь Мацей лічыць беларускі пратэст унікальным і расказаў "Нашай Ніве" пра свой удзел у працэсах польскай "Салідарнасці", вяртанне ў Нясвіжскі замак, якога Радзівілаў пазбавілі ў 1939 годзе, і пра тое, чым важнае выкарыстанне "Пагоні".*

***- Мяркуючы па канцэрце Маргарыты Ляўчук, які вы арганізавалі ў Няборуве ў знак салідарнасці з беларусамі, Радзівілы падтрымліваюць беларускі пратэст.***

- Я часта прыязджаю ў Беларусь. Упершыню пабываў яшчэ ў 1989 годзе - і стаў першым Радзівілам, які прыехаў у Нясвіж пасля вайны. Я не займаюся палітыкай, а толькі ўдзельнічаю ў культурных мерапрыемствах, раблю выставы і бачу сваю ролю ў тым, каб умацоўваць у Беларусі спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Аднойчы, праўда, я ўсё ж сустрэўся з Аляксандрам Лукашэнкам - гэта было на адкрыцці Нясвіжскага замка пасля рэканструкцыі, і хоць ён - не мой герой, для мяне не было праблемай падзякаваць яму. Але цяпер, калі я бачу беларускія мірныя пратэсты і гвалт з боку ўлады, не магу маўчаць. Ваш пратэст - гэта нешта ўнікальнае, у мяне на камп'ютары захоўваецца здымак, дзе пратэстоўцы стаяць на лаўцы, зняўшы абутак. Калі нехта кажа, што ў мірным супрацьстаянні няма сэнсу, я заўсёды адказваю, што толькі яно тут і мае сэнс, бо, калі адказаць гвалтам на гвалт, будзе другая Кастрычніцкая рэвалюцыя. Маладым чалавекам, я таксама быў актыўным удзельнікам пратэстаў супраць камуністаў, друкаваў забароненыя кнігі.

***- Якія гэта былі кнігі?***

- Кнігі польскіх гісторыкаў, паэтаў і пісьменнікаў. У нас была не такая вострая, як у Савецкім Саюзе, але ўсё ж цэнзура.

Калі я назіраю за вашымі пратэстамі, мне шкада, што я не ў Беларусі: там бы я адчуў сябе на сорак гадоў маладзейшым. Гэтыя падзеі вельмі падобныя на польскую "Салідарнасць": мірныя пратэсты тады праходзілі на працягу некалькіх гадоў, многія прайшлі праз турму. Людзі ўжо страцілі надзею, але пасля ночы заўсёды надыходзіць дзень, а пасля буры праступае сонца.

***- У нас часта адаптуюць фразу часоў "Салідарнасці" пра тое, што кожны прыстойны паляк павінен пабываць у турме.***

- Гісторык Мікалай Волкаў нядаўна апублікаваў у фэйсбуку здымак з Вільні, на якім пяць беларускіх гісторыкаў і я, і напісаў, што тры чалавекі са здымка ўжо пабывалі ў турме - сам Волкаў, Андрэй Мацук і Мацей Радзівіл.

***- Вас затрымлівалі падчас "Салідарнасці"?***

- Так, але ненадоўга. Мяне схапілі ў машыне, калі я вёз дзвесце кілаграмаў чыстай паперы. У жыцці часам трэба прыкінуцца дурнейшым, чым ты ёсць на самай справе: я сказаў, што збіраўся прадаць гэтую паперу, хаця мне, вядома, не паверылі. Тады яны спыталі меркаванне майго прафесара пра студэнта Радзівіла, і той адказаў, што студэнт Радзівіл з'яўляецца ўпрыгожаннем Варшаўскага ўніверсітэта і кожны дзень, калі ён не ва ўніверсітэце, - вялікая страта для польскай навукі. Гэта "Салідарнасць".

***- Ваша сям'я мае дачыненне да шматлікіх еўрапейскіх краін, а ўсё ж ёсць нейкая асаблівая сувязь з Беларуссю?***

- Так, у Беларусі знаходзяцца самыя важныя для нас месцы - перш за ўсё сталіца сям'і Нясвіж, таму ў маладосці я і марыў туды з'ездзіць. Палякам было не проста патрапіць у Савецкі Саюз, але ўжо была перабудова, і прыяцель маёй мамы з Масквы дапамог мне дастаць запрашэнне. Калі я прыехаў, у замку знаходзіўся санаторый, і мяне не хацелі ўпускаць - мяне выкінулі з адных дзвярэй, але я знайшоў іншы ўваход. А потым пайшоў у касцёл, у крыпце якога знаходзіцца больш за семдзесят трунаў з парэшткамі Радзівілаў. Гэта вельмі моцныя эмацыйныя перажыванні: чатырыста гадоў маёй сям'і ў адным месцы, а значыць, мае карані тут вельмі глыбока. Дарэчы, у 2018 годзе ў менскім касцёле Найсвяцейшай Тройцы на Залатой Горцы былі перапахаваныя парэшткі Марыі Магдалены Радзівіл, якая ў свой час падтрымлівала "Нашу Ніву".

***- У 1939 ваша сям'я страціла ўладанні ў Беларусі, але нешта ў вас усё ж засталося?***

- З Нясвіжскага замка ў мяне толькі адзін прадмет - абраз Найсвяцейшай Панны Марыі. Яго копію я падарыў Нясвіжу, але арыгінал знаходзіцца ў нас. У 1939 годзе Радзівілы і іх госці абедалі, калі ў замак прыйшлі салдаты НКУС і ўсіх арыштавалі. Жанчына, якая займалася дзецьмі апошняга ўладара, ведала, наколькі гэты абраз важны для сям'і,



ціха прайшла ў капліцу, забрала яго і схавала. Ужо пасля вайны яна паехала ў Польшчу і вярнула рэліквію Радзівілам.

У кожным пакаленні ёсць захавальнік абраза, я - ужо дзясяты. Падчас камунізму мая сям'я страціла ўсё не толькі ў Беларусі, але таксама ў Польшчы, Украіне і Літве. Мае бацькі заспелі цяжкі час: пасля вайны яны былі маладымі людзьмі і хацелі жыць, як усе іншыя маладыя людзі, але іх абвясцілі класавымі ворагамі і не дазволілі нават паступаць ва ўніверсітэт. Мой дзядзька разам са сваімі бацькамі быў сасланы ў лагер недалёка ад Масквы, а калі ў 1947 годзе вярнуўся ў Польшчу і захацеў стаць лекарам - яго таксама не пусцілі ва ўніверсітэт. Ён пяць гадоў дапамагаў медсястры ў бальніцы, і тады адна вядомая прафесарка медыцыны, жонка камуніста, сказала: "Калі гэты князь пяць гадоў працуе на пазіцыі, ніжэйшай за медсястру, ён ужо не класавы вораг".

***- На ваш погляд, як сітуацыя з замкам у Нясвіжы, якога ваша сям'я пазбавілася, магла б справядліва вырашыцца ў нашы дні?***

- Мая сям'я разумела, што страціла гэтую маёмасць назаўжды, гісторыя ведае шмат такіх прыкладаў. Я рэаліст і проста рады, што замак стаў важным помнікам для беларусаў. Аднойчы, калі я прыехаў у замак - мы заўсёды адчуваем сябе там як дома, - пачуў, як экскурсавод сказаў групе дзяцей: "Так жылі нашы продкі". Гэта выдатна: трэба разумець, што мы ўсе Радзівілы або, скажам, Сапегі і іх спадчына для беларусаў агульная.

***- Гэта праўда, што ваша цётка Альжбета Радзівіл пасля адкрыцця Нясвіжскага замка сказала: "Забралі з халопамі - і вярніце з халопамі"?***

- Няпраўда, на адкрыцці былі толькі я і мой стрыечны брат, але яна магла б такое сказаць. Мне яна часта казала, што Радзівілы, якія жылі падчас камунізму, страцілі душу свайго роду, таму што Радзівілы нараджаюцца, каб быць лідарамі.

Памятаю, мы прыехалі ў Мір, нас сустракалі з хлебам і соллю, і адна жанчына сказала: "Вітаем князёў Радзівілаў на нашай зямлі", - а цётка адказала: "Якой вашай? Нашай!"

Я шмат разоў прыязджаў з ёй у Нясвіж падчас аднаўлення замка і часам з-за яе я адчуваў сябе няёмка: да тых, хто займаўся рэканструкцыяй, яна ставілася як да людзей, якія выкінулі Радзівілаў з замка ды яшчэ яго і разбурылі.

***- Мабыць, яго страту яна перажыла як асабістую траўму.***

- Для яе гэта не помнік архітэктуры, а проста дом. Яна адзіная з Радзівілаў, хто яшчэ памятае замак. Яна яго вельмі любіла: яе бацькі развяліся, таму яна жыла ў замку мужа маці ў Чэхаславакіі, а сюды прыязджала на канікулы да бацькі. Як многім дзецям, ёй было важна захоўваць кантакт з абоімі бацькамі.

***- Вы нейкім чынам удзельнічаеце ў прыняцці рашэнняў адносна Нясвіжскага замка?***

- Фармальна не, цяпер яшчэ і Сяргей Клімаў звольнены, а ён быў дырэктарам дзесяць гадоў. Яго, вядома, можна крытыкаваць, але ён пачаў працу ў невялікім горадзе, дзе не было ніякіх спецыялістаў, а цяпер там працуе шмат прафесіяналаў. Думаю, ён страціў пасаду, таму што летам вывесіў на замку бел-чырвона-белы сцяг. Для мяне гэта сімвалічна, таму што Сяргей Клімаў не быў апазіцыянерам, наадварот, яго адносіны з уладай выглядалі добрымі. Наогул, у многіх беларусах, хто быў у добрых адносінах з уладай, я ўбачыў вялікую перамену, хоць трэба разумець, што ёсць, можа быць, трыццаць ці сорак працэнтаў тых, хто падтрымлівае рэжым толькі таму, што баіцца пераменаў. Так было і ў Польшчы. Да гэтых людзей трэба ставіцца з разуменнем, таму што, калі лічыць іх дурнямі і адхрысціцца ад іх, вы ніколі не зможаце паказаць ім, што краіна можа быць лепшай. Яшчэ ў жніўні ў адным з польскіх часопісаў выйшла кароткае інтэрв'ю са мной пад загалоўкам "Беларусь як Фінляндыя". Фінляндыя падчас камунізму была дэмакратычнай краінай, але яе палітычная эліта разумела, што павінна сябраваць з Саветамі. Гэта найлепшае рашэнне і для Беларусі: каб зрабіць дэмакратыю, трэба сябраваць з Расіяй, дзе дэмакратыі няма.

***- Вы заўсёды былі ўцягнутыя ў парадак дня ў Беларусі - як вы бачыце тое, што здарылася тут у апошнія месяцы?***

- Гэты час заўсёды прыходзіць, і ніхто не можа растлумачыць, чаму ціхія рабы раптам становяцца вольнымі. Прычым, беларусы абудзіліся не толькі як вольныя людзі, але і як народ. Для мяне цікава, што на пратэстах, нават на ўсходзе краіны, дзе традыцыі ВКЛ не такія моцныя, выкарыстоўваецца "Пагоня" - старажытны і блізкі для мяне герб, таму што мая маці паходзіць з князёў Чартарыйскіх, нашчадкаў Гедыміна, гербам якіх з'яўляецца "Пагоня". Гэта важна, бо Гедымін будаваў вялікую дзяржаву, куды людзі прыязджалі з усёй Еўропы: тут для іх была свабода, тут паважалі лакальныя эліты, тут былі талерантныя да ўсіх - у ВКЛ трэба шукаць натхненне.

***- Як вы ставіцеся да заяваў беларускіх уладаў аб замаху Польшчы на беларускую тэрыторыю і наогул яе ролю ў нашым пратэсце?***

- Ніхто разумны ў Польшчы не хоча забраць і маленькага кавалачка Беларусі. Гэта толькі прапаганда беларускай улады, каб стварыць ілюзію небяспекі звонку. Мы жывём у іншыя часы: зямля сёння не так важная. У Польшчы некаторыя таксама баяцца, што немцы забяруць зямлю, атрыманую пасля вайны. Але навошта? Сёння яны могуць свабодна прыязджаць на гэтую зямлю, у кватэру, у дом, а калі паглядзець на ўсходнюю Нямеччыну, там шмат зямлі, дзе самі немцы не хочуць жыць. Тое ж і з маёй сям'ёй: я люблю ездзіць у Нясвіж і, сапраўды, не плачу за квіток у музей, але я не думаю аб вяртанні замка, а наадварот, кожны раз прыязджаю з падарункамі для яго. Я прывёз туды нават прадметы, якія не павінны былі выязджаць за межы Польшчы. Мне шкада толькі, што, напрыклад, Літва зараз больш падтрымлівае Беларусь, чым Польшча - многія палякі забыліся, як самі атрымлівалі падтрымку сорак гадоў таму.

***- На афіцыйным узроўні Польшча для Беларусі ледзь не галоўны вораг, хаця самі беларусы ў добрых адносінах з палякамі.***

- Ні ў адной іншай краіне я не бачыў, каб да палякаў так прыязна ставіліся. Многія не любяць палякаў, напрыклад, у Германіі, у нас ёсць гістарычныя канфлікты з чэхамі і ўкраінцамі. А беларусы, калі даведваюцца, што я з Польшчы, могуць сказаць: "Мая бабуля таксама полька, я люблю палякаў". А з маім прозвішчам тым больш: аднойчы я перавысіў хуткасць на дарозе з Берасця ў Нясвіж, мяне спыніў інспектар, я патлумачыў, што спяшаюся на сустрэчу з міністрам культуры і паказаў яго візітоўку. На інспектара гэта не зрабіла ўражання, ён пачаў афармляць штраф, паглядзеў у мой пашпарт, вярнуў яго і сказаў: "Радзівіла я штрафаваць не буду".

***- Ваш дзядзька Альбрэхт у свой час падтрымаў БНР. Падчас сённяшніх падзей у вас як прадстаўніка сям'і Радзівілаў з'явілася пачуццё адказнасці за тое, каб нейкім чынам паўдзельнічаць таксама?***

- У выступах Лукашэнкі я часта чую пра тое, што пратэсты курыруюцца з-за мяжы. Я не хацеў бы, каб нехта думаў, што Радзівілы хочуць вярнуцца ў Нясвіж і жыць у сваім замку, у мяне няма ніякіх асабістых інтарэсаў.

Калі я магу неяк дапамагчы, я гатовы, хоць мне здаецца, вы можаце рабіць дэмакратыю без такіх, як я. Так ці інакш беларусы заўсёды могуць разлічваць на мяне, як на сябра, я люблю вашу краіну і лічу, што яна крыху мая таксама. Радзівілы могуць хіба выказваць салідарнасць з тымі, хто пацярпеў ад улады, і па-ранейшаму паказваць вялікую традыцыю, таму што без традыцый і спадчыны нельга будаваць дзяржаву.

На пытанне, чаму Радзівілы былі такімі багатымі, я кажу, што яны шукалі жонак сярод багатых спадчынніц, але перш за ўсё думалі пра будучыню. Мы павінны думаць пра будучыню нашых дзяцей, гэта тычыцца і сённяшніх падзей у Беларусі. Праз дваццаць гадоў вас будуць называць пакаленнем пратэстаў, і гэты досвед пакіне на вас след да смерці.

*Ірэна Кацяловіч,*
*nn.by.*

# Канверт да юбілею Міхася Сеўрука

Да юбілею М.К.Сеўрука “Белпошта” выпусціла канверт з арыгінальнай маркай.
Нумар па каталогу: 151.
У авароце з: 12 лютага 2020 г.
Дата гашэння: 27 лютага 2020 г.
Месца гашэння: Нясвіж-3 Менскай вобл.




# Памёр Алесь Стадуб



8 чэрвеня пасля доўгай хваробы пайшоў у Нябесную Беларусь сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, паэт **Алесь Стадуб**.

Стадуб Алесь (Аляксандр Дзям'янавіч) нарадзіўся 24.04.1938 г. у в. Юшавічы Нясвіжскага раёна Менскай вобл. Скончыў 10 класаў у Нясвіжы. Пасля службы ў войску закончыў Усесаюзны інстытут імя Крупскай (музыка, клас гармоніі). Узначальваў маладзёжны хор у Яраслаўлі. Там закончыў філфак педінстытута. Выкладаў у школе, працаваў у мясцовых газетах. У 1972 г. пераехаў у Ліду, дзе быў намеснікам старшыні таварыства «Веды». Друкаваўся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях. Аўтар звыш 10 кніг: “Твае вочы”, “Вузел (трыялеты)”, “Споведзь натхненнем”, “Летапіс пачуццяў”, “Калінавыя гроны”, “Шэпты крыл”,“Сюжэт на фоне адвячорку”, “Водгукісціны”, “Скрыжалі”, “Мільянерка” і інш. Сябар СБП з 2007 года.

Пахаваны ў Лідзе.

***Алесь Стадуб***

### ЮШАВІЧЫ

Раслі ў бяссмерце Юшавічы,
Але ўсё ж век свой аджылі.
Раслі тут Коласы, да Вінчы,
Свае гісторыі былі.

Няма ў паміне сельсавета
І школы, крылаў ветракоў.
Няўмольны час закрэсліў гэта
І крумкачоў-бальшавікоў.

Спакусы ў сад чужы вадзілі,
Спакусны сад, хоць і не рай.
А дзе ж сяброў цяпер магілы?
Яны даўней лілі праз край.

Дамашнія малых не лічаць,
А што лічыць, калі адно.
Бацькі мяне нястомна клічуць:
“Прыедзь. Наведваў нас даўно”.

### НЕМАГЧЫМА

Падлетак шукаў ідэал:
Краіну? Паехаць? Біць лынды?
Пытанняў нахлынуўся вал,
І ён да мужчыны з-пад Ліды:

- Парайце вы мне, чалавек!
І той адказаў:
- Эй, хлапчына,
Без нас Беларусь пражыве,
Ды нам без яе немагчыма!

### ДУБ

Ля акна я студжу кіпень-чай,
Хай астыне мой чай нетаропкі,
Паглядаю на дуб неўзначай,
Жалуды ля ствала, нібы кропкі.

У юнацтве яго вецер гнуў,
Ды і бура заўжды нахіляла,
Ён маланкі прыцэл абмінуў,
Калі тая ад хмары страляла.

На дварэ ўсё дажджыць
і дажджыць,
Лістапад гоніць мокрыя хмары,
Гэты дуб можа нас перажыць:
Мае вершы і вашыя мары.

# Бел-чырвона-белы сцяг над Нясвіжскім замкам




17 жніўня над Нясвіжскім замкам залунаў бел-чырвона-белы сцяг. "Наша Ніва" пазваніла дырэктару Нясвіжскага замка, Сяргею Клімаву, спытаць, як на даху з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг.

***- БЧБ сцяг самі павесілі?***

- Можна сказаць і так: калектыў павесіў.

***- Чаму?***

- Мы салідарныя з народам, назіраем за забастоўкамі, бо ў нашым выкананні няма сэнсу ў гэтым, але сёння прайшла нарада з кіраўнікамі аддзелаў, прынялі такое рашэнне. Каб усе бачылі, што мы далучаемся, што мы салідарныя з усімі людзьмі добрай волі.

***- Нейкія рэакцыі міністэрства, мясцовых улад ці органаў дзяржбяспекі ўжо былі?***

- Раней запрашалі ў выканкам, былі сілавікі, спрабавалі адгаварыць ад акцый салідарнасці. А канкрэтна па сцягу сёння былі званкі толькі ў духу: "Насамрэч сцяг у вас там?". Ну, мы адказваем: "Насамрэч". Я магу толькі дадаць, што я шчаслівы ад таго, што дажыў да гэтага часу.

***Арцём Гарбацэвіч***
*https://nn.by/*

## Звольнілі Сяргея Клімава, знакамітага дырэктара Нясвіжскага замка

У пачатку снежня аднабаковым парадку быў звольнены шматгадовы дырэктар Нясвіжскага замка-музея Сяргей Клімаў.

Клімаў пачаў кіраваць замкам 10 год таму, калі той быў у заняпадзе і не лічыўся абавязковай да наведвання турыстычнай каштоўнасцю.

Клімаў дамовіўся з нашчадкамі Радзівілаў аб вяртанні пэўных экспанатаў у Беларусь, за кароткі час зрабіў вялізную работу па напаўненні калекцыі замка. За гэта ў 2016-м Нясвіж адзначылі прэстыжнай культурніцай прэміяй "Еўропа Нострa". "Супрацоўнікі музяе выйшлі далёка за межы сваіх абавязкаў і могуць быць прыведзены як узор усім астатнім работнікам дадзенай сферы ў Еўропе", - казалася ў рашэнні журы.

Сёння, амаль роўна праз 10 год ад пачатку работы, яго цішком звольнілі. Як гэта было Клімаў расказаў "Нашай Ніве".

- Па-сабачы, цішком мяне звальнялі, нібыта нешта скраўшы, каб ніхто не даведаўся, - кажа Клімаў. - Пазваніў шараговы супрацоўнік Міністэрства культуры і сказаў, што міністр прапанаваў мне напісаць заяву на звальненне. Але я адмовіўся.

Праз пару гадзін мне паступіў званок пра тое, што я звольнены, заўтра магу прыбыць у міністэрства і азнаёміцца з паперай.




Але ніякіх прычын ніхто не тлумачыць, адны нейкія намёкі: "Ну вы ж разумееце…". Не, я не разумею! Нават ва ўмовах пандэміі сёлета музей зарабіў 800 тысяч даляраў, прыняў 170 тысяч наведнікаў. Але той, хто аддаваў загад на звальненне, канешне ж, пра гэта ўсё ведаць не можа.

Не тое, каб гэта было для мяне нечакана. Я ўсё ж разумею логіку працэсаў, якія адбываюцца. Усё заканамерна, але ненадоўга. Мяне хіба што здзівіла, што не знайшлося мужнасці сустрэцца і пагаварыць, - рэзюмуе ён.

***NN.by.*** *https://nn.by/?c=ar&i=264991*
*Сяргей Клімаў, фота Дар'і Буракінай.*

# Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Нясвіжскай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"

22 жніўня ў Нясвіжы прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Нясвіжскай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

На павестку дня паседжання былі вынесены наступныя пытанні:

1. Справаздача старшыні арганізацыі;
2. Справаздача рэвізора;
3. Выбары старшыні;
4. Выбары рады;
5. Выбары рэвізора;
6. Зацверджанне старшынь суполак;
7. Выбары дэлегата на з’езд ТБМ 18 кастрычніка;
8. Выбары дэлегатаў на Менскую абласную канферэнцыю ТБМ;
5. Рознае.

Быў заслуханы справаздачны даклад старшыні Нясвіжскай раённай арганізацыі ТБМ Наталлі Плаксы і даклад рэвізора Станіславы Вальчык. Даклад Наталлі Плаксы апублікаваны ў “Нашым слове” № 35 (1498) за 2 верасня 2020 г.

Праца Нясвіжскай раённай арганізацыі ГА ТБМ прызнана здавальняльнай.

Даклад рэвізора прыняты да ведама.

Канферэнцыя абрала старшынёй Нясвіжскай раённай арганізацыі ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” Наталлю Плаксу. Акрамя старшыні ў раённую раду абраны:

1. Асмыковіч Міхась - намеснік старшыні;
2. Вальчык Станіслава;
3. Дранчук Валер;
4. Качановіч Леанід.

Рэвізорам абрана Бруй Ніла.

Кіраўнікамі суполак ТБМ зацверджаны:

Нясвіжская гарадская - Асмыковіч Міхась;

Гарадзейская - Гунько Алег;

Карцэвіцкая - Вальчык Станіслава;

Свержанская - Холадава Валянціна.

Дэлегатам на 14-ты з’езд ТБМ абрана старшыня арганізацыі Наталля Плакса.

Дэлегатамі на Менскую абласную канферэнцыю ТБМ абраны:

1. Плакса Наталля;
2. Вальчык Станіслава.








У розным была разгледжана сітуацыя з выданнем электроннага часопіса “Нясвіжскія каеты”.

У працы канферэнцыі бралі ўдзел намеснік старшыні ТБМ Станіслаў Суднік і старшы спецыяліст аддзела ідэалогіі і культуры Нясвіжскага райвыканкама Вераніка Цвірка, якая, дарэчы, выступіла на цудоўнай беларускай мове.

***Наш кар.***

# ВУЛІЦА ЖЫЛКІ ЁСЦЬ!

*Усе скарбы, усе свае багацці*
*І песні ўсе - крывіцкай хаце.*
***У. Жылка "Тастамант".***



Радуемся! Шчыра радуемся і ганарымся, што менавіта ў нас, на Нясвіжчыне, першай у краіне (так і трэба!) з'явілася вуліца імя паэта Уладзіміра Жылкі. Да гэтай пары (хоць памёр наш вялікі зямляк у 1933 годзе, рэабілітаваны ў 1960) не было ніводнай вуліцы, ніводнай установы культуры ці адукацыі ва ўшанаванне яго імя. А велічыня таленту, вышыня паэзіі, грамадзянская рупнасць паэта дзеля Радзімы несумненна заслугоўвалі таго.

Вось пра гэта і пісалася ад імя сяброў ТБМ у лісце да дэпутатаў Нясвіжскага райсавета. Амаль не было сумнення, што прапанова назваць адну з вуліц імем паэта будзе падтрымана. Рашэннем чарговай сесіі ад 18 верасня так і атрымалася.

Нарэшце ў год 120-гадовага юбілею песняра "змагання і красы" ў Нясвіжы, у яго паўночна-заходняй частцы, запачаткавана вуліца Уладзіміра Жылкі: ужо падведзена электрычнасць, пракладваюцца камунікацыі. А неўзабаве возьмуцца за працу будучыя навасёлы.



Кароткі лёс выдаўся паэту, няпоўныя 33 гады, хоць меў ён такое "жывучае" прозвішча, аднакаранёва-сугучнае моцным беларускім словам *жыццё, жыхар, жыла, жылісты.* Хай жа цяпер ён прадоўжыцца ў шчаслівых лёсах жыхароў новай нясвіжскай вуліцы. Да іх і звяртаюся:

*- Шаноўныя! Вам пашчасціла жыць на вуліцы вялікага патрыёта Бацькаўшчыны. Не зважайце на цяперашнюю заціснутасць прасторы. Па часе пашырацца далягляды, прыбяруцца недарэчыя агароджы.*

*- Каб стаць паўнавартаснымі жыхарамі такой вуліцы, мала прыдумаць мудрагелісты праект, выкласці модную плітку, усталяваць каваную агароджу з гронкамі вінаграду - цікаўцеся творчасцю Жылкі, паклапаціцеся, каб у вашай новай хаце знайшлося месца зборнічку яго вершаў.*

*- Шануйце сваё, роднае так, як гэта рабіў паэт, для якога "хата з нізкай страхой была мілей за ўсе палацы", а дарога дадому - самай жаданай.*

***Наталля Плакса,*** *старшыня Нясвіжскай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".*

# У Нясвіжы памёр вядомы хірург

У першыя дні снежня на 68-м годзе жыцця ў Нясвіжы памёр хірург Ігар Богуш. У горадзе яго ведалі, не толькі як высакакласнага спецыяліста, але і як паважанага чалавека. У Ігара Мадэставіча быў COVID-19, піша Tut.by

- Тата больш за 20 гадоў быў загадчыкам хірургічнага аддзялення ў Нясвіжскай цэнтральнай раённай бальніцы. Да яго прыязджалі людзі нават з Масквы, не кажучы ўжо пра Менск. Ён займаўся і сасудзістай хірургіяй, і траўматалагічнай. Яму вельмі падабалася апераваць - гэта была яго любімая праца. Яго неаднаразова запрашалі з'ехаць працаваць у Менск і не толькі, але ён не хацеў, яму падабалася ў Нясвіжы, ён вельмі любіў сваю працу - ратаваць людзей - распавядае Юлія, дачка Ігара Мадэставіча.

Сёлета Ігар Мадэставіч атрымаў званне Ганаровага грамадзяніна Нясвіжа.

Юлія распавядае, што тата заразіўся каронавіруснай інфекцыяй, быў на ізаляцыі, затым яго адразу паклалі ў рэанімацыю, і адтуль ён ужо не выйшаў. Апошнія два тыдні ён быў на ШВЛ. Адно лёгкае, па словах дачкі, было цалкам пашкоджана.

Ігар Мадэставіч з сям'і медыкаў: яго мама працавала фельчарам на хуткай дапамозе, родны брат - санітарны ўрач.

*https://nn.by/*



# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ТАДЭВУША ГРЫГЕЛЯ



15 снежня на 90 годзе жыцця пакінуў гэты свет Тадэвуш Грыгель - прафесар, доктар медыцыны, магістр фізічнага выхавання, народны дыпламат, які мацаваў сяброўскія стасункі паміж Беларуссю і Польшчай.

Ураджэнец Нясвіжа жыў у польскім Шчэціне, але ніколі не губляў сувязяў з Нясвіжчынай, наведваўся сюды ў лепшыя часы амаль штогод. Стасункі з роднай зямлёй мацаваліся памяццю. Памяццю пра маляўнічыя ваколіцы вёскі Качановічы, дзе бярэ пачатак Уша. Памяццю пра першага настаўніка, народнага мастака Фёдара Вініцкага, які на ўсё жыццё стаў прыкладам выхаванасці і густу, любові да роднай мовы і звычаяў, імкнення да высокай адукаванасці як да абавязку кожнага сапраўднага грамадзяніна. Вяла на родныя сцежкі і памяць пра бацьку, расстралянага ў жніўні 1942 года ва ўрочышчы Гайкі і пахаванага ў брацкай магіле. Грамадскай справай Тадэвуша Грыгеля было складанне як мага больш поўнага і дакладнага спісу гайкоўскіх пакутнікаў-ахвяр, а жыццёвым дэвізам сталі словы, якія неаднойчы паўтараў: "Аддайце памяць памерлым, а гісторыі праўду".

Да таго ж яму былі блізкія музыка і паэзія, журналістыка і парапсіхалогія. Захапляўся пчалярствам і садаводствам.

Актыўны жыццялюб, ён меў шырокае кола стасункаў, шмат знаёмых і сяброў. Сярод іх вылучаў шаноўнага святара Дзмірыя Пятровіча Хмеля, у якога і любіў спыняцца. Завітаў неаднойчы і ў Малева, дзе пасля прымусовага звальнення з працы жыў і быў пахаваны яго настаўнік, каб запаліць свечку і памаліцца за яго душу. Прыязджаючы на Нясвіжчыну, мала адпачываў: да яго па медыцынскія кансультацыі і парады ішлі і ішлі людзі, якім ён ахвотна дапамагаў.

Светлая памяць светламу чалавеку - і божая вечнасць.

*Нясвіжская рада ТБМ.*

# "МАЛЯЎНІЧАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## 20 ГАДОЎ КАЛЯНДАРНАЙ ТАЛАКІ

*Якія бываюць календары? Прыватныя, сямейныя, карпаратыўныя. Фірменныя, офісныя, інтэр'ерныя. Эксклюзіўныя... Бадай, кожны каляндар нашай серыі - заўсёды культурна-пазнавальны, даследніцкі, незалежны. І заўсёды на беларускай мове. Але найперш ён нясе хараство і эстэтыку.*

***В. Дранчук.***




Зайздросная мэтаскіраванасць і стваральная ўпартасць уласцівыя аўтару каляндарнай серыі "Маляўнічая Бацькаўшчына" Валеру Дранчуку. Без гэтага не было б сёлетняга дваццацігадовага юбілею яго аўтарскага выдання дзеля праслаўлення і абароны фундаментальных каштоўнасцяў - прыроды, мовы, культурных набыткаў народа.

- Падстава і час заснавання каляндарнай традыцыі гістарычна ўнікальныя, - падсумоўвае Валер Дранчук. - Гэта сумежжа стагоддзяў, XX і XXI-га, імкненне ўвайсці ў дзверы будучыні праз сімвалічную годную арку. А што, як не прырода, ёсць самай лепшай аздобай будучыні, хіба не яна найпраўдзівы гарант прывабнай і вольнай краіны!

На гэты, прыродна-пазнавальны і культурны напрамак выданняў ахвотна пагадзіўся генеральны дырэктар ААТ "Мінскводбуд" Сцяпан Паўловіч. Дзякуючы яму і калектыву прадпрыемства, якое ўзяло на сябе фінансавую частку праекта, выдадзены календары "Нясвіж. Водна-паркавы ландшафт" (2001), "Міхал Сяўрук. Графіка травы і лісця" (2003), "Напалеон Орда. Сядзібна-паркавы краявід" (2007), "Святая вада Беларусі" (2009), "Дзіцячыя экалагічныя плянэры на хутары Гавязна (2010), "Дубы. Дубровы. Краявід" (2010), вялікафарматныя календары да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа (2011-2012 гг.) ды інш.

Падчас эканамічных цяжкасцяў выжыванню праекта паспрыяла незалежная грамада, ТБМ і яго сябры. На выданне календара "Ідыліі. Самадзейны мастак Хведар Вініцкі" (2017 г.) ахвяравалі сродкі дзясяткі будучых карыстальнікаў - удзельнікаў першай "культурнай талакі" з вёсак Карцэвічы, Малева, Саская Ліпка, Альхоўка, з Гарадзеі, Нясвіжа і Менска, з Германіі і Вялікабрытаніі. У апошнія гады выдадзены календары "Невядомая Нясвіжчына", "Касцёл у Новых Навасёлках", "Маляванкі ў Ваш дом", каляндар-постар "Міхал Сяўрук" (да 115-годдзя з дня нараджэння).

Юбілейны каляндар "Выбранае. Жыве Беларусь!" на 2021 год складзены з папярэдніх, больш як двух дзясяткаў календароў. Фотавобразы месяцаў не паўтараюць дакладна рэтравыпускі, але абавязкова адпавядаюць іх геаграфіі і характару. На кожнай старонцы аўтар падае кароткія цытаты са сваіх змагарных кніг і лістоў, занатовак з "зялёнага дзённіка", выступленняў на прэзентацыях. На старонцы лютага чытаем: *"Шчырая замілаванасць да прыроды, любых сэрцу краявідаў мусіць ісці поруч са словамі набатнай праўды, калі прырода спусташаецца і дэградуе"*. Старонка ліпеня цытуе радкі з адкрытага ліста ў адказ на масавыя высечкі старых дрэў: *"Парадак" - сінонім хараства і гармоніі, а не хворай тэхнакратыі. Авёс вырастае за год, а дрэва расце гады і стагоддзі"*.

20-гадовы юбілей "Маляўнічай Бацькаўшчыны" супадае з жыццёвым юбілеем аўтара. Таму выданне календара "Выбранае. Жыве Беларусь!" мае дзве святочныя нагоды. Праўда, як зазначае Валер Дранчук, юбілеі мінаюць - ідэі застаюцца. Новыя тэмы патрабуюць рэалізацыі. Хочацца спадзявацца, каляндарная серыя "Маляўнічая Бацькаўшчына" будзе мецьсвой працяг, каб "несці хараство і эстэтыку" роднай зямлі і матчынай мовы.

***Вольга Карчэўская.***

*Нясвіж.*

# З ЖЫЛКАМ У НОВЫ ГОД

2020 год нясвіжскія талакоўцы пражылі па календары "Маляванкі" са шматгадовай аўтар-скай серыі Валера Дранчука "Маляўнічая Бацькаўшчына". Прысвячаўся ён 120-годдзю Уладзіміра Жылкі.

Юбілейны год мінуў, а вось каляндарная тэма паэта з нясвіжскіх Макашоў прадаўжаецца. Сямейная пара Вячаслаў і Нона Букі - актыўныя ўдзельнікі грамадскіх акцый па ўшанаванні памяці земляка - прапанавалі электронны варыянт свайго календара на 2021 год. Ён аздоблены фотаздымкамі макашоўскіх краявідаў і дапоўнены вершамі паэта з берагоў Ушы.

*Пад штандар бел-чырвона-белы*
*Гартуйся раць, адважна, смела,*
*Адважных, храбрых ваяроў!*
*...Пад знак Літоўскае Пагоні*
*Абараняць краіны гоні,*
*Народ забраны вызваляць,*
*Ісці к святлу, святлом палаць -*
*Спяшайся той, хто к волі рвецца,*
*Ў кім беларуса сэрца б'ецца.*




Усе ахвотныя могуць раздрукаваць чатырнаццаць старонак у патрэбным для сябе фармаце ды зноў жыць па календары "песняра красы", пераняўшы яго змагарны дух і веру ў тое, што "абуджаны народ быліц дазнае сказ". Папрасіць эл. версію календара можна па электроннай пошце buko.nonna@yandex.by



Асабліва прыдасца калян-дар жыхарам вёскі Макашы, вуч-ням ды настаўнікам мясцовай школы, работнікам устаноў культуры. Як падаецца, яны перш за іншых мусяць шанаваць свайго земляка ды па добрым прыкладзе аўтараў згаданых календароў рупіцца пра цікавыя формы папулярызацыі яго спадчыны.

***Вольга Карчэўская.***
*Нясвіж.*

**На фота**:

1. Старонка календара.

2. Вячаслаў Бука каля помніка У. Жылку ў Макашах.

# НЯСВІЖСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## *ліпень - снежань*

**490 гадоў** (1530 г.) ад першых пісьмовых сведчанняў пра вёску (тады маёнтак) **Астроўкі**, пры ўдакладненні межаў паміж Ільінічамі, Бейнаровічамі, Пратасовічамі і Чыжамі.

**460 гадоў** ад першых дакументальных сведчанняў пра **Баяры**. У 1560 годзе маёнтак Баяры разам з навакольнымі землямі набыў Мікалай Крыштаф Радзівіл.

**425 гадоў** таму (у 1595 г.) пабудаваны першы ў Беларусі жаночы каталіцкі манастыр (кляштар) па праекце Яна Марыі Бернардоні. Вежа-брама з'явілася пазней. Сёння ў былых манастырскіх карпусах размяшчаецца Нясвіжскі педагагічны каледж імя Якуба Коласа.

**300 гадоў** ад першых дакументальных звестак пра сяло **Лявонавічы**, якое ў 1720 годзе ўладальнік Ян Магільніцкі аддаў у арэнду манахам езуітам.

**270 гадоў** таму ў Нясвіжы адноўлена друкарская справа. Вялікі гетман літоўскі Міхаіл Казімір Радзівіл (Рыбанька) у 1750 годзе атрымаў дазвол ад караля Аўгуста ІІІ на адкрыццё друкарні ў Нясвіжы. Праз год Радзівіл перадаў друкарню езуітам, але падтрымліваў яе фінансава. Друкарня праіснавала 50 гадоў і служыла пераважна Радзівілам і мясцоваму езуіцкаму калегіюму.

**265 гадоў** з пачатку збудавання летняга палаца пад назвай "Кансаляцыя" (1755 г.) у парку "Альба" (пабудова не захавалася).



**260 гадоў** таму (у 1760 г.) нясвіжскім майстрам Еўнам Якабсанам вынайдзена і зроблена першая лічыльная машына, якая выконвала ўсе чатыры арыфметычныя дзеянні. Цяпер знаходзіцца ў музеі М.В. Ламаносава ў Санкт-Пецярбурзе.

**260 гадоў** таму ў мястэчку **Сноў** (сёння аграгарадок з аднайменнай назвай) пабудаваны мураваны парафіяльны рымска-каталіцкі касцёл з цэглы ў стылі барока на сродкі Яна Хрысціяна Рдултоўскага. У 1866 годзе ператвораны і асвечаны ў праваслаўную прыходскую Спаса-Прэабражэнскую царкву. Аднаўляўся двойчы (у 1921 і 1994 гг.) і перададзены каталіцкім вернікам.

**185 гадоў** ад прэм'еры ў Берліне оперы Генрыка Антонія Радзівіла "Фаўст", лібрэта якой пісаў сам Гётэ. І 140 гадоў ад апошняй пастаноўкі "Фаўста" гэтай версіі, гэтага суаўтарства ў Англіі.

**145 гадоў** з дня заснавання Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1875 г.). Рыхтавала настаўнікаў для пачатковых школ. Займала будынак скасаванага Дамініканскага кляштара, праіснавала да 1919 года.

**100 гадоў** споўнілася б 20 верасня Ядвізе Дудзянковай (у дзявоцтве Аўлачынскай) - пляменніцы Янкі Купалы, старэйшыні Купалавага роду. Усяго толькі два гады не дажыла яна да шаноўнага юбілею. Больш сямідзесяці гадоў яе жыцця - нясвіжскія.



*Ядвіга Дудзянкова*

**90 гадоў** Льву Гумілеўскаму (31.10.1930 г.) - беларускаму скульптару, заслужанаму дзеячу мастацтва (1977 г.), Народнаму мастаку Беларусі (1991 г.), лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР, прэміі Саюзнай дзяржавы (2010 г.), уладальніку Сярэбранага медаля імя Грэкава і медаля Ф. Скарыны. Пасля вайны жыў ў Нясвіжы, займаўся ў мастацкай студыі Міхала Сеўрука. Для горада свайго юнацтва выканаў нямала скульптурных работ. Цяпер жыве і працуе ў Менску.



*Леў Гумілеўскі*

**55 гадоў** таму адбылося ўрачыстае адкрыццё сярэдняй школы № 3 горада Нясвіжа. Дырэктар школы Злотнікаў Яфім Львовіч, намеснік дырэктара Саўчанка Н.А., намеснік дырэктара па вытворчым навучанні Лосеў І.І., намеснік дырэктара па пачатковых класах Жышкевіч А.А. У школе навучалася 740 вучняў.

**25 гадоў** таму (03.07.1995г.) - пачатак дзейнасці Нясвіжскага аддзялення Белтэлекама

**15 гадоў** таму (2005 г.)сесія ЮНЕСКА зацвердзіла ўнясенне архітэктурнага комплекса князёў Радзівілаў у Нясвіжы ў спіс сусветнай культурнай спадчыны чалавецтва.

**10 гадоў** з пачатку правядзення фестывалю "Вечары Вялікага тэатра оперы і балета ў замку Радзівілаў" (2010 г.). Асаблівасцю з'яўляецца тое, што ў Нясвіж прыязджае вялікая колькасць турыстаў з Заходняй Еўропы, Расіі, Украіны, Прыбалтыкі і інш.

---

***Перачытваючы Сымона Буднага***

# СЫМОН БУДНЫ ПРА ЎЛАДУ І СВАБОДУ САМАВЫЯЎЛЕННЯ

Найважнейшым элементам светапогляду і дзейнасці Сымона Буднага з'яўляецца ўсведамленне ім свабоды самавыяўлення. Свабоду самавыяўлення ён лічыў галоўнай умовай здаровага развіцця грамадства.

*"... Хіба можа быць прызнанай улада, якая ўсім жадае заткнуць рот, а аднаму ці тром дазваляе папусціць лейцы, каб пісалі, што захочацца? Я прызнаю ўладу і асуджаю беспарадак,* - пісаў ён аднаму са сваіх апанентаў, - *але я называю ўладай не тое, што ты. У цябе ўладай з'яўляецца тая, што аднойчы прынятая і патрабуецца тром, ахоўваецца ўсімі сіламі (нягледзячы на тое, добра тое ці блага); для мяне гэта не ўлада, а тыранія і рабства, вельмі падобнае на папскія. Улада была б, калі б не гасілі дух, усё выпрабоўвалі і прымалі тое, што аказалася лепшым... Дай нам Божа такую ўладу, пры якой мы не думалі б пра сябе, не прыніжалі б іншых, дазвалялі б казаць праўду адзін аднаму, не лічылі б сябе бязгрэшнымі... Трэба, каб у нас была воля размаўляць аб Боскіх справах не толькі вучоным, але і простым людзям, не толькі заможным, але і бедным. Гэта цудоўная, асаблівая воля..."*

# Першай беларускай вылічальнай машыне - 260 гадоў

***У Санкт-Пецярбургу, у музеі М.В. Ламаносава, дагэтуль можна ўбачыць унікальны экспанат - першую ва Усходняй Еўропе механічную вылічальную машыну, створаную беларускім майстрам Еўнам Якабсонам у горадзе Нясвіжы, у прамежку паміж 1740 і 1770 гадамі… Як гэта было? Паспрабуем уявіць…***

### Гутарка з гетманам

…Малады загаршчык* і ювелір Еўна Якабсон, хутаючыся ў кажух і асвятляючы сабе шлях вялікай свечкай, паспешліва ішоў па брукаванай вузенькай цёмнай вулачцы, асветленай рэдкімі паходнямі. Навошта яго так тэрмінова выклікаў да сябе сам гетман Міхал? Пра гэта можна было толькі здагадвацца.

На мосце дзяжурыў патруль кадэтаў. Але да іх ужо бег з замка апрануты ў чорнае чалавек - памагаты камердынера. Еўна адразу пазнаў яго, бо часта бываў у багатай бібліятэцы замка, дзе можна было знайсці вялікае мноства трактатаў па матэматыцы і іншых дакладных навуках.

- Пан Якабсон? - спытаў служка і, не чакаючы адказу, павёў Еўну ў замак. Нас чакаюць: сам гетман загадаў неадкладна вас адшукаць. А ён чакаць не любіць.

Пра круты нораў Міхала Еўна чуў нямала. Гетман выключна далікатным быў толькі з дамамі, а ў справах і ў баі праславіўся цвёрдым і нават жорсткім. Можа быць, таму на яго багнетах і вярнула сабе ўладу ў Рэчы Паспалітай страціўшая было ўплыў дынастыя Аўгустаў.

Цяпер Міхал бываў у Нясвіжы рэдка - шмат часу праводзіў у Варшаве. Але зараз, дзякуючы яго высілкам, гэты, яшчэ некалькі гадоў назад зусім разбураны, горад атрымаў новае жыццё. І ўсё таму, што Радзівіл літаральна не выязджаў за яго межы, кіраваў аднаўленнем будынкаў, будаўніцтвам. Тады вось Еўну Якабсона ўпершыню і запрасілі на прыём да гетмана. Ён, у складзе групы нямногіх, уганараваных увагай ўладара маладых майстроў, павінен быў аказаць дапамогу ў будаўніцтве суконнай мануфактуры. А што ж цяпер? І чаму паклікалі яго аднаго? Майстар губляўся ў здагадках.

Сям'я Якабсона пераехала ў Нясвіж праз дзесяць гадоў пасля таго, як шведы пакінулі разбураны імі замак. У выніку вайны, Нясвіж пазбавіўся большай часткі насельніцтва і жылля, якое згарэла ў выніку пажараў. Горад адчайна меў патрэбу ў працоўных руках, у майстрах і рамесніках, якія аказалі б дапамогу ў яго аднаўленні. Была тут праца і для бацькі Еўны - ювеліра Якуба. За некалькі гадоў ён навучыў хлапчука ўсім тонкасцям свайго майстэрства, а загаркавую справу здольны хлопец асвоіў сам, назіраючы за працай загаршчыка з суседняй крамы.




*Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька*

Пасля халодных скразнякоў у калідорах прыёмны пакой гетмана, насычаны цяплом камінаў, здаўся прамерзламу майстру райскім кутком. Фрэскі і вітражы былі яшчэ не скончаны, таму частка памяшкання была завешана грубай тканінай, з-за зморшчын якой прабівалася святло - майстры працавалі над аднаўленнем Нясвіжскага замка дзень і ноч.

* Загаршчык - майстар, які вырабляў загаркі (гадзіннікі).

Полаг тканіны адсунуўся, і ў цэнтр залы імкліва выйшаў мужчына ў чорным аксамітавым камзоле. Гэта і быў Міхал Радзівіл, вялікі гетман літоўскі. Усе прысутныя, уключаючы Еўну, знялі шапкі і нізка пакланіліся, а Міхал, беспамылкова выдзеліўшы поглядам Якабсона, жэстам запрасіў яго падысці бліжэй.

- Дык вось ты які, наш майстар! Пайшлі да мяне, рыбанька, пагутарым, - прыязна сказаў ён.

У палатах гетмана панавала цішыня і паўцемра. Міхал шырокім жэстам запрасіў майстра за велізарны разьбяны дубовы стол. Сам ён сеў побач, ссунуўшы ў бок кучу папер і пяро з чарніліцай. Зашасталі занавескі, і з суседніх пакояў паціху выйшла прыгожая юная жанчына ў доўгай сукенцы, з арыстакратычна бледным тварам. У ювеліра мацней забілася сэрца - ніколі ён падобнай прыгажосці не бачыў. Не гледзячы на Еўну, усміхнуўшыся, дама грацыёзна нахілілася і, пацалавала Міхала ў шчаку. Памарудзіўшы, каб лепей разглядзець госця і, дачакаўшыся ўхвальнай усмешкі Радзівіла, яна выйшла. Гэта была пышная Ганна Луіза Мыцельская, дачка познаньскага кашталяна Мацея Мыцельскага, другая жонка Міхала.

- Ты, Еўна - майстар, знаўца навук, шмат працуеш у маёй бібліятэцы, сам вучышся, многае ўжо зрабіў і прыдумаў, дапамог нашаму гораду - гаварыў Міхал. - Вось скажы, мне, як зрабіць Нясвіж значным, каб калі і не лепшым за Варшаву, то каб ужо сапраўды не горшым быў. Каб навукі і мастацтвы тут былі, ды гандаль, каб ведалі нас усюды і гаварылі пра нас?

Еўна задумаўся.

- Так нямала ўжо зроблена, гаспадар, працуюць мануфактуры, ёсць у нас гасцініцы, рынкі, гандаль і нават тэатр, чаго на многія сотні вёрст да самай Варшавы і ў памоўцы няма…

- Відаць, мала гэтага, - працягнуў думку Еўны гетман Міхал. Трэба штосьці яшчэ, штосьці сваё, у нас створанае, карыснае і раскошнае. І каб людзі ведалі пра гэта і прыязджалі да нас паглядзець-павучыцца з далёкага далёка, каб багацеі сабе дамы куплялі. Тады і стане Нясвіж горадам вялікім, не вёрстамі, але справамі сваімі. А вось ты, майстар, мог бы зрабіць штосьці вялікае, чаго няма вакол на тысячы вёрст?

Не адказаў Еўна на гэта пытанне, спалохаўшыся зусім. Чаго хоча ад яго гетман, ён не разумеў.

- Чуў я, - ізноў лісліва пачаў свой маналог уладар, што французы зрабіць здолелі такую машыну, якая сама лічыць лікі і вялікія, і малыя. І робіць яна гэтыя разлікі хутка і беспамылкова. Вось ты, з матэматыкай, я чуў, знаёмы выдатна, механіку ведаеш у дасканаласці, ювелірным майстэрствам авалодаў і рукі ў цябе залатыя. Ці змог бы ты французаў перасягнуць?

Ні пра машыну гэтую, ні пра аналагічныя прылады Еўна нічога не ведаў. Але адказаць адмовай гетману, які мог караць смерцю і мілаваць адным рухам рукі, было проста небяспечна. Прынамсі, можна было атрымаць сотню бізуноў, пазбавіцца добрага заробку і страціць доступ да каштоўнай бібліятэкі. Пра максімум і думаць не хацелася. Таму майстар толькі кіўнуў, апусціўшы вочы пад цвёрдым, дапытлівым поглядам усемагутнага арыстакрата.

Дахаты ён прыйшоў у цяжкіх роздумах, і, не гледзячы, бразнуў аб стол важкім мяшэчкам з залатымі манетамі. У жонкі Марты акругліліся ад здзіўлення вочы, але пытанні задаваць яна пабаялася, ведаючы, куды хадзіў Еўна.

У наступныя дні яна наогул рэдка бачыла мужа, які суткамі знікаў у бібліятэцы Радзівілаў. Толькі аднойчы ён паклікаў яе - дапамагчы прыбраць будучую майстэрню, якая была выдзелена яму ў склепе мясцовага Дамініканскага манастыра, па загадзе гетмана Міхала.

**Цуд-машына**

Еўна старанна вывучыў усё, што было вядома пра таямнічыя вылічальныя машыны. Сяк-так, з дапамогай падарожнага манаха з Еўропы, пераклаўшы некалькі французскіх трактатаў, ён даведаўся пра матэматыка Паскаля, пра яго працы і пра вынайдзеную ім вылічальную машыну. На жаль, там была толькі агульная інфармацыя, без усякіх схем і чарцяжоў.

Майстар напісаў гетману прашэнне з просьбай накіраваць яго ў Варшаву, пабываўшы ў якой ён склаў новае прашэнне - з шырокім спісам неабходных яму вельмі дарагіх і рэдкіх прылад і матэрыялаў, прасіў выдзеліць яму памочнікаў. Гетман Міхал не гандляваўся і загадаў усё аплаціць.

Штосьці з неабходнага ўдалося купіць у Нясвіжы, але многае прыйшлося заказваць купцам, якія вандруюць па Еўропе і Азіі - тонкія і вострыя разцы і пілы для працы з металам, брусочкі медзі, цынку і цволава, якія абыйшліся Еўне ледзь не па кошце золата. Потым было першае плаўленне медзі ў глінянай печы, складзенай проста ў майстэрні, у выніку чаго майстар і яго памочнікі атрымалі трывалую і зносатрывалую латунь для сваёй машыны.

У выніку працяглай коўкі, апрацоўкі разцамі, шліфоўкі і свідравання, грубыя адліўкі з латуні атрымалі неабходны выгляд і форму. На корпус машыны была нанесена гравіроўка з лічбамі, майстар з памочнікамі адкаваў адмысловыя маленькія спру-

жыны, валы і дыскі. На ўсё гэта сышло некалькі гадоў.

За ўвесь гэты час гетман пасылаў па Якабсона толькі аднойчы. Майстар з'явіўся да ўладара з кучай папер, чарцяжоў і схем. Але думкі Міхала Казіміра блукалі далёка адгэтуль - у апошні час яго займалі справы ў Варшаўскім сойме, і таму былі сур'ёзныя прычыны. Арыстакратычнай эліце магутных суседзяў Рэчы Паспалітай, Расіі і Прусіі, не падабалася панаваўшая на тэрыторыі краіны "шляхоцкая вольніца", якая, па іх меркаванні, прывяла да паразы Польшчы ў Паўночнай вайне. Слабасць каралеўскай улады правакавала апетыты разрастаўшайся Расійскай Імперыі, вярхі якой выдатна памяталі крыўду, нанесеную, хай і змушанай, але ўсё ж здрадай Аўгуста Другога, што заключыў за спіной Расіі саюз са шведамі. Патроху наспявала бура.

Аднак гетман уважліва выслухаў майстра і азнаёміўся з яго распрацоўкамі. Ён загадаў паспяшацца - новай распрацоўкай ужо зацікавіліся ў Варшаве.

Еўна высвятліў, што арыфмометр Паскаля ўмеў толькі складаць - і рабілася гэта пры дапамозе колцаў з пазначэннем лічбаў і з зачэпамі: адно кола, цалкам пракручваючыся, ад адзінкі да дзявяткі, зрушвала наступнае. Гэта значыць, калі вы, дапусцім, да шасці дадаяце пяць, то круціце першае колца шэсць, а потым пяць разоў, трапляеце зноў на адзінку, а другое колца за гэты час робіць адзін аварот - на цыферблаце будзе 11.

Незнаёмы з цыліндрычным арыфмометрам нямецкага матэматыка і механіка Годфрыда Лейбніца, а таксама са складанай драўлянай прыладай італьянца Джавані Палені, Еўна паспрабаваў ўдасканаліць простую канструкцыю Паскаля, якая дазваляла выконваць толькі складанне. Ён зрабіў прастакутную скрыначку з латуні, у якой размясціў механізм, але не з шасцю, як у Паскаля, а з дзевяццю разрадамі. З дапамогай гэтага арыфмометра можна было не толькі складаць, але таксама і адымаць, памнажаць і дзяліць. І мела машына не шэсць, як у арыфмометра Паскаля, а дзевяць разрадаў. Механізм быў пабудаваны па дасціпнай і ўнікальнай схеме на спружынах, дысках са штыркамі замест шасцерняў і на падспружыненых зубчастых грабянцах. Ён рухаўся адмысловым ключом.

Пры адыманні колы з разрадамі проста круціліся ў другі бок, перадаючы адсутныя разрады ад старэйшага да малодшага. Множанне выконвалася шляхам паслядоўнага складвання множымага неабходную колькасць разоў, прычым колькасць складанняў фіксавалася аўтаматычна. Дзяленне, адпаведна, выконвалася шляхам паслядоўнага адымання, таксама з аўтаматычным улікам колькасці адыманняў (так вызначалася дзель).

Прамежкавыя вынікі фіксаваліся з дапамогай асобнага набору дыскаў, не злучанага з астатнім механізмам. Для зручнасці множання, на панэлі



*Арыфмометр Паскаля*



*Вылічальная машына Якабсона*



надзейнай у працы. Вылічальнік дэманстравалі ўсім гасцям Міхала Казіміра, а таксама багатым купцам і навукоўцам, якія прыязджалі ў горад. Слава пра машыну і пра слаўнага кіраўніка горада Міхала Казіміра разнеслася па ўсім свеце…

машыны былі выгравіраваны адмысловыя дугі са зручна і зразумела размечанай табліцай множання. Гравіроўка верхняй панэлі ўтрымоўвала поўную інфармацыю пра выробленыя вылічэнні, уключаючы разраднасць кожнай лічбы.

Спружынны механізм і грабянцы былі запазычаны з гадзіннікавага механізму і дазвалялі выконваць вылічэнні, не ўстанаўліваючы рычажкі машыны назад пасля кожнага дзеяння - яны зашчоўкваліся ў пачатковае становішча аўтаматычна. Зборка вылічальнай машыны таксама была ювелірнай - кожная дэталь была старанна размечана, аж да ўказання разраднасці лікаў, з якой працуе тая ці іншая дэталь. Мініяцюрныя ключы для ўводу аперацыі ідэальна ўваходзілі ў гнёзды, так што іх немагчыма было пагнуць ці сарваць у выніку паспешлівых вылічэнняў. Механізм, забяспечаны рычагом, ролю якога выконваў ключ, практычна не патрабаваў высілкаў для ўводу дадзеных, чым грашылі першыя арыфмометры.

І вось праз гады праца нарэшце была скончана. Машыну паказалі вялікаму гетману, і ён у прысутнасці ўсяго двара, у зараз ужо раскошна аздобленай зале з пышнымі карцінамі, фрэскамі і шыкоўнымі вітражамі ў вокнах, горача падзякаваў майстру за яго тварэнне. Затым Міхал выступіў з палымянай прамовай, у якой гаварыў пра Нясвіж і пра яго вялікую будучыню. А Еўна (во цуд!), быў уганараваны ўсмешкай чароўнай Ганны-Луізы.

Радзівіл выкупіў у ювеліра яго вылічальнік за вялікія грошы, нягледзячы на тое, што ён ужо выдаткаваўся на стварэнне гэтага шэдэўра тэхнікі. Машыну доўга і актыўна выкарыстоўвалі і сам Міхал Казімір, і яго фінансісты, балазе, прылада была не толькі выдатнай якасці, але і надзвычай

**Напярэдадні трагедыі**

Аднойчы, праз некалькі гадоў пасля апісаных падзей, ёдкай, халоднай восеньскай ноччу, як і калісьці ў першы раз, Еўну загадалі з'явіцца да гетмана. Ён з неахвотай пакінуў свае пакоі ў велізарным доме насупраць Ратушы і гандлёвых радоў - адным з самых шыкоўных нясвіжскіх асабнякоў, пабудаваных тут пасля заканчэння Паўночнай вайны. На першым паверсе дома зараз былі яго паспяховыя майстэрні - многія багацеі замаўлялі ў вядомага майстра розныя вырабы: гадзіннікі, дарагое начынне, упрыгожванні. Якабсон абзавёўся слугамі і неабходнай колькасцю работнікаў.

Уласная каляска з канём у імгненне даімчала Якабсона да замка Радзівілаў. Ахова, якая складалася з хмурых афіцэраў мясцовага гарнізона, прапусціла шляхетнага госця без лішніх пытанняў.

Міхал Казімір сустрэў майстра, лежачы ў пасцелі. У апошнія гады ён моцна хварэў - цяжкая і аскетычная ваенная маладосць наклала цяжкі адбітак на яго здароўе. Побач клапацілася засмучаная Ганна-Луіза, якая ледзь зірнула на візіцёра. Гетман, прасачыўшы захоплены погляд ювеліра, жэстам адправіў жонку і слугаў.

- Прыгожая Ганна? - спытаў ён, пранізліва гледзячы на майстра. Еўна моўчкі кіўнуў, ізноў, як у маладыя гады абмёршы ад цяжкага погляду гетмана, які, здавалася, пранізваў яго наскрозь.

- Што з ёй будзе, калі я памру? - хмурна прамовіў Міхал Казімір, апусціўшы вочы. Потым, ён ужо спакайней зірнуў на Якабсона.

- Вось што, рыбанька, ты - добры майстар, з'язджай адгэтуль далей, у Рэч Паспалітую, прадавай усё, што ёсць. У мяне ў Лодзі знаёмы біскуп, я перадам яму ліст - ён дапаможа табе ўладкавацца і забяспечыць усім неабходным. Калі патрэбны табе грошы - я дапамагу табе, пакуль жывы, у замак патрэбны вялікі гадзіннік, зробіш яго - шчодра заплачу...

Вочы Еўны акругліліся:

- Як жа так, уладар, у мяне тут хата, сям'я, справа мая, што грошы мне прыносіць. Як жа ўсё гэта кінуць? Ды і працы ў горадзе яшчэ гэтулькі, што для мяне, маіх дзяцей і ўнукаў хопіць. Бо вы ж казалі пра вялікі лёс Нясвіжа…

- Не выйдзе нічога - перапыніў яго Міхал. - Не хопіць нашых сіл і жыццяў нашых, каб захаваць Нясвіж і памножыць славу яго. Скончыўся наш супакой. У Варшаве ўжо камандуе рускі амбасадар, князь Рапнін. Але гэтага рускім мала - яны з прусакамі жадаюць Рэч Паспалітую напалам падзяліць. У наваколлях Нясвіжа ўжо на ўсю моц шпегі рускія шнараць - выведваюць, колькі гармат у нас у замку, які гарнізон. Можа праз месяц, а можа, праз год будуць тут рускія войскі, і разрабуюць яны ўсё дашчэнту! Магчыма, мяне ўжо на свеце не будзе, - сумна сказаў ён. - Тым лепш, навошта мне бачыць падзенне Нясвіжа, якому аддаў сваё жыццё? Але я хачу, каб ты і ўсе мае майстры жылі і дзеялі далей.

Еўна літаральна скамянеў ад такіх навін. У корчмах заезджыя купцы казалі, вядома, рознае, былі і навіны дрэнныя, але вайны тут ніхто не чакаў.

Гетман стомлена прыплюшчыў вочы - аўдыенцыя была скончана.

З'язджаць Еўну давялося - з аднаго боку, гетман не жартаваў і ведаў, пра што кажа, з другога - не паслухацца яго было нельга. Развітацца з Міхалам Еўну не дазволілі - гетмана мучылі болі, і яму было не да гасцей. Ювелір прастаяў каля дзвярэй пакояў да вечара, мнучы ў руках капялюш. У адно імгненне яму нават здалося, што ў акне мільганула чароўнае аблічча Ганны-Луізы…

На наступны дзень ён з'ехаў.

**На вечныя часы…**

Неўзабаве гетман памёр. А праз два гады ў Нясвіж уварваліся рускія войскі. Замак і горад былі разрабаваны, каштоўнасці - канфіскаваны. Многія жыхары загінулі. Сям'я Радзівілаў, дзякуючы прадбачлівасці Міхала, загадзя выехала. Рускія салдаты бралі Нясвіж яшчэ некалькі разоў - у 1768, 1792 і ў 1812 годзе. У апошні раз яны жорстка катавалі прыслужніка Радзівілаў, і той выдаў месцазнаходжанне малой скарбніцы арыстакратаў. Яе рэквізавалі, а частку (60 пудаў каштоўнасцяў) - разрабавалі. Існуе легенда, што астатнія скарбы яшчэ дзесьці схаваны…

Чароўная Ганна-Луіза ўцякла ў Прагу, дзе і зачахла ў адзіноце праз дзесяць гадоў. Род Радзівілаў, вядома, не спыніў на гэтым існаванне. Сын Ганны Геранім стаў вядомым польскім дзяржаўным дзеячам, жаніўся з нямецкай прынцэсай, у іх нарадзілася чацвёра сыноў. У выніку, Геранім нават вярнуў сабе Нясвіжскі замак. Праўда, ненадоўга.

Загаршчык і вядомы ювелір Еўна Якабсон спакойна дажыў свой век ў ціхай Лодзі, дзе ў касцёле, у мястэчку Гнезна да канца 19 стагоддзя захоўвалася яшчэ адна яго праца - пышная залатая чара з раскошнай гравіроўкай, зробленая ім у 1786 годзе. Пазней яе шчасліва выкралі.

А вось яго вылічальнай машыне была наканавана доўгае і шчаслівае жыццё. І дагэтуль яе можна ўбачыць у Санкт-Пецярбургскім музеі Ламаносава. На ёй маюцца надпісы на польскай і нямецкай мовах - *Mechanische Rechnungs Mashine - Mechina Mechaniszna do Rachunku - Механічная вылічальная машына.* Таксама маюцца наступныя надпісы: *Zu der Aufgabe des Addirens, Subtantirens, Multiplicirens, und Devidirens von den Nummer Eins biz kann man hier in der Bruchen zertheilen (Для задачы складання, адымання, множання і дзялення ад ліку адзін да тысячы мільёнаў, і што застаецца ад дзялення можна тутака ж падзяліць на дробы)* і *Erfunden und verfertigen von dem Hebreer Jawna Jacobson, Uhrmacher und Mechanicis in der Stadt Nieswiez in Lithauen, Gouvernement Minsk. (Вынайдзена і зроблена габрэем Еўнам Якабсонам, гадзіннікавым майстрам і механікам, у горадзе Нясвіжы ў Літве, Менскае ваяводства).*



***Эдуард ТРОШЫН.***

# Еўна Якабсон (Jewna Jacobson)



Еўна Якабсон (Jewna Jacobson) - вынаходнік, гадзіннікавы майстар і механік габрэйскага паходжання, які стварыў вылічальную механічную 9-разрадную машыну, што выконвала ўсе арыфметычныя аперацыі[1][2][3].

Служыў загаршчыкам, механікам і, відаць, ювелірам пры двары Міхала Казіміра Радзівіла.

У канцы XIX стагоддзя недалёка ад Познані, у мястэчку Гнезна, у касцёле мелася залатая чара з гравіраваным надпісам, якая паказвае, што яе вырабіў у 1786 годзе Еваў Якабсон, верагодна, Еўна Якабсон.

У другой палове XVII стагоддзя (не пазней 1770 года) у Нясвіжы была створана вылічальная машына. Надпіс, зроблены на гэтай машыне, абвяшчае, што яна "вынайдзена і выраблена габрэем Еўнам Якабсонам, гадзіннікавым майстрам і механікам у горадзе Нясвіжы ў Літве, Менскае ваяводства" ("Erfunden und verfertigen von dem Hebreer Jewna Jacobson, Uhrmacher und Mechanicis in der Stadt Nieswiez in Lithauen, Gouvernement Minsk"). Паказальна, што ў савецкіх і расійскіх апісаннях перакладу гэтай фразы як правіла апускаецца слова "габрэем" ("Hebreer").

Мабыць, гэта сумавальная механічная 9-разрадная машына была выканана ў горадзе Нясвіжы Менскага ваяводства ў складзе Рэчы Паспалітай (цяпер Нясвіж у Менскай вобласці Беларусі) не пазней 1768 года (спецыялісты бяруць 1760 год).

Цікавай асаблівацю машыны Якабсона была адмысловая прылада, якая дазваляла аўтаматычна падлічваць лік зробленых адыманняў, інакш кажучы - вызначаць дзель. Наяўнасць гэтай прылады, дасціпна вырашаная праблема ўводу лікаў, магчымасць фіксацыі прамежкавых вынікаў - усё гэта дазваляе лічыць Якабсона выдатным канструктарам вылічальнай тэхнікі свайго часу.

Машына выраблена ў выглядзе латуневай скрынкі даўжынёй 34,2 см, шырынёй 21,8 см і вышынёй 3,4 см на 4-х точаных ножках дыяметрам 1,6 і вышынёй 1 см. На багата арнаментаваным верхнім вечку машыны маецца шэраг надпісаў і лічбаў. Адзін і той жа надпіс па-нямецку і па-польску: *Mechanische Rechnungs Maschine; Machina Mechaniszna do Rachunku*, гэта значыць "механічная злічальная машына". Іншы надпіс: *Zu der Aufgabe des Addirens, Subtantirens, Multiplicirens, und Devidirens von den Nummer Eins bis zu Tausend Millionen und ubrig bleibt von der Division und das kann man hier in der Bruchen zertheilen* - гэта значыць *"Для задачы складання, адымання, множання і дзялення ад ліку адзін да тысячы мільёнаў і астатау ад дзялення можна тутака ж падзяліць на дробы"*.

Механізмы машыны Якабсона зманціраваны на верхнім вечку скрынкі з унутранага боку, а на вонкавай засяроджаны ўсе павадкі для ажыццяўлення вылічальных аперацый і ўсе шкалы. Уздоўж верхняга канца вечка, праз адмысловыя адтуліны, выведзена 9 павадкоў, якія з'яўляюцца восямі размешчаных пад вечкам дыскаў з нанесенымі на іх лічбамі ад 0 да 9. Канцавая частка кожнага павадка мае квадратны перасек, таму яго можна было лёгка паварочваць пры дапамозе адмысловага ключа. Аналагічна зроблены і ўсе іншыя павадкі, прызначаныя для розных мэт. Ключы, пры дапамозе якіх рабіліся вылічальныя аперацыі, мелі стрэлкі, якія дазвалялі спыняць павадкі пры іх кручэнні супраць вызначаных лічбаў на дугавых шкалах. Пад кожным з 9 павадкоў маецца круглае акенца, у якім можна чытаць любую з лічбаў дыска пры яго кручэнні вакол восі. Гэтыя дыскі прызначаны для фіксавання пачатковых дадзеных і прамежкавых вынікаў вылічэнняў. Ніжэй павадкоў і акенцаў на вечку знаходзяцца яшчэ 9 павадкоў, над кожным з іх нанесена складальная паўакружнасць - дугавая



***Вылічальная машына Якабсона***

шкала з награвіраванымі на ёй па гадзіннікавай стрэлцы лічбамі ад 0 да 9. Пад кожнай са шкал - значэнне яе лічбаў: *Eins, Zehn, Hundert, Eins Tausend, Zehn Tausend, Hundert Tausend, Ernes Million, Zehn Million, Hundert Million*, г. зн. адзінкі, дзясяткі, сотні, тысячы і іншае да сотняў мільёнаў. Шкалы размяшчаюцца па ўзрастанні значэнняў іх лічбаў справа налева. Ніжэй кожнага з гэтых паваткоў таксама маецца па акенцы. Праз іх чытаюцца лічбы, нанесеныя на дысках павадкоў. Гэты шэраг прызначаны для складання любых лікаў - толькі б іх сума была < $10^9$.

Для складання ключом (ці ключамі) са стрэлкай на шкалах набіраецца першы складнік, для чаго на шкале адзінак паваротам павадка ключом яго стрэлка ўсталёўваецца на адпаведную лічбу адзінак, на шкале дзясяткаў - на адпаведную лічбу дзясяткаў, на шкале сотняў - на адпаведную лічбу сотняў і інш. Калі ключ адпушчаны рукой, даве-дзены на кожнай са шкал да патрэбнай лічбы, павадок пад дзеяннем адмысловай спружыны аўтаматычна вяртаецца ў зыходнае становішча, паказваючы стрэлкай ключа на 0. У выніку такога набору ў квадратных акенцах (акенцах счыткі) з'яўляецца першы складнік, а ўся машына гатовая да набору наступнага складніка. Другі складнік набіраецца такім жа шляхам, як і першы. У выніку другога набору ў акенцах счыткі з'яўляецца сума двух першых лікаў, а машына гатовая да набору наступнага складніка. Ніжэй акенцаў счыткі размешчаны адзін шэраг павадкоў, з дапамогай якіх лічыльны механізм машыны ўсталёўваецца ў зыходнае становішча, гэта значыць ва ўсіх акенцах з'яўляюцца нулі. Яшчэ ніжэй знаходзіцца іншы шэраг павадкоў. Над кожным з гэтых павадкоў нанесена дугавая шкала, такая ж, як і над павадкамі для складання, толькі лікі ад 0 да 9 нанесены на ёй супраць гадзіннікавай стрэлкі. Гэты шэраг прызначаны для адымання ("Subtrahierens") любога ліку ці шэрагу лікаў з ліку, меншага за $10^9$. Для адымання з любога ліку, які ўжо набраны пры дапамозе шэрагу складання, неабходна адымны лік набраць пры дапамозе павадкоў на гэтым апошнім шэрагу. Пасля кожнага набору павадкі пад дзеяннем адмысловых спружын вяртаюцца ў зыходнае становішча, а вынік адымання можна прачытаць у акенцах счыткі. Машына знаходзіцца ў зыходным становішчы для наступнага складання ці адымання, бо гэтыя дзеянні можна рабіць у любой паслядоўнасці.

Для фіксацыі прамежкавых вынікаў і першапачатковых дадзеных, апроч першага шэрагу акенцаў з павадкамі, ёсць таксама адмысловая здымная лінейка, у якую ўмантавана шэсць дыскаў з лічбамі ад 0 да 9 і адпаведнымі павадкамі.

Аперацыя множання праводзіцца шляхам паўторнага складання, для чаго над дугавымі шкаламі шэрагу адыманняў нанесена табліца множання, якую, зрэшты, можна выкарыстоўваць і як табліцу дзялення. Каля кожнага павадка гэтага шэрагу награвіравана лічба; каля першага павадка - 1, каля другога - 2 і гэтак далей да 9, а над лічбамі дугавых шкал яшчэ шэраг лікаў, свой для кожнай шкалы. Напрыклад, над павадком, ля якога стаіць лічба 5, ля дугавой шкалы над лічбамі 0, 1, 2, 9 стаяць такія лікі: над 2 стаіць 10, над 3 - 15 і гэтак далей да 45 над 9. Гэта табліца множання нанесена над усімі дугавымі шкаламі павадкоў гэтага шэрагу - ад 1 да 9.

Дзяленне праводзіцца як паслядоўнае адыманне з фіксацыяй колькасці адыманняў, гэта значыць зводзіцца да паслядоўных адыманняў. Дзеліва ўсталёўваецца з дапамогай шэрагу складання, а дзельнік набіраецца паслядоўна з дапамогай шэрагу адыманняў датуль, пакуль у акенцах счыткі або з'явяцца ўсе нулі, або лік меншы, чым дзельнік, гэта значыць рэштка. Лік зробленых адыманняў, гэта значыць дзель ад дзялення, чытаецца ў акенцах счыткі шэрагу адыманняў.

У машыне маюцца дэталі, якія робяць яе працу больш надзейнай. Напрыклад, пад дугавымі шкаламі ў шэрагах складання і адымання знаходзяцца невялікія паглыбленні, якія дазваляюць сапраўды фіксаваць ключ павадка са стрэлкай у патрэбным становішчы, гэта значыць каля вызначанай лічбы. Колы 3, 7, 12 і гэтак далей маюць адмысловыя спружыны, якія засцерагаюць іх ад выпадковых паваротаў.

У цэлым, у сваёй аснове машына грунтуецца на класічнай схеме зубчастых перадач для правядзенняі складанняў (адыманняў) і пераносу дзясяткаў. Якабсон уносіць у гэту схему арыгінальны элемент - паўдыск, які ўжываецца для ўводу і з'яўляецца першым звяном у сістэме зубчастых перадач.

Характэрна таксама кампактнасць машыны - вузлы разрадаў знаходзяцца на розных узроўнях, што значна памяншае памеры самай машыны. Механізмы машыны зманціраваны на верхнім вечку скрынкі з унутранага боку, а на вонкавым баку засяроджаны ўсе павадкі для ажыццяўлення вылічальных аперацый і ўсе шкалы.

Машына Якабсона цяпер знаходзіцца ў калекцыі навуковых прылад Музея імя М.В. Ламаносава ў Санкт-Пецярбургу і з'яўляецца адзіным у музеях Расіі помнікам вылічальнай тэхнікі XVIII стагоддзя (уласна, машына Якабсона - першая механічная вылічальная прылада, створанае на былых тэрыторыях СССР/Расійскай імперыі[4]).





*Мадэль машыны Якабсона*

**Крыніцы:**


1. Механическая вычислительная машина Евно Якобсона;

2. Машина Якобсона;

3. Счетная машина Якобсона;

4. Гутер Р. С., Полунов Ю. П. От абака до компьютера. М.: Знание, 1975 - с.44-45

Больш падрабязна: http://cyclowiki.org/wiki/%D0%95%D0%B2%D0%BD%D0%BE_%D0%AF%D0%BA%D0%BE%D0%B1%D1%81%D0%BE%D0%BD

# ДУХОЎНАЯ РАДЗІМА ЛЬВА ГУМІЛЕЎСКАГА

Найлепшы падарунак у дзень нараджэння для вядомага скульптара, народнага мастака Беларусі Льва Гумілеўскага - сямейная паездка ў Нясвіж. Гэта добра ведаюць родныя, а таму, калі ёсць магчымасць і дазваляюць абставіны, абавязкова робяць такую прыемнасць дарагому чалавеку, дый сабе таксама. Наважваліся і сёлета, у суботу, 31 кастрычніка, акурат на 90-годдзе майстра, зладзіць такую настальгічна-душэўную экскурсію, але з-за каронавіруснай асцярогі вырашылі адкласці яе надалей.

Чаму менавіта ў Нясвіж, спытаеце. Нехта правільна скажа: Нясвіж - яго родны горад. А другі, няўніклівы і маладасведчаны, пачуе і паўторыць амаль тое ж: "Гумілеўскі нарадзіўся ў Нясвіжы". Паўторыць - і памыліцца. Калі не так катэгарычна, то ёсць ў гэтых словах і памылка, і праўда.

Нарадзіўся Леў Гумілеўскі ў Маскве, хоць маці яго была родам з маленькай вёсачкі Жарнелішкі, што на Віцебшчыне. Масква. Адкуль такая геаграфія ў лёсе беларускага скульптара і яго маці, у дзявоцтве Франі Паўлюкевіч? А было так: наважыліся яе, маладую ды прыгожую дзяўчыну, выдаць замуж за старога. Баронячы свае пачуцці і годнасць, рашылася яна на смелы і дзёрзкі па тым часе ўчынак - сышла з дому, як кажуць у народзе, у свет божы, дабралася аж да Масквы. Працавала ў доме Савы Мамантава. Пазнаёмілася з Мікалаем Гумілеўскім, выйшла за яго замуж, нарадзіла двух сыноў. Аднак па часе сямейнае жыццё не заладзілася - паехала на Радзіму. Ды на вакзале ў Барысаве нехта скраў усе яе пажыткі, усе грошы. Застаўся ў жанчыны толькі самы вялікі скарб - трохгадовы Леў ды шасцігадовы Мікалай. Са спачування нейкі чалавек прапанаваў уладкаваць яе на працу ў Старым Барысаве. Маўляў, папрацуеш крыху, заробіш грошай ды паедзеш далей. Але затрымаліся там даўжэй, бо неўзабаве выбудавалі Старабарысаўскі санаторый. Маці ўладкавалася туды на працу, а сыны пайшлі ў школу.

Пачынаецца вайна. Год перабіваліся неяк. Каб выжыць, пасвілі па чарзе ў гаспадара авечак. Старэйшаму Мікалаю пагражаў вываз у Германію. І маці зноў прымае смелае рашэнне: "Пойдзем у лес, у партызаны!" Леў Мікалаевіч дасёння ва ўсіх драбніцах памятае той шлях. Як іх, адзінокіх і беспрытульных, ахінула на ноч разгалістая елка, як радаваліся ранішняму вераснёўскаму сонцу. Як уцякалі ад паліцаяў, распытвалі ў людзей дарогу да партызан. Памятае спаленую вёску, здзічэлых курэй на папялішчы. Знямоглыя і згаладалыя, з тыдзень жылі-начавалі ў стажку сена ля той вёскі. Там паблізу і напаткалі партызан, што ішлі з Паліка на заданне. Так Мікалай стаў партызанам брыгады "Жалязняк", а маці з малодшым сынам далучыліся да такіх жа гаротнікаў партызанскага лагера, якія дапамаглі абсталяваць лясное жытло.

Ды гэта быў толькі пачатак. Наперадзе чакалі яшчэ дзве блакады. Падаліся далей, у глыбокі партызанскі край. Асабліва цяжка было падчас другой блакады, калі апынуліся ля самай ракі Бярэзіны. Туліліся на невялікіх астраўках сярод балот. Але і туды спрабавалі дабрацца фашысты. Неаднойчы ўцякалі ад іх праз балотную твань. Трымаючыся за бервяно, перапраўляліся на другі бераг ракі… Мерзлі, хварэлі, галадалі, радаваліся кацялку бульбачкі. А яе і згатаваць патрэбна яшчэ ўмудрыцца, каб не выдаць сябе, каб не ўчулі, не прыкмецілі ворагі кволенькі дымок. І якой жа радасцю было пачуць пасля доўгіх ліхалеццяў ад пасланца з вольнай зямлі: "Чаго седзіце? Немца ўжо прагналі!"

- У канцы вайны я выйшаў з балот з апухлымі ад голаду нагамі, - завяршае свой ваенны аповед Леў Мікалаевіч.

1944 год. Беларусь вяртаецца да мірнага жыцця. Пасля вайны дырэктар санаторыя ў Старым Барысаве атрымаў прызначэнне ў Нясвіж, у санаторый, што распачынаў працу ў княжацкім палацы. Ён прапанаваў лепшым супрацоўнікам паехаць з ім на новае месца. Прынялі прапанову найперш тыя, хто не меў свайго сталага жылля. Так сталася з родзічамі Янкі Купалы, так сталася і з сям'ёй Гумілеўскіх.

- Жылі ў замку Радзівілаў, - кажа Леў Мікалаевіч, - на першым паверсе, дзверы справа ад уваходу. Пасля - у Марысіным парку, на выхадзе з яго, у маленькім доміку-будачцы. Цяпер той пабудовы ўжо няма. Захоўвае ўсё толькі памяць.

Нясвіж уразіў. Заходні горад! Уразілі людзі. Глядзеў прыезджы хлопец і дзівіўся: на раварах ездзяць, задняе кола - з сетачкай! Прыкмячаў пачцівасць у абыходжанні, годнасць на тварах, прыстойнасць гаворкі. А хутаранцы на кірмашах! Якія дагледжаныя коні! Якая вупраж! Як самі апрануты! Гаспадары!



***У майстэрні***

У Нясвіжы прыйшло адчуванне Радзімы, сталага апірышча, жыццёвай пэўнасці і ўладкаванасці.

- Пасля Масквы, Барысава, ваенных пакут і блуканняў гэта быў рай! - сцвярджае Леў Мікалаевіч.

Тыя жыццёвыя даброты, што прапаноўваў юнаку пасляваенны Нясвіж, ён карыстаў напоўніцу. Прадоўжыў перарваную вайной вучобу ў школе. Займаўся ў авіямадэльным гуртку (ксёндз Гжэгаж Каласоўскі аддаў для гэтага палову плябаніі). Мадэлі Льва Гумілеўскага, скантруяваныя з чароту, лятaлі вышэй за іншыя. З'явілася нават на той час у хлопца мара стаць канструктарам. У нясвіжскіх азёрах навучыўся выдатна плаваць. Гуляў у футбол і валейбол на пляцоўках, што меліся ў Старым парку. Да віртуознасці асвоіў радзівілаўскі більярд, заганяў па восем шароў запар.

Да таго ж маці, убачыўшы на слупе каля плябаніі аб'яву, што мастак Сяўрук набірае студыю, запісала туды сына. Для гэтага былі ў жанчыны дзве нагоды: па-першае, прыкмеціла яго здольнасці да малявання, па-другое, імкнулася асцерагчы ад небяспечных пасляваенных забаў. І хлопец, адкінуўшы ўсё іншае, аддаўся маляванню. Падахвоціў да заняткаў і сваіх сяброў. Студыйны клас месціўся ў ратушы. Пасля школы ішлі хлопцы да той адметнай гістарычнай мураванкі і, пазіраючы на вокны другога паверха, клікалі:

- Міхаіл Канстанцінавіч! Міхаіл Канстанцінавіч!

Настаўнік неўзабаве даваў знак, што чуе, спускаўся ўніз, адчыняў уваходныя дзверы. Тыя дзверы варта параўнаць з брамай у іншы свет - здавалася б, умоўны, паралельны будзённаму пасляваеннаму жыццю і, разам з тым, такі рэальны, напоўнены велічнымі асобамі з гісторыі мастацтва, творамі, што на працягу стагоддзяў мелі статус шэдэўраў, узорных дасягненняў чалавецтва. Дый сам настаўнік быў асобай, мастаком, які на той час меў выдатную вывучку і практыку (вучань Фердынанда Рушчыца!), нацыянальную загартаванасць ад сяброўства і сумеснай працы з вядомымі віленскімі беларусамі. У творчай скарбонцы нясвіжскага майстра быў ужо і самы знакаміты яго твор - велічнасімвалічнае "Жніво".

- Нарадзіўся я ў Маскве, але духоўнай маёй радзімай з'яўляецца Нясвіж, - сцвярджае Леў Мікалаевіч і працягвае говорку падзячнымі словамі Міхасю Канстанцінавічу.

І хоць былі пасля настаўнікамі ў сталічных вучэльнях вядучыя тагачасныя скульптары Аляксей Глебаў, Андрэй Бембель, але перад гэтым быў Сяўрук. Пра ролю нясвіжскага майстра ў сваім



*У адведкі да "Русалкі"*

станаўленні Леў Мікалаевіч неаднойчы казаў: "Ён прыладзіў мне хамут". Мудры сэнс мае гэтая сялянская метафара: мала мець воз дабра, трэба яшчэ дасканала змайстраваны хамут ды спрытнага і дужага коніка. Удалай, паспяховай, тым больш, доўгай дарогі не атрымаецца, калі не падагнаны хамут. Сяўрук заклаў глыбінныя асновы творчасці, фундаментальныя прынцыпы жыцця ў мастацтве. Ды яшчэ разуменне таго, што праца жывапісца, графіка, скульптара блізкая па высілках да настойлівай цягавітасці селяніна на палетку - на ворыве ці касьбе. Адно што палетак іншы.

Поруч з урокамі творчасці Сяўрук нязмушаным чынам навучаў культуры, годнасці без ценю ганарлівасці, уніклівай уважлівасці, засяроджанасці, нешматслоўнасці, прыстойнасці ва ўсім (гэтыя якасці так выразна прыкмячаеш сёння ў асобе 90-гадовага юбіляра). Чаго варты адзін толькі эпізод са студыйных заняткаў, што прыгадаў Леў Мікалаевіч.

- Прынёс Міхаіл Канстанцінавіч для перамалёўкі гіпсавую копію скульптурнага партрэта работы Данатэла. На перапынку мы, як заўсёды, штурхаліся, дурэлі і па неасцярозе разбілі яе. Спужаліся! Вось жа нам будзе! А Міхаіл Канстанцінавіч, убачыўшы, не прамовіў ні слова! Першы раз сустрэлі такое. І мо першы раз так глыбока (таксама маўкліва) ўсведамлялі сваю правіннасць. А пасля цярпліва, аскалепак да аскалепка, усё ж склеілі, змацавалі разбітае.

Нясвіжскія ўрокі Сеўрука мелі плён: па заканчэнні сямігодкі (а было тады выпускніку-пераростку 19 гадоў) Леў Гумілеўскі без аніякай цяжкасці паступіў у Менскае мастацкае вучылішча. Жыццё як да Нясвіжа, так і пасля, было багатым на падзеі і нечаканасці. Заняткі праходзілі ў оперным тэатры, свайго памяшкання вучылішча тады яшчэ не мела. Правучыўся толькі год - прызвалі ў армію. На пероне навабранцы ўжо былі гатовы садзіцца ў вагоны, але прыязджае маёр, якому патрэбен добры мастак - і цягнік адправіўся без Льва Гумілеўскага. Ён застаецца служыць у Менску. Аднак за гэты час двойчы забіралі на будаўніцтва Волга-Дона, дзе будучы мастак добра-такі асвоіў працу далакопа, дрывасека, падрыўніка.

Пасля службы вярнуўся ў вучылішча, адначасова працаваў і хадзіў у вячэрнюю школу рабочай моладзі. Стамляўся страшэнна, хоць да цяжкасцей сталаму ўжо хлопцу было не прывыкаць. З-за гэтай сваёй сталасці пачуваў сябе крыху ніякавата сярод аднакурснікаў - значна малодшых, нядаўніх школьнікаў.

- А на ніжнім паверсе займаліся скульптары, сур'ёзныя хлопцы. Яны прапанавалі пераходзіць да іх, - так, быццам выпадкова, змяніў Леў Гумілеўскі творчую спецыялізацыю, каб на ўсё жыццё прысвяціць сябе нялёгкаму майстэрству разца. І сёння, праз сем дзясяцігоддзяў, на пытанне, ці цяжкая праца скульптара, Леў Мікалаевіч шчыра кажа:



***На сцежках юнацтва (Л Гумілеўскі з сынам у Старым парку)***

- Цяжкая. Успамінаю некаторыя свае работы і не верыцца: няўжо я гэта здолеў!

Пасля вучылішча шліфаваў навыкі ў інстытуце, у майстэрні Аляксея Глебава. Вельмі імпанавалі педагагічныя тэзы і метадычныя падыходы настаўніка: працаваць разам - "настаўнік-вучань"; прыкмячаць жывыя рухі, жэсты, паставы, "факцікі жыцця" - і рабіць скульптурныя накіды; цвёрда ўсведамляць, што ўдала выкананы каркас - 75% поспеху.

Ранні сыход педагога і старэйшага сябра ўспрыняў як сіроцтва, хоць да творчай самастойнасці быў ужо добра падрыхтаваны. Тут варта прывесці словы вядомага мастацвазнаўца Барыса Крэпака: *"Леў Гумілеўскі ўварваўся ў беларускую скульптуру імкліва, нястрымна і, здаецца, цалкам сфарміраваным творцам. БДТМІ ён скончыў у 1961 годзе, але за кароткі час яго кампазіцыі ...паказалі, што іхні аўтар стаў у шэраг вядучых майстроў разца. Практычна кожны год Гумілеўскі "ўзрываў"мастацкую прастору сваімі арыгінальнымі і нязвыклымі творамі"*. З вышыні сённяшніх гадоў выразна бачыцца: работы скульптара розняцца па задуме, эстэтычных падыходах, матэрыяле, тэхніцы выканання. Агульнае ж для пераважнай большасці - нацыянальная тэматыка. Першыя з іх - кампазіцыя, прысвечаная беларускія партызанам, душэўна блізкая да нядаўна перажытага, і партрэт Максіма Багдановіча. Пасля быў помнік Янку Купалу (у сааўтарстве). Без яго ўжо нельга ўявіць вобраз беларускай сталіцы. Год за годам Менск ці Вільню, Смаргонь ці Гомель, Бабруйск ці Магілёў, Маскву ці Ялту "засялялі" скульптурныя выявы Гумілеўскага. Кірыла Тураўскі, Францішак Скарына, Тадэвуш Касцюшка, Адам Міцкевіч, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Станіслаў Манюшка, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Купала (да вобраза песняра скульптар звяртаўся неаднойчы), Максім Багдановіч, Аляксандра Клімава, Яўгенія Янішчыц, Уладзімір Мулявін - далёка не поўны пералік слынных дзеячаў беларускай культуры і гісторыі, у лёсы і творчасць якіх заглыбляўся скульптар, каб пасля выявіць трапяткую сутнасць кожнага ў складаным і непадатлівым матэрыяле.

Падчас нядаўняй гутаркі з журналістамі Леў Мікалаевіч сказаў:

- Люблю родную мову, гісторыю, літаратуру.

Словы не з тых, што прамаўляюцца мімаходзь. Словы вывераныя, сцверджаныя жыццём, творчай руплівасцю, сямейным выхаваннем. Мо, нямногія ведаюць, што менавіта Гумілеўскія праўдзілі высокі нацыянальны чын па ўсталяванні надмагілля "вечна светламу і вечна юнаму" Максіму Багдановічу.

- Пасля выканання асноўных работ адправіліся ў Ялту, - успамінае той час сын скульптара Сяргей. - Прыехалі амаль што ноччу. Невядомы горад. Дзе прыпыніцца? У каго запытаць? Але тут

напаткаліся такія выпадковасці, што наводзяць на думкі аб нябесным спрыянні: і прытулак для адпачынку пасля доўгай дарогі знайшоўся, і нараніцу праважаты да магілы паэта, дакладней, праважатая, муж якой пахаваны амаль поруч. Умацаваць надмагілле было няпроста: ялцінскія схілы даволі значныя. Для дэкаратыўнай падпоркі падрыхтавалі вялікі камень. Доўга падбіралі як найлепшыя словы для кароткага надпісу. Дапамагла маці, бо праектам жыла ўся наша сям'я. Яна прапанавала радкі з "Раманса" Багдановіча:

*Кожную ночку на зорку дзівіцца*
*Буду ў далёкім краю.*

Словы "Зоркі Венеры", выпісаныя на камені, набылі яшчэ больш глыбокі і шчымлівы сэнс, не любоўны, а патрыятычны.

У сённяшняй майстэрні Гумілеўскіх не абміне вока скульптурны партрэт Ніла Гілевіча - вельмі пазнавальны па адметных знешніх рысах, а яшчэ больш - па ўзнёслым стане душы паэта, хвіліне лірычнай захопленасці. Працаваў над гэтым партрэтам Леў Мікалаевіч па сваёй асабістай замове: вельмі ж да сэрца яму гранічна шчырыя, па высокай мерцы народныя вершы і паэмы Гілевіча, раман "Родныя дзеці". Працаваў доўга, для душы, калі ў самога быў адпаведны настрой. Завітаў неяк у майстэрню і сам Ніл Сымонавіч. "А я думаў, ты ўжо ад гэтага партрэта даўно рукі атрос, - пажартаваў, а пасля паразглядаў крыху і ўжо сур'ёзна, як ацэнку, дадаў, - так мяне яшчэ ніхто не паказваў". Цяпер, калі апошняга народнага паэта няма на гэтым свеце, яго скульптурная выява дадае майстэрні і яе гаспадару сяброўскай цеплыні і добрай беларускай веры.

Зразумела, што творы скульптара працаёмкія, не з ліку танных. А таму існуе істотная залежнасць мастака ад заказу. На шчасце Гумілеўскага, большасць замоў, якія ён атрымліваў, супадалі з яго духоўнымі прыярытэтамі. Да таго ж, праца над творам, па разуменні і практыцы скульптара, - гэта найперш праца душы, праца па нацыянальнай самаадукацыі, патрыятычным самападвышэнні. Тэмы і героі выхоўвалі майстра. Радзіма з яе мовай, гісторыяй, літаратурай і мастацтвам ператваралася праз вобразы ў тую вабную Галатэю, якую спасцігаў і любіў усё больш і больш.

Не застаўся без творчай увагі Льва Гумілеўскага і Нясвіж. Наадварот, ён стаіць адразу ж пасля сталіцы па колькасці і рэалізацыі задуманага. Цяпер гэта не толькі горад, які сустрэў, уразіў, прытуліў пасляваеннага падлетка, гадаваў мары здольнага юнака. Сённяшні Нясвіж - гэта культурная прастора народнага мастака Беларусі, заслужанага



***Выстава ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі - падзея для кожнага мастака***

дзеяча мастацтва Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Саюзнай дзяржавы, уладальніка Сярэбранага медаля імя Грэкава і медаля Францішка Скарыны. Леў Гумілеўскі вярнуўся ў горад, якому "аддаў сваё юнацтва". У радзівілаўскім парку, непадалёк ад гарбатага мосціка, дзе ў 1944 годзе ён знайшоў штык ад вінтоўкі, - лірычная "Русалка". Перад колішнімі спартыўнымі пляцоўкамі, каля паркавых сцяжынак, па якіх спяшаўся ў школу - алея легендарных і знакавых для горада асоб - Юрый Нясвіжскі, Мікалай Крыштаф Радзівіл (Сіротка), Томаш Макоўскі, Ян Марыя Бернардоні, Уладзіслаў Сыракомля, Якуб Колас (работы Льва і Сяргея Гумілеўскіх). На сценах касцёла і царквы - мемарыяльныя пліты ксяндзу Гжэгажу Каласоўскаму і мітрафорнаму протаіерэю Дзмітрыю Хмелю. Да 110-годдзя Міхася Сеўрука пліту на магіле мастака дапоўніў далікатны, тонкіх скульптурных ліній барэльеф як трапяткая ўдзячнасць вучня свайму дарагому настаўніку. Культурную прастору



*Леў Гумілеўскі. Скульптурны партрэт Ніла Гілевіча*

Нясвіжа, нібыта спадчыну, перадаў Леў Мікалаевіч сыну - вядомаму скульптару Сяргею Гумілеўскаму, які падзяляе і падтрымлівае бацькавы зацікаўленні і задумы. Бацька і сын (зайздросная доля мастака!) часта працуюць у сааўтарстве. Сёлетняй зімой, у канцы лютага, на 115-годдзе Сеўрука, менавіта ён, Сяргей Гумілеўскі, адклаўшы ўсе справы, прыехаў з Менска, каб выступіць на святочнай імпрэзе перад нясвіжскай грамадой, ускласці кветкі на магілу Майстра ды па даўняй кранальна-гарэзлівай сямейнай завядзёнцы, пазіраючы ў вокны Ратушы, ціха паклікаць: "Міхаіл Канстанцінаві-і-іч…"

Апошнім часам тандэм Гумілеўскіх выканаў новыя распрацоўкі для Нясвіжа.

Парадуемся, што свой шаноўны юбілей Леў Мікалаевіч сустрэў у добрым настроі, пры добрым здароўі, атулены любоўю родных і прыхільнікаў яго таленту. Што нязменна жыве ён творчасцю, часта наведваецца ў майстэрню і плануе новую сустрэчу з Нясвіжам.

**З апытанкі жыхароў і ўраджэнцаў горада і раёна "Нясвіж Гумілеўскага":**

**Часлава Суднік** (г. Нясвіж):

- Адну з работ Гумілеўскага бачу кожнага тыдня. Іду да касцёла, сузіраю яго велічныя абрысы і ніколі не праміну глянуць на барэльеф у памяць нашага найшаноўнага святара Гжэгажа Каласоўскага ды ўдзячна перажагнацца.

**Людміла Асоева** (в. Рудаўка):

- Пры ўваходзе ў царкву - цудоўная памятная выява нашага бацюшкі Дзмітрыя Пятровіча Хмеля. Нібыта і не пакідаў ён нас. Як жывы ён тут! Рысачка да рысачкі перададзена яго цёплае аблічча і святая душа.

**Валянцін Гладкі** (г. Менск):

- Алея славутасцяў работы бацькі і сына Гумілеўскіх - выдатны дапаможны матэрыял да ўрокаў нясвіжазнаўства, краязнаўчых экскурсій. Тут затрымацца можна надоўга, каб і людзей гэтых прыгадаць, і ацаніць майстэрства скульптараў. Так зрабілі і мы, калі нясвіжскія тэбээмаўцы праводзілі для нас сяброўскую экскурсію па парку.

**Алена Харлеман** (г. Брэмен):

- Заўсёды, калі прыязджаю да родных, наведваемся ў радзівілаўскі парк, гуляем па яго алеях і не прамінаем цяністы закутак з грацыёзнай і самотнай русалачкай. Быццам і не новы вобраз дэкаратыўна-паркавых скульптур, але як ён пасуе менавіта гэтай мясцінцы, настройвае на адпаведны лад, на развагі пра легенды Нясвіжа, слаўныя і драматычныя старонкі з мінуўшчыны горада.

**Ларыса Хмыль** (г. Нясвіж):

- Запамінальныя і "Русалка", і бюсты-аблічы вядомых дзеячаў. Трошкі рамантызаваныя, але вельмі прыгожыя, "чалавечыя", у адрозненне ад "сімвалаў эпохі".

**Ганна Сарокіна** (г. Нясвіж):

- Мяне вельмі кранае ўдзячнае стаўленне Льва Гумілеўскага да Нясвіжа і яго нязменнае шанаванне памяці свайго настаўніка М. Сеўрука.

**Станіслава Вальчык** (в. Карцэвічы):

- Далёка не ўсе ведаюць, што нясвіжская тэма ў творчасці Гумілеўскіх не абмяжоўваецца толькі Нясвіжам. Да прыкладу, трыпціх "Сказ пра Нясвіж" аздабляе Нацыянальную бібліятэку Беларусі. Але я мару яшчэ - пра Нясвіж з Сіроткам перад ратушай, Марыяй дэ Кастэлян ў парку, Уршуляй Радзівіл перад ЦРДК, ды Сеўруком перад абноўленым і дабудаваным домам-музеем.

Так, працы Льву Гумілеўскаму, творчаму тандэму Гумілеўскіх стае на многія, многія леты!

***Наталля Плакса.***

Фотаздымкі з сямейнага архіва Гумілеўскіх.

# Перакладчык “Дон - Кіхота” настаўнічаў на Нясвіжчыне

## *Да 110- годзя пісьменніка*

Некалькі год таму знаёмая жанчына краязнавец падаравала мне кнігу са словамі, што яна ёй не дужа патрэбная, а мне, які збірае ўсё беларускае, мабыць, прыдасца….Узяўшы ў рукі дыхтоўнае выданне на 510 старонак, я са скрухай падумаў, што мала ў мяне дома яшчэ якой макулатуры, вось і яшчэ адзін важкі дадатак на паліцу ў пылазборнік... Але, прыехаўшы дадому і разгануўшы кнігу, я не паверыў сваім вачам, гэта было выданне "Дон-Кіхот Ламанчскі. Твор Мігеля Дэ-Сервантэса Сааведра. Менск - 1935." Але самае каштоўнае для мяне, як магілёўца, было тое, што гэты грунтоўны твор быў у перакладзе з рускай мовы Цімоха Зарэчнага з мястэчка Будзіна Чавускага раёна. Дагэтуль я нічога не чуў пра такога пісьменніка і адразу загугліў у Вікіпедыі, якая дала літаральна некалькі сказаў пра біяграфію нашага земляка. Аказалася, што сапраўднае імя творцы - Цімох Рублёў, які друкаваўся пад псеўданімамі Цімох Зарэчны і Лявон Радзіміч. Нарадзіўся ў 1910 годзе. Беларускі пісьменнік, педагог і перакладчык. Скончыў Менскі педагагічны інстытут у 1928 годзе. У 1930-х працаваў у "Савецкай Беларусі", на радыё, у Інстытуце школьнай педагогікі, настаўнічаў. Пераклаў на беларускую мову "Першыя людзі на Месяцы" Г. Уэлса і "Дон Кіхота" М. Сервантэса. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам **на Нясвіжчыне** і друкаваўся ў "Беларускай газеце". Паводле адных звестак у 1944 годзе выехаў у Польшчу, дзе жыў пад прозвішчам Лукашэвіч, паводле іншых - загінуў у час бамбёжкі **каля Гарадзеі**. У Берліне ў серыі "Народная бібліятэчка" выйшла яго кніга "Адам і Ева. Чабор. Апавяданні".

У хуткім часе мы з паплечнікамі паехалі на радзіму Ц. Рублёва ў Будзіна, каб на месцы сабраць якія краяўзнаўчыя матэрыялы. Аказалася мястэчка Будзіна досыць вялікай вёскай за некалькі кіламетраў ад гістарычнага паселішча Радамля, якое па звестках некаторых даследчыкаў лічыцца сталіцай радзімічаў. Таму і не выпадковым атрымліваецца ў нашага літаратара адзін з псеўданімаў Лявон Радзіміч. А калі мы выйшлі на бераг ракі Проні, на якой раскінулася вёска, і пабачылі маляўнічую пойму ракі, то вырашылі, што сапраўды ў такім пры-


ДОН-КІХОТ
ЛАМАНЧСКІ

ТВОР
МІГЕЛЯ ДЭ-СЕРВАНТЭСА СААВЕДРА

EX LIBRIS

ДВБ
ЮНДЗЕТСЕКТАР
МЕНСК—1935


ДОН-КИХОТ
ЛАМАНЧСКИЙ

Сочинение

216 Твор Мігеля дэ-Сервантэса Сааведра

адхіліліся ад сваркі, бо добра разумелі, што, які-б ні быў канец бойкі, усё-адно ў пройгрышы асталіся-б яны.

Але адзін з куадрыльеро (той самы, якого таптаў і біў дон Фернандо) успомніў, што ў ліку загадаў пра арышт некаторых злачынцаў, якія ён меў з сабой, быў таксама загад пра Дон-Кіхота, якого святая Эрмандад загадвала арыштаваць за тое, што ён вызваліў галерных нявольнікаў. Успомніўшы пра загад, куадрыльеро захацеў пераканацца, ці падыходзяць прыкметы да Дон-Кіхота. Выняўшы з-за пазухі пергаментны скрутак, ён знайшоў у ім тое, што шукаў. Пачаўшы павольна чытаць яго,—бо ён быў не вельмі граматным,—пры кожным слове, якое чытаў, ён глядзеў на Дон-Кіхота, і, параўноўваючы прыкметы загада з выглядам рыцара, упэўніўся, што, безумоўна, папера мае дачыненне менавіта да Дон-Кіхота. Згарнуўшы пергамент, узяўшы ў левую руку загад, а правай схапіўшы за кіршэнь Дон-Кіхота з такой сілай, што той ледзь мог дыхаць, куадрыльеро гучна закрычаў:

— На дапамогу, у імя святой Эрмандады! І каб вы бачылі, што я не жартую, прачытайце загад, у якім пішацца арыштаваць гэтага разбойніка на вялікіх дарогах.

Поп узяў загад і пераканаўся, што куадрыльеро гаворыць праўду і што прыкметы падыходзяць да Дон-Кіхота. Той, убачыўшы, як дрэнна абыходзіцца з ім гэты подлы нягоднік, успыхнуў страшэнным гневам і з усіх сіл абодвума рукамі схапіў куадрыльеро за горла так, што калі-б таварышы таго не паспелі да яго на помач, ён развітаўся-б з жыццём. Гаспадар, які быў абавязаны садзейнічаць сваім таварышам па службе, адразу кінуўся да іх на помач. Гаспадыня, убачыўшы, што яе муж зноў палез у сварку, пачала зноў крычаць. Ёй дапамагалі яе дачка і Марыторнес, просячы помачы ў неба і ва ўсіх, хто там быў. Санчо, гледзячы на тое, што адбываецца, сказаў:

— Клянуся богам, праўда тое, што пан мой гаворыць пра чараўніцтва ў гэтым замку, бо нельга пражыць у ім і гадзіны спакойна.

Дон Фернандо разняў куадрыльеро і Дон-Кіхота і, да



У павой унеслі клетку і пасадзілі ў яе Дон-Кіхота.

гожым месцы не выпадкова нарадзіўся пісьменнік. Тут жа на ўскрайку мястэчка паміж пагоркаў знаходзіца добраўпарадкаваная крыніца. Апытаўшы тутэйшых месцічаў мы высветлілі, што сапраўды жылі тут калісьці Рублёвы. Як паведаміла адна жанчына: "А старая Рублёвіха памерла гадоў 15 таму, і вока ў яе было дрэннае, бо, як паглядзіць яна на прыплод жывёлы, то дабра не будзе са скацінай." А астатнія Рублёвы некуды паехалі… Пасля гэтай размовы мы пайшлі на мясцовыя могілкі, што за вёскай на пагорку, каб пашукаць старыя пахаванні Рублёвых. Але, на вялікі жаль, ніводнай магілы з гэтага роду мы не знайшлі. Якая цікавая акалічнасць нас уразіла ў размове з месцічамі - што яны ведаюць пра свайго земляка пісьменніка. І нават, калі сустрэлі на шляху жыхара з суседняй вёскі, то ён таксама сказаў, што чуў нешта пра таленавітага Цімоха Рублёва. Сабраўшы не дужа багаты "краязнаўчы скарб", мы рушылі далей па сваім шляху, але пошукі я не спыніў і звярнуўся затым у Нацыянальную бібліятэку ў Менску. Аказалася, што, нягледзячы на складаны лёс нашага земляка, нешта да нашага часу ў фондах з яго выданняў захавалася. Вось іх пералік: "Зарэчны Ц. Узбунтаваная зямля. Нарысы. Мн. 1930", "Зарэчны Ц. Сустрэчы: нарысы і фельетоны. Мн. 1930", "Першыя людзі на Месяцы. Гербэрт Уэльс; пераклад з расійскай мовы Цім. Зарэчнага. (Малюнкі У. Шульца). Менск, 1931", "Ц. Зарэчны. Маладосць: навэлы і апавяданні. Мн. 1931", "Ц. Зарэчны. Паэма пра геройства. Нарыс. Мн. 1932", "Пажары: нарысы і фэльетоны. Цім. Зарэчны. Менск. 1932", "Мігель дэ-Сервантэс Сааведра. Дон-Кіхот Ламанчскі : пер. з рус. Ц. Зарэчнага. Мн. 1935", "Іншакраінны легіён. Віктар Фінк. Пер. з рус. Ц. Зарэчнага. Мн. 1936", "Руднянскі пастушок. Цім. Зарэчны. Мн. Дзяржаўнае выдавецтва пры СНК БССР. Рэдакцыя дзіцячай літаратуры, 1941", "Князеў Іван Ягоравіч. Як у барацьбе з папамі і кулакамі вырас калгас. Пер. з рус. Ц. Рублёва. Мн. 1930."

Чытаючы творы Цімоха Рублёва пачынаеш разумець, што многія з іх аўтабіяграфічныя і могуць нам дапамагчы ў вывучэнні жыцця і творчасці пісьменніка. Вось, як прыгожа і сакавіта ён апісвае свае мясціны дзяцінства ў апавяданні "Сосны": *"Пахнуць сосны празрыстасцю бурштынавае смалы, сьлязьмі купальскага каханьня, каралямі сьпелае маладзіцы; пахнуць шумам шурпатаўпэўненым, лапуховым, - трывогаю векавечнаўнутранай, дурнап'янай, - сумам надламана -хваравітым, калакалушным; пахнуць сосны сакавітасьцю сыраежак і баравікоў, шыгальлем вільготнае зямлі, дымам закопчаных смалакурань. Бабіным летам пахнуць сосны… А больш за ўсё пахнуць сосны ўспамінамі аб маленстве. Лазіў па стромкіх дрэвах высока, аж дух займала, і сэрца загаралася*



*жахам; суніцы і чарніцы зьбіраў па ўзгорках і равох, - люба разгарнуць папараць і знайсьці чырвоны вугалёк - ягадзіну; зязюлю слухаў у стомленыя дзённай сумятнёй вечары, - яна зычыла шчасьце лёгкакрылае і жыцьцё сунічнае; коні вадзіў на начлег, - вылі ваўкі, пугамі цокалі вартаўнікі, ях сабачы трывожыў цемень ночы… На ўскраі лесу, за амшараю, жыта каласілася, сокам зямлі налівалася, - смачныя прожмы з пульхных зернят, н'т смачней за казку аб папоўскім парабку і за сьлёзы дзяцінае радасьці".*

Калі захочаце даведацца пра няпростыя часы калектавізацыі, пра хутары і "нехацімцаў", то варта пазнаёміцца з кнігай Ц. Рублёва "Пажары. Нарысы і фельетоны" 1932 года выдання. Тут прысутнічае шырокая геаграфія няпростага жыцця беларуса на абшарах савецкай Беларусі ў пераломны час: мястэчка Глуск і Дукора, Лельчыцы і Полацк з Гарадком, вёска Новая Слабада ў Прапойскім крэдытным таварыстве і настаўнік Кастусь з Рудні, што на Віцебшчыне, Халапенічы з пажарнікамі і "цэнтр цэнтраў" Клімавічы…

А вось так выглядае ўсход сонца на Месяцы ў перакладзе Ц. Рублёва з Г. Уэльса "Першыя людзі на месяцы": *"Усход сонца на месяцы. Тое, што мы ўбачылі, абяцала для нас мала добрага. Наш балён ляжаў на зусім круглым дне вялікага, досыць глыбокага кратэру. З усіх бакоў узьнімаліся бадай што старчковыя скалістыя сьцены. З захаду падаў слабы прамень нябачнага для нас сонца і асьвятляў шэры хаос брудных каменьняў, паміж якіх тамсям бялеў сьнег. Потым выявілася, што гэтыя каменьні знаходзіліся ад нас на адлегласьці ня менш дванаццаць міль і што іх лепш было-б назваць кручамі, але ў той час, дзякуючы адсутнасьці паветра, мы думалі, што яны ўзьнімаюцца амаль што поплеч з намі. Навакол мы бачылі безьліч грэбеняў, выступаў, узгоркаў, верхавін, і ўсё гэта было ахутана таямнічым шэрым дымам, аж да разьзяўленай чарнаты неба. Там-сям выдаваліся конусы нейкай белай масы. Спачатку я думаў, што гэта сьнег, але потым выявілася, што мы бачылі камлыгі цьвёрдага замерзлага паветра…".*

І, канешне ж, варта пагартаць легендарнага Дон-Кіхота "Менскага" выдання. Кніга аздоблена шматлікімі чорна-белымі малюнкамі, якія досыць цікава гучаць: *"Санчо ўзяў за недавуздак асла адной з сялянак і стаў перад ёю на калені", "Санчо павярнуў Расінантэ, зусім здаволены тым, што можа цяпер клясціся, што яго пан - вар'ят", "Але велікадушны леў, не зварочваючы ўвагі на Дон-Кіхота, павярнуў да яго свае сядалішчныя часткі".* А вось якое вершаванае завяршэнне твора:

*"Тут ляжыць ідальго слаўны,*
*Так адважны Дон-Кіхот,*
*Што і смерць сваю ў змаганні*
*Перамог ён, дастаслаўны,*
*І жыве - хаця памёр.*
*Ні ва што сусвет лічыў ён,*
*Страшным пудзілам ён жыў,*
*Быў вар'ятам на здзіўленне*
*Ўсяму свету, - а ў час смерці*
*Ў ясным розуме ён быў."*

У жыцці Цімоха Рублёва на сённяшні дзень больш пытанняў, чым адказаў. Варта і надалей вывучаць яго біяграфію і літаратурную спадчыну. Вялікі дзякуй супрацоўнікам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якія дапамаглі мне ў зборы інфармацыі і матэрыялаў.

***Алег Дзьячкоў,***
*Магілёў.*

***Вікторыя Жукевіч-Дзівота***

# ДАНІНА ПАМЯЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Пенсія - гэта таксама добры час**

***Не затрымлівайся,***
***Не прапусці спаўнення мары***

У снах я часта дзяжуру ў пасляродавым аддзяленні ў Шчэціне, у клініцы, дзе працавала пасля стажыроўкі і праходзіла спецыялізацыю па гінекалогіі і акушэрстве, потым працавала ў спецыялізаваным гарнізонным раддоме ў Свінавусці, каб нарэшце пасля атрымання другой спецыяльнасці “бальнеалогія і фізіятэрапія” ўсесціся ў крэсла ардынатара аздараўленчага шпіталя спачатку ў Свінавусці, а пасля ў Горскай Крыніцы. У Свінавусці вяла клінічны цэнтр пад наглядам прафесара Станіслава Ружавіцкага, і мы маглі б вучыць сённяшніх мудрацоў ад праменетэхналогіі добрай дыягностыцы і цярпліваму лячэнню. Аддзел меў 20 ложкаў, прызначаных для лячэння бясплоднасці. Я ўкладвала ў гэтую працу ўсё маё сэрца, веды і досвед. Нія кніхто з цяперашніх вучоных не гаворыць пра санаторнае лячэнне і прымяненне гразі замест таго, каб адкрываць вядомыя здаўна метады лячэння. З Паморскай клінікі АМ на 6-7 суткі пасля аперацыі, якая была адным з этапаў лячэння бясплоднасці, пацыентка прыязджала да мяне на далейшае лячэнне. У нашым цэнтры я ўпершыню ў Польшчы выкарыстала новую мадэль прымянення гразі: забег - ложка - забег. Мы мелі таксама ўнікальнае прыстасаванне для стэралізацыі і падагрэву гразі, сканструяванае інжынерам Гурам са Шчэцінскай політэхнікі. Гэта было нешта! Прыязджалі да нас з іншых санаторыяў і аглядалі, але мы нікому не давалі планаў прыстасавання!!! Да ўсяго гэтага сканструявалі таксама падавальнік для гразі., ооо... села на свайго “коніка”. Пра гразь магу напісаць тамы... Статыстыка, якую я вяла, паказала высокі працэнт наступлення цяжарнасці пасля нашага лячэння Але гэта былі іншыя часы, можна было лячыць пацыентку ў санаторыі два-тры тэрміны, вырашала гэта я і лячэбная камісія, а не нейкая чыноўніца з Нацыянальнага фонду аховы здароўя (NFZ).



***Пасядзелкі з удзелам Маячкі, Войцаха, Прымаверы і Нільса***

Так, медыцына сапраўды была маім пакліканнем.

*Але некаторыя лекары,*
*калі да пенсіі дажываюць,*
*часта літарацкі талент у сабе адкрываюць,*
*маюць час і пішуць у самотнасці,*
*таму што ў маладосці*
*вучыліся, кахалі,*
*давучваліся, працавалі,*
*дзяцей гадавалі.*

*А цяпер ў вольным часе*
*пішу розныя лісты, вершыкі, куплеты,*
*нажаль, гавару пра сябе...*

А на пенсіі, маючы мужа, які прывык да вандровак па свеце (забіраў мяне з сынам альбо адну ў далёкае падарожжа), таксама не сумую... маю таксама час на сустрэчы з прыяцелямі - люблю нашыя “пасядзелкі” ў святліцы пад блакітным анёлам ці ў нас дома, з Тарэняй і Міхалам Куроўскімі. Тарэня, акулістка, выхаванка дабраславёных сясцёр назаратанак у Навагрудку і Міхал, якога мы згадваем у штодзённых малітвах, бо гэта наш доктар. Сустракаемся часта, таксама праводзячы адпачынкі з Маяй і Войцахам, адведвалі нас Прымавера з Нільсам. Прыязджае Гося, дачка мужа са сваім Мар’янам, да нас з Берліна недалёка.

Часта сустракаемся з прыяцелем мужа. Вітольдам Русакевічам, з якім злучае мяне зямля нашага даўняга Навагрдскага ваяводства. Пан Вітольд таксама часта адведвае свае краі, і з адным побытам звязана забаўная гісторыя. У мястэчку, у якім жыла яго сям’я, на месцы дома пп. Русакевічаў аказаўся пабудаваным рэстаран. Пан Вітольд не адмовіў сабе ў жаданні пайсці ў тое памяшканне. Пасля замовы маладая і спрытная кельнерка зарыетавалася, што гэта госць з Польшчы. Загаварыла з панам Вітольдам. Даведалася, што рэстаран стаіць на месцы даўнейшага дома гэтага незвычайнага кліента... Выбегла на сярэдзіну залы і закрычала: “Таварышы, прыехаў пан з Польшчы, гэта ўсё яго, і ён напэўна выплаціць нам затрыманую зарплату!”

Прыходзяць мае сяброўкі: дзве Басі, Янечка, Дануся, Бажэнка. Мы маем сардэчных прыяцеляў у Стрышаве, дзе мелі дом - гэта цэлая высакародная сям’я Евы і Гені Клапытаў, хоць жывём далёка адны ад адных, але кантакт вельмі жывы.

Бывае, што прыязджае мая кузінка Галінка са сваёй сястрой Мілюняй. Адведваюць нас таксама варшаўскія нясвіжцы і гэтыя з Нашага Места. На маім стале пры спецыяльных аказіях з’яўляецца “бабка бульбяная нясвіжская”, а вось і рацэпт,



***Мы адведваем прыяцеляў у Лос Крысціянсе***

змешчаны ў томіку паэзіі з назвай "Нясвіж у сэрцы і снах - памятка для цябе" ў апрацоўцы Барбары Петразалін - Скаўронскай.

***Рацэпт бульбяной бабкі***

*Два кіло бульбы або картофель, як хто хоча, сатры абавязкова на тарцы (найлепш дай гэта зрабіць каляжанцы), на патэльні перасмаж свежы бачок, дабаў цыбулі (шмат), перцу, солі, маеранку, што на паліцы ляжыць, шэсць цэлых яйкаў, мукі чатыры лыжкі (масай можна таксама напоўніць кішкі), пакладзі на бляху, пакрапі алеем, пастаў у духоўку. На другі дзень падсмажаная, з келіхам чырвонага віна хутка знікае.*

Шмат часу прысвячаю справам Таварыства нясвіжцаў, якое стала для мяне сапраўды другой сям'ёй, а Нясвіж, зямля маіх продкаў - блізкай майму сэрцу, і часта да яе вяртаюся, бо гэта ж магла быць мая Айчына.

***Айчына***

*Чым для мяне ёсць, Айчына?*
*Тым усім, што любіла мая маці.*
*Квітнеючым лугам, пахучаю нівою збожжа,*
*нябескім загонам ільну,*
*дарогай, якая ўецца сярод красовых бяроз,*
*кніжкай, песняй, якой ужо не чуваць...*

*Успамінамі...*
*Айчына - гэта адчынены вагон,*
*што едзе з Сібіры,*
*чырвоная пісанка, пададзеная некім на вакзале,*
*гэта словы малітвы, якой навучыла мама*
*... хлеба нашага штодзённага...*

*Айчына - гэта жаль і туга*
*па тым, што страчана,*
*што жыло ва ўспамінах маіх блізкіх...*

*Гэта рады крыжоў на раскіданых могілках*
*і знак белага арла ў кароне,*
*гэта Ясная Гура, і шрам*
*на цёмным твары Мадонны,*
*і слодыч пагляду ў Вострай браме.*

*Маю Айчыну ствараюць таксама людзі,*
*якіх люблю... многіх ужо няма...*
*Гэтыя найбліжэйшыя і гэтыя з карт гісторыі...*

*Айчына мая сягае ад Нясвіжа па бераг Балтыкі*
*і паддаецца вярнуўшайся хвалі ўспамінаў...*

***Нясвіж у траўні 2010 г.***

***Мужу***

*Аксамітныя півоні каралюють у садах,*
*Адцвілі бэз і каштаны, пахнуць глог і чаромуха,*
*Сцелецца ранкам імга, цёплы дзень абяцае*
*На ставах свежая раска.*

*На возеры гусі бялеюць на тле неба,*
*Сунуцца велічна ў заходзячым сонцы,*
*Як два ганаровыя фрэгаты,*
*што трымаюць свой курс*
*У кірунку порта.*

*Слуцкая брама шырока свае крылы распасцірае*
*І даўнімі словамі, выбітымі на табліцы*
*Як заўсёды сардэчна чужога прыхадня вітае.*
*Я сёння не адна.*

*Са мной не - нясвіжац стаіць на грэблі,*
*Глядзіць на фару, ратушу, белаватыя дамы,*
*У люстэрку возера адбіваецца стары замак.*
*Ён тут першы раз...*

*Бачыць зялёныя купы аеру і язвіну,*
*А на гладзі возера звышдзіўная постаць*
*У срабрыстым водсвеце плыве да нас.*
*Незямная гэта з'ява.*

*- Глянь, - мовіць муж да мяне, -*
*гэта твой Анёл-Сібірак.*
*У белай бліскучай шаце, радасны, усмешлівы,*
*Прыбліжаецца да нас, выцягвае бліскучыя далоні.*
*Як ён нас тут адшукаў?..*

*Праводзіць нас пад браму... да маёй студні,*
*Выцягвае вядро вады: "Напіцеся", - просіць.*
*Гэта ... "вада памяці, вада забыцця,*
*Крыніца невычэрпная"...*

**Мае сустрэчы**

***"Так лёгка дасягнуць усебаковай цудоўнасці, хто адважыцца?"***

**Адшуканы анёл**

Мая сібірская прыгода атрымала нечаканае і ўзрушальнае заканчэнне далёка ад Нясвіжа і ад Польшчы.

У 1977 годзе мы з сынком атрымалі пашпарт і як чальцы залогі ўладкаваліся на цеплаход "Кракаў", муж быў "першым пасля Бога", залога была

выдатная, усе атачылі мяне і Гжэся апекай і сардэчнасцю. Сын меў кампанію, бо 1-шы афіцэр таксама плыў з жонкай і сынком.

Хлопцы рабілі трохі замяшання, а найбольш нервавалі ўсіх у сталоўцы, калі заходзячы тры разы на дзень у адзін голас крычалі: “Дзень добры, смачна есці!”

Пасля некалькідзённых стаянак у заходніх партах, уражаныя багаццем, што вылівалася з вітрын крамаў - першы раз убачыла аўтамабілі на выставе - мы плылі ў заходнюю Афрыку. Той Афрыкі ўжо сёння няма, немагчыма падумаць, каб белая жанчына з дзіцем выйшла на тубыльскі рынак, на шпацыр уздож цёплага акіяна. А для нас усё гэта было магчыма. Такая Афрыка згінула безпаваротна.

Трапічная бура кароткая. Вада лілася вёдрамі з нябёс, а потым незвычайная мешаніна пахаў, бронзава-меднай зямлі, душыстых кветак, раслін, рыб, не ведаю яшчэ чаго - але гэта быў уласна пах Афрыкі. Так прывітаў нас порт Фрэйтаўн у С’ера Ляоне.

Пасля паўдня прыехаў па нас знаёмы мужа, які асеў тут даўно - забраў нас да сябе... ніколі не забуду той дарогі, паміж узгоркамі з прылепленымі да іх халупкамі... і ўсюды прысутнічаў той пах... і колер зямлі, абляпіўшае цяпло, зямля якая парыла пасля буры.



*Анёл у Нясвіжы*

Паху Афрыкі не ўдасца забыць. Гэта словы майго мужа.

У маляўнічай затоцы, над акіянам посткаланіяльны, разложысты, вялікі, белы, перакрыты бэлькамі бронзавага дрэва дом нагадваў красовы двор. Афармленне аднак экзатычнае, шумны блакітны акеан, залаты пясок затокі, дом пасярод пальм, бананавых дрэў і дрэў, якія называлі “полымем Афрыкі”, у разложыстых пурпурных кветках. Пры доме маленькі заапарк з малпачкамі, крыклівымі папугаямі і іншымі птушкамі. За сеткай нават пыхліва паходжваў і паглядаў на нас зверху страўс.

Пасля абеду (першы раз ем авакада, вялікія печаныя бананы, рыбу ў араматных лісцях, вынятую проста з печы, якая зроблена пры доме) сядзім на верандзе, над якой звісаюць галіны, абсыпаныя пладамі манга, нейкія гарбузы, лісце, бананы... у промнях ужо заходзячага сонца пераліваецца ўлюбёны напітак мужчын, залацісты бурбон. У крыштальных шклянках пазвоньваюць кавалачкі лёду, муж курыць люльку, а колцы блакітнага дыму, лятуча і бязладна ўзносяцца ўгару... Так, мабыць, можа быць у раі, - думаю сабе.

Мужчыны апавядаюць пра мінулы час. Пра тое, што адбывалася паміж прыходамі “Кракава” з Польшчы ў Фрэйтаўн.

Удыхаю афрыканскі пах і гляджу на сынка, які плешчацца ў басейне. Урыўкі размовы даходзяць да мяне... і вось мой муж кажа:

- Вы маеце шмат супольнага, абое былі ў Сібіры...

Неахвотна вяртаюся да такіх успамінаў. Таму слухаю са сціснутым сэрцам аповеды нашага гаспадара пра дабраахвотнае падарожжа ў Сібір, пошукі бацькі ў ГУЛАГ-у і шахтах Варкуты, нарэшце пра шчаслівую сустрэчу і супольне вяртанне ў Польшчу.

У пэўны момант наш гаспадар задумаўся і па хвілі маўчання кажа:

- Ведаеш, Томак, заўсёды хацеў даведацца, што сталася з той малой дробнай дзяўчынкай, якая выпала з цягніка, калі вярталіся ў Польшчу, я меў

тады 17 гадоў, цягнік пасоўваўся павольна, ужо была вясна... зелянела трава... дзяўчынка вывалілася... людзі бачылі яе, бо вагоны ўжо былі адчыненыя, я выскачыў і ўкінуў яе ў чарговы вагон, нават не памятаю, якое мела імя. Транспарт меў некалькі дзясяткаў вагонаў, і людзі, якія ехалі з адчыненымі вагонамі, падалі вестку, што дзіця едзе... часта пра яе думаю... ці жывая, дзе, які яе лёс... магла мець столькі гадоў, як ваш сынок...

У Афрыцы вечар наступае бліскавічна, пахі змяшаліся, неба рассвятлілася зоркамі, некалькі зорак адарвалася ад небасхілу і каскадам паляцела ўніз.

Чула біццё свайго сэрца... таўклося, як птушка зачыненая ў клетцы, мне не хапала паветра...

Адлятаўшы ўверх дымок з люлькі ўкладваўся колцамі як німбамі над галавой нашага гаспадара - капітана В.

Мой анёл-ахоўнік сядзеў насупраць мяне пад афрыканскім небам, а аркестр цыкад складаў нам кампанію ў той незвычайны вечар.

**Ксёндз Гжэгаж Каласоўскі**

У 1956 годзе праз 10 гадоў мая мама вырашыла адведаць свае радзімыя краі, забіраючы ў тое падарожжа і мяне, мне было 15 гадоў. Пашпарт мамуся атрымоўвала ў Познані ў адзін з найгаротнейшых "Чэрвенскіх дзён", дзён познаньскіх падзей... Бацькі ўдваіх паехалі тады ў Познань, пад вечар прыйшоў да мяне дадому пан Рак, музыка і настаўнік з музычнага гуртка, потым кіраўнік аддзела культуры, і сказаў мне:

- Вікторыя, не начуй дома, бацькі могуць сёння не прыехаць, у Познані - рэвалюцыя. Пайшла ў сяброўскі дом нашых суседзяў пп. Сівінскіх.

У сярэдзіне ліпеня мы паехалі ў Нясвіж.

Тую паездку маю ў сваіх успамінах да сёння. Было прыгожае, гарачае лета, ліпень 1956 г. Залацілася пшаніца, пахлі лугі і палі, у садах дрэвы гнуліся ад сліў і груш, а ў ставе пры вуліцы Някрасава, дзе мы жылі ў цёці Альжбеты, вечарам давалі вясёлыя канцэрты жабы. Пахла аерам, мятай... і не ведаю, чым яшчэ.

Мабыць, на другі дзень побыту мы пайшлі да касцёла, у фару.

Касцёл быў замкнёны, але мы ведалі, што кс. Каласоўскі знаходзіцца ў Нясвіжы і жыве каля касцёла. Мы пастукаліся ў той домік, хацінку, збітую на скорую руку ў падворку плябаніі.

У будынку даўняй плябаніі размяшчалася друкарня газеты "Чырвоны сцяг", у якой працаваў пасынак маёй цёці Альжбеты - Янак Семянкевіч.

Выйшаў кс. Каласоўскі... Не памятаю, пра што яны рзмаўлялі з мамусяй, алё ксёндз узяў ключы і правёў нас у касцёл. Такога праваднiка кожны мог бы пажадаць. Правёў нас па касцёле, зайшлі таксама ў крыпту Радзівілаў.

Праз нейкі час увайшла ў касцёл пара маладых людзей з маленькім дзіцем на руках.

Падышлі да ксендза і доўга з ім размаўлялі... кс. Каласоўскі павярнуўся да нас і запытаў мяне, ці магла б я быць хрышчонай маці, ці прыняла сакрамант бежмавання.

Так... я адпавядала тым умовам і была ўзрушана і абрадавана такой прапанове.

Дзверы касцёла былі цэлы час адчыненыя, кс. Каласоўскі выйшаў на хвілю і ўзяўшы з касцельнага бабінца мяцёлку, уручыў тую мяцёлку нейкаму пану, які пачаў мясці дзядзінец перад касцёлам.

- Гэта нашая варта, - сказаў ксёндз маме... толькі пазней я зразумела, што гэта за варта і ад каго нас пільнавала

Хрышчэнне адбылося, хлопчык атрымаў імя Аляксандр.

Сын майго хрышчоніка, таксама Аляксандр - вядомы футбаліст, гулец "Дынама - Кіеў", "Манчэстара" і "Чэлсі". Выхоўвала яго бабця, тая пані, якая прыехала з дзіцем у Нясвіж.

Падчас аднаго з маіх побытаў у Нясвіжы адшукалі мы з кс. дэканам Пятром Шарко той запіс хрышчэльнага акту ў парафіяльных кнігах, зроблены рукой ксендза Каласоўскага алоўкам. Быў гэта для мяне вельмі ўзрушальны момант, адчула сябе зноў той маладзенькай дзяўчынкй, якая стаіць перад ксендзам з хлопчыкам на руках.

Сп. ксёндз Каласоўскі быў постаццю неардынарнай. Пасля заканчэння семінарыі распачаў капланскую службу ў Нясвіжы ў фарным касцёле Божага Цела і быў бясстрашным яго ахоўнікам у гады нямецкай акупацыі і праз увесь час бальшавіцкай улады, якая рабіла ўсё, каб выкараніць з даўніх польскіх зямель тое, што найкаштоўнейшае - веру. У доме маіх бацькоў часта бывалі браты ксендза Гжэгажа, яны жылі ў Кольскім павеце і заўсёды заязджалі на гарбату.

Да маіх успамінаў праз гады пра кс. Каласоўскага, якія я рыхтавала для кніжкі, яму прысвечанай, і якая рыхтуецца ў Нясвіжы, дадаю пасля атрымання згоды фрагменты артыкула з успамінамі пра ксендза, напісанага маім калегам, народжаным у Нясвіжы, праф. д-рам медыцыны Тадэвушам Грыгелем, шчыра пранікнутым любоўю да Нясвіжскай зямлі, сына Францішка Грыгеля, замардаванага немцамі і беларускімі нацыяналістамі разам з 86 палякамі ў лесе, у Гайках пад Нясвіжам.

*"... Пераследаваны, караны і тэрарызаваны ў перыяд II Сусветнай вайны і ў часы барацьбы з*



*рэлігіяй, патрафіў адбудаваць касцёл пасля ваенных знішчэнняў і захаваць ад збэшчвання, а ў малітве даць надзею людзям і наблізіць іх да Бога. 2009 год быў абвешчаны ў Нясвіжы Годам Гжэгажа Каласоўскага - у 100-годдзе яго нараджэння..*

*... Ксёндз Гжэгаж Каласоўскі нарадзіўся 12 сакавіка 1909 г. у мясцовасці Фальварак Гусінец каля Баранавіч у Наваградскім ваяводстве, быў ахрышчаны ў рымска-каталіцкім касцёле ў Новай Мышы. Узорам каплана для маладога кс. Гжэгажа была вялікая і высакародная постаць першага пінскага біскупа Зыгмунта Лазінскага. Капланскае пасвячэнне атрымаў 8 красавіка 1939 г, а прымiцыйную св. імшу адправіў 16 красавіка 1939 г. у парафіяльным касцёле ў Навасадах, у Баранавіцкім павеце. 25 красавіка 1939 года быў накіраваны ў Нясвіж на пасаду вікарыя пры кс. дэкану Кубіку. Як аказалася, Нясвіж стаў першым і апошнім капланскім месцам кс. Каласоўскага.*

*... У 1944 г. падчас ваенных дзеянняў быў знішчаны купал і верхняя частка касцёла. На шчасце, фрэскі ацалелі. Ксёндз Гжэгаж здзейсніў гераічную акцыю. Пры дапамозе парафіян на працягу толькі 6 тыдняў адбудаваў разбураную святыню... У 1945 г. пачалася рэпатрыяцыя, а дакладней перасяленне з бацькоўскай зямлі ў Народную Польшчу. Кс. Гжэгаж Каласоўскі застаўся верны свайму любімаму касцёлу і найвярнейшым парафіянам, якія засталіся. Некалі паўтараў за Хрыстусам: "Добры пастар не пакіне сваіх авец, калі нападуць ваўкі, а толькі бароніць. Уцякаюць толькі наёмнікі". І зноў камуністычныя праследаванні, барацьба з рэлігіяй. Брутальным чынам быў выкінуты з плябаніі ў гараж, забрана пасека. У будні дзень быў абмежаваны ў душпастырскіх паслугах, а што рабіў, то з вялікай культурай і ў глыбокай канспірацыі. Указанні і забароны абцяжарвалі кожны дзень, а адабранне святыні ў вернікаў і пераабсталяванне яе ў музей атэізму ці на іншыя нягодныя мэты пагражала ў кожную хвілю. Нягледзячы на гэта патрафіў аднавіць і адрамантаваць касцёл. Удалося яму адрэстаўраваць абраз у галоўным алтары "Апошняя вячэра" Юзафа Гескага, за велізарныя грошы, як на тыя часы - 33 тыс. рублёў. Для гэтай мэты запрасіў у Нясвіж дзевяць мастакоў, у тым ліку некалькі міжнароднага класу з Масквы. Стварыў умовы і таемна рыхтаваў маладых людзей да капланства.*

*Праводзілі памерлага ксендза незлічоныя масы нясвіжцаў, а таксама людзі, якія прыбылі з найаддаленейшых закуткаў Беларусі. За трунай памерлага крочылі некалькі дзясяткаў ксяндзоў, пагружаных у малітву, у тым ліку асабісты сябар*

*памерлага нясвіжскі бацюшка Дзмітрый Пятровіч Хмель. У 2002 г. улады Нясвіжа пасмяротна прызначылі ксендзу дыплом Ганаровага грамадзяніна горада Нясвіжа. З'явіліся польска- і беларускамоўныя артыкулы з успамінамі пра яго..."*

**Запісаная размова**

Шукаючы даўніх жыхароў Нясвіжскай зямлі, якія сваімі ўспамінамі прыблізілі б постаць кс. Гжэгажа Каласоўскага, а рабіла я гэта па просьбе маіх прыяцеляў з Нясвіжа - п. Валянціны Шчарбаковай і п. Антона Жалняркевіча, якія рыхтавалі кніжку пра гэтага незвычайнага каплана, не магла мінуць асобы праф. д-ра габ. Ежы Грынкевіча-Судніка, батаніка, дэндролага, архітэктара пейзажу, аўтара каля 100 навуковых публікацый, а для мяне перш за ўсё энцыклапедыі спраў і гісторыі нясвіжскіх сямей.

Нарадзіўся ён на Нясвіжчыне, у маёнтку Маскалёўка, якая належала да Клецкай парафіі, але бліжэй заўсёды было да Нясвіжа.

Усеагульную школу закончыў у Лані, а гады нямецкай акупацыі прапрацаваў падзёншчыкам у маёнтку сям'і Грынкевічаў, у той самай Маскалёўцы, пасля якой, як я сама бачыла, засталіся толькі залацістыя нівы пшаніцы.

У 1945 годзе разам з сям'ёй выехаў у Польшчу.

Закончыў прыродазнаўчы факультэт у Познані, а дактарат, габілітацыю і прафесарскае званне атрымаў ва Уроцлаўскім універсітэце, дзе праводзіў выкладчыцкую і навуковую працу.

Апошні раз мы бачыліся ў Марской Устроні. у доме Аляксандра Рымашэўскага з Пукелеўшчыны. Пан Рымашэўскі быў суседам маёй мамы, я моцна любіла яго, бо ён заўсёды гаварыў, што Настка была найпрыгажэйшай дзяўчынай у ваколіцы. Гэта была ўзрушальная сустрэча, у якой удзельнічалі некалькі чалавек з Нясвіжскай зямлі.

На пачатку 2014 года я патэлефанавала пану прафесару з пажаданнямі і з просьбай напісаць пару слоў пра кс. Каласоўскага...

*"Мая дарагая, не напішу, нажаль, амаль не чытаю, маю клопат са зрокам, але ўсё, што раскажу, можаш выкарыстаць для кніжкі...*

*Наша Маскалёўка належала да Клецкай парафіі, там я быў ахрышчаны, але да Нясвіжа было бліжай, і туды мы хадзілі на набажэнствы. З перыяду акупацыі пра свае кантакты з ксендзам не шмат магу распавесці, але за савецкімі часамі бываў у 70-х гадах у Нясвіжы і сустракаўся з ксендзам Каласоўскім.*

*Нашы сустрэчы адбываліся ў яго, як ён казаў: "рэзідэнцыі", ці ў тым курніку, пераробленым гаражы, але з налівачкай на стале - ксёндз меў моцную галаву, і гэтая рыса, як сам казаў, шмат разоў дапамагла яму ў савецкія часы.*

*Пытаўся шмат разоў у ксендза пра т.зв."Гайкоўскі спіс", у якім было і яго прозвішча.*

*Кс. Каласоўскі жыў у згодзе з усімі, таксама і з праваслаўным святаром Русецкім, чалавекам, які ведаў некалькі замежных моваў акрамя беларускай. Таму прыходзіў на заняткі да ксендза.*

*Кс. Каласоўскі апавядаў, што нягледзячы на вайну, яго парафіяне заўсёды складаліся на т.зв. кантынгент, які належала аддаць уладам (савецкім). Аднойчы сустрэліся абодва: згаданы святар Русецкі і ксёндз на вуліцы, і ксёндз пачуў, што праваслаўныя не маюць грошай на кантынгент, і ўлады прыгразілі п. Русецкаму, што заўтра яго затрымаюць. Ксёндз Каласоўскі ахвяраваў яму сваю грашовую дапамогу.*

*І так, пазней, у сувязі з тым "Гайкоўскім спісам" святар Русецкі паручыўся перад уладамі нямецка-беларускімі за кс. Каласоўскага, ратуючы яго ад смерці.*

*Распавядаў мне таксама ксёндз, што начамі да яго прыходзілі і вялі ў дамы, дзе вокны былі завешаны коцамі (коўдрамі), а ў доме чакала на хрышчэнне дзіцятка, а пасля цырымоніі адчынялі дзверы ў другі пакой з сыта застаўленым сталом, каб пачаставаць ксендза. Было гэта ў многіх дамах дактароў, настаўнікаў і дзяржаўных чыноўнікаў.*

*Быў час, калі для выратавання касцёла, не паддаючыся націскам зняць духоўныя шаты, працаўладкаваўся ў касцёле кансерватарам (захавальнікам) помніка архітэктуры. Па яго патрабаванні, ездзіў з той мэтай у Маскву, забралі цяжкую будаўнічую тэхніку з суседства Фары, вібрацыі ад якой маглі пашкодзіць каштоўны помнік... Напэўна, калі б мы размаўлялі даўжэй, было б больш фактаў і ўспамінаў".*

Я прачытала пану прафесару гэты мой запіс, каб атрымаць згоду на публікацыю, і не магла стрымацца ад аднаго пытання..., ці тэма доктарскай працы пана прафесара Судніка-Грынкевіча пра *Betula obscura*, абароненая ў 1960 годзе, - гэта часам не настальгічная імпрэсія аб дрэвах, пейзажы нясвіжскай зямлі... няхай на гэта адкажуць чытачы.

**PS.** *Betula obscura (лац.)* - чорная бяроза. У адной з наступных размоў пан прафесар распавёў мне, што гэты сорт бярозы прысутнічае толькі ў польскім пейзажы, на Падкарпацці. А адзінкавыя асобнікі можна сустрэць у Кампіноскім нацыянальным парку.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Васіль Драгавец

# Запозненае прызнанне

## Біяграфічны сповед

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## Хутары

**Малаеды. Баба Волька**

Напрасткі ад Хадатавічаў да Малаедаў, матчынай вёскі-калыскі, кіламетры са тры. А да дзедавага хутара і таго меней, бо хутар на пагорку, з паўкіламетра ад самой вёскі ў наш хадатаўскі бок. З маці мы хадзілі да бабы ў Малаеды праз Любін двор, што цераз вуліцу, насупраць нашай хаты. Далей полем да Высокай, лясок каля курганоў, потым уніз да перасохлага балота. Пераходзілі па кладачцы невялічкі ручаёк. За зялёнай чупрынай травы пачыналася дзедава зямля. Было яе няшмат, гектараў каля пяці ворыва і гектар сенакосу. І была яна даўно калгаснай. Ды маці заўжды называла яе дзедавай, нашай зямлёй.

...Па сцяжынцы метраў сто на пагорак і вось ён, дзедаў садок са стракатым дыванам ружовых галовак канюшыны. Збоку роўныя палоскі бульбы, за імі лапушацца буракі. Падыходзім да веснічак, адчыняем. За імі вытаптаная шырокая сцежка ў хлеў, далей у хату, а калі прама, то на зваротны бок пляцу, да сажалкі з высокімі вязамі, хмызняком і шырокім аблогам залацістай пшаніцы. А ніжэй, за пшаніцай, акуратным радком прыляпіліся адна да другой вясковыя хаты. Гэта сама вёска Малаеды. Яна аздоблена невялічкімі пагоркамі і нізінамі, урэзанымі ў небасхіл хутарскімі пабудовамі, разложыстымі вольнымі дрэвамі, лугавымі праталінамі.

Малаеды... Гучная ды адметная назва. Тут і заглыбляцца не трэба ў тапаніміку. І так усё зразумела. Ма-ла-еды, мала яды... Мала ядуць там людзі. А чаму яны мала ядуць? Бо яды, відаць, не стае ім удосталь, таму і мала ядуць, таму і празвалі іх малаедамі. Гэта не навуковы доследу, а толькі маё, самае найпершае і самае простае тлумачэнне вясковай назвы. Ды, здаецца, мо так яно і было. Бо вельмі ўжо беднымі ды гаротнымі здаваліся мне, малому, тутэйшыя малаедаўскія людзі.

Пляц, што выбралі для забудовы дзед Антось і баба Волька, размясціўся на ўзгорку паміж дзвюх



*Дарога на малаедаўскі хутар улетку*

вёсак: Малаедаў і Коханавічаў. Направа - малаедаўскія хаткі, налева збіліся гуртам коханаўскія пабудовы. Але Смаляковых хутар (Антось Смалякоў - так за вочы называлі дзеда) лічыўся малаедаўскім. Месца, на якім ён стаяў, навідавоку адусюль. Дзіўная прыгажосць. Палогі ўзгорак, заліты цёплым сонечным святлом, празрыстыя далягляды і неабсяжны прастор - такі, што святлее галава, спакайнеюць душа і сэрца. Прастора здаецца ўвасобленай рэальнасцю, нібыта кранаеш яе рукамі. А дзедаў пляц - садзік, сажалка, пратаптаныя сцяжынкі, што разбягаюцца, як галінкі на дрэве ў розныя бакі, бачацца мне зараз, праз гады, тым самым нулявым пунктам, з якога пачаўся адлік маіх жыццёвых шляхоў.

Вось там, за нізінкай, адкуль раніцай узнімаецца сонца, наша Казлоўская сярэдняя школа, цэнтральная сядзіба нашага калгаса "Дружба" - кантора, клуб, аўтобусны прыпынак, дарога на Нясвіж, Гарадзею, Стоўбцы, Дзяржынск, Мінск...

Гэтыя назвы - мае пажыццёвыя каардынаты. Але ж дзедаў хутар прыкметней за іншых. І па сённяшні дзень чую пад нагамі яго моц і праўду. Яны даюць мне права быць тут, лічыць гэты край сваёй гістарычнай спадчынай. Радзіма тут наша.

*Мы тут народжаны, перамешаны ў стагоддзях з гэтай зямлёй. Мы яе жывыя сімвалы, пэўныя фігуры, знакі. Мы яе дзеці і яе гаспадары па самаму вялікаму праву Божага промыслу. Як маці і дачка, як бацька і сын, як адна сям'я.*



***Празрыстыя далягляды, неабсяжны прастор***

*Тысячамі нябачных павуцінак перавязаны мы з мінулым, з думамі і наканаваннямі продкаў. Мо ў тым, што не раздзяліць нас, зямлю і людзей, ёсць трываласць кожнага з нас, як чалавека і народа нашага, як нацыі, непаўторнай і адметнай.*

Такімі думкамі бруяцца ў маёй, далёка ўжо не юначай галаве згадкі аб тым часе, калі стаяў малаедаўскі хутар і жывы дзед Антось збіваў грушы з высокай цукроўкі каля калодзежа, каб пачаставаць мяне, свайго малога ўнука; калі баба Волька, жывая і недасягальная ўсваёй шчырасці, гаманіла пра карову і свіней, пра сена і картоплю, ладзячы на стол няхітрыя сялянскія прысмакі, бо як жа не сустрэць дачушку Зіну і зяця Колю, унукаў Ваську, Толіка...

На хутары нарадзілася наша маці, яе малодшыя браты Лёнік і Антон, сястра Маня, старэйшы брат Вечык. Там пражылі да скону дзён сваіх баба Волька і дзед Антось. Хоць і няма ўжо ні дрэўца на тым месцы, хоць і пагорак, здаецца, паніжэў за многія гады расстання, але ж засалодзіцца, заб'ецца ўвішна сэрца пры позірку з-пад бальшака на адзінокі клёнік пасярод чыстага поля. Бо там, за клёнікам, "устае куточактой прыгожы..."

...Баба Волька прыкмеціла нас з картаплянiку, разагнулася, паправіла хусцінку на галаве, адкінула ў бок зелле.

- Унучак да мяне прышоў, Васька, от добра, - кажа яна, ідучы нам насустрач. Вочы свецяцца дабрынёй, губы ласкава ўсміхаюцца.

- Дальбог, чакала вас сёння, думала, мо прыйдзяце зранку. Свіням дала, трохі падветрыло і палезла ў картоплі, бо зелле душыць, - паварочваючыся да маці, гаворыць баба Волька.

- Зранку я тожа на грады пашла, палола, зарастаюць. А за калхозам свету ні бачыш, сваё гібее, - адказвае маці.

Баба Волька глядзіць на мяне з прыветнай усмешкай, добрымі пранікнёнымі вачыма. І так ва ўсе мае гады: у маленстве, у школьны час, у студэнцкія леты, і на вяселлі, і ў наступныя сустрэчы: "Васька, унучак прыехаў...". Азіраючыся зараз на тон час, шкадую аб адным - рэдка бачыўся з бабуляй, рэдка прыязджаў да яе. Мітусня паўсядзённых спраў тлуміла галоўнае, а маладой галаве не хапала розуму, каб спасцігнуць гэты самападман.

Дзеля ўсіх людзей, ведаўшых бабу Вольку, заўжды прыязнымі былі яе шчырасць, дабрыня і прыветнасць. Да бабы прыходзілі пагаварыць, пажаліцца на цяжкі лёс, пазычыць грошай ці папрасіць чарку гарэлкі. Адным словам, адвясці душу. Нікога яна не адхіснула, усім была рада, спачувала і старалася памагчы. Асабліва любіла частаваць свайго зяця, нашага бацьку. Ды і ён любіў заехаць да яе, да сваёй цешчы. Баба Волька з радасцю сустракала яго на хутары, бо ён ніколі не заязджаў госцем, а браўся за якую мужчынскую справу. Паважала зяця за прыстойнасць, вернасць жонцы і дзецям, працавітасць.

Бацька не вельмі быў ахвочы да гарэлкі, але, як і ўсе франтавікі, мог прапусціць чарку-другую, асабліва пасля ўпартай работы. Маці глядзела на гэта спакойна, бо лічыла такое абсалютна нармальным для сталага і недурнога мужчыны. Але адзін раз, узімку, выйшла прамашка. Баба пачаставала бацьку не сваёй самагонкай. А тая аказалася цукровай, дурной і шкоднай. Бацька выбраўся дадому, дайшоў да ляска пад Высокай, і стала яму мутарна: галава набрыняла, зямля і неба закруціліся, завярцеліся. Ён паваліўся на снег, не змог падняцца, заснуў. Быць бядзе, каб не натыркнулася на яго знаёмая даярка, што ішла з Малаедаў на ферму. Яна раскатурхала бацьку, падняла са снегу, давяла



***Баба Волька: дабрыня і спагада. І так ва ўсе мае гады... Здымак 1983 г.***

дадому. Усялякае было ў гэтым жыцці...

Да бабы на хутар мы хадзілі пешшу, дабіраліся на раварах, а калі трохі абжыліся, купілі матацыкл з каляскай, то ездзілі ўсёй сям'ёй. У буднія дні - надвячоркамі, каб памагчы па гаспадарцы; нядзелямі ці ў святы - днём, каб прывезці падарункі, пасядзець, нагаварыцца. Заўжды ў яе меліся прыхаваныя каўбаса ці падсушанае мяса, бутэлечка віна ці гарэлкі - хоць і прыпаміналі бацькаву прыгоду з цукроўкай. А жыла баба ўжо адна, без дзеда, аднак магла прывеціць і родных, і чужых людзей, гасцінна сустракала кожнага, хто пераступіць парог.

...У вайну на хутар паначы завіталі незнаёмыя людзі, пастукаліся ў вакно. Двое мужчын і жанчына. Папрасіліся пераначаваць, сказалі, што ўцяклі ад немцаў з лагера, ажно з-пад Мінска.

- Што рабіць, Волька? - пытаўся дзед.

- Трэба пусціць, Антось, шкада людзей...

- А хто ведае, што эта за людзі, чаго яны хочуць?

- Не, трэба пусціць...

- А дзе ты іх паложыш - вунь чацвёра ляжаць, ступіць няма куды!

- Нічога, Антось, у каморцы паложым...

Прыкладна такі дыялог адбыўся ў тую ноч паміж дзедам і бабай. Іх размову пачула пасярод ночы дачушка Зіна, наша маці. Аб тым яна часта ўспамінала. Асабліва пра тое, колькі перажылі пасля той ночы страху. Прышэльцаў палажылі ў каморцы на сянніках з саломы, раніцай паклікалі за стол паесці зваранай бульбы. Што адбылося далей, я хачу перадаць матчынымі словамі:

- І тут мы ўгледзялі на іх адзежы, на спінах, жоўтыя звёзды. Я хоць і малая была, а помню бацька ажно збялеў, выйшаў у сені, кажа бабе: эта ж, відаць, камуністы беглыя. Заб'юць нас немцы, як дазнаюцца пра іх.

- Адно ж тыя людзі, акуратныя такія, культурна так гавораць: вы, хазяін, ня бойцеся, мы вам нічога кепскага ня зробім. Мы яўрэі, з лягера ўцяклі, пераадзецца няма ва што. Мы пабудзем трохі ў вас, перадыхнём ды пойдзем далей, дзе немцаў няма...

- А назаўтра ў сяло немцы наляцелі, мусіць, іх шукалі, на матацыклах. Ой, як страшна ж было! На суседскі хутар заехалі, чутно гергечуць па-свойму: юда, юда, юда... То мы ні жывыя, ні мёртвыя. Калі к нам прыдуць - канец будзе! Бацька ня ведаў, што й рабіць. А баба кажа гэтым людзям: вы хавайцеся ў пшаніцу...

А во, праз мінуту й немцы на дварэ! Пытаюцца, юда быў... То бацька стаў белы, як палатно. А маці: не, пан, не, ня было, не... Бог даў, абыйшлося, а то пабілі б нас усіх тады...

- Яны пражылі ў нас мо больш за два месяцы. Днём ня выходзілі з хаты, бераглісся чыйго вока. Матка нашла ім адзежу другую, у саміх нічога ня было, але знайшла нешта для іх; дала сала, хлеба, і яны пайшлі. То дзякавалі, дзякавалі нам...

- Я пасля вайны да іх у Мінск ездзіла. Так ужэ яны мяне страчалі добра. І Мінск паказвалі, і ў парыкмахерскую вадзілі завіўку зрабіць...

Сувязі з той яўрэйскай сям'ёй перарваліся. Ніхто не запісаў ні прозвішчаў, ні імён тых людзей. Я часта прыпамінаю гэты эпізод і думаю: якія ж пранікнёныя сэрцы былі ў бабы і дзеда, каб маючы ў хаце чатырох малалетніх дзяцей, прыюціць зусім незнаёмых людзей, уцекачоў з лагера смерці, адмечаных жоўтымі адбіткамі, паставіць пад смяротную пагрозу сябе, дзяцей, блізкіх. Адзін неасцярожны крок, чый-небудзь выпадковы позірк з-за вугла, нечаканая сустрэча і ўсё - канец!

Думаецца яшчэ і такое. Сёння няма вайны і трасухі, не параўнацца з тым часам, а паспрабуйце папрасіцеся да каго на начлег! Не адчыняць не тое што дзверы, а выклічуць адразу міліцыю. І можа, правільна зробяць, бо людзі ў нас зараз не чакаюць дабра адзін ад другога, часта адзінокія ў роспачы і бядзе. Свет змяніўся, у ім скончыліся людскія адносіны. Хоць я далёкі ад думкі, што раней беларусы толькі і марылі, як зрабіць добрую справу суседу. Гэта зусім не так. Аднак былі і такія людзі, як нашыя дзед і баба - Шарапа Антон Антонавіч і Пасацкая Вольга Трафімаўна. Яны, дарэчы, ва ўсе мае з імі сумесныя гады ані разу пра гэта не гаварылі і не ўспаміналі. Бо лічылі гэта, я ўпэўнены ў тым, абсалютна адэкватным чалавечым крокам. Як жа не памагчы чалавеку, калі яму кепска?! Тут і гаварыць няма пра што...



*"Дрэвы памятаюць". Малюнак Надзі Драгавец на рэспубліканскай выставе "Халакост вачыма мастака". 2000 г.*

І вайна, і жыццё пад палякамі, і калгасны побыт спаўна адбіліся горам ды мучэннямі маладаўскаму хутару. Ад успамінаў толькі можна "розумам тронуцца", як гаворыць маці, не кажучы ўжо пра тое, як на самой справе было пераажыць сцюдзёны час.

- Але матка наша от харакцяр мела інцярэсны. Нек ніколі не ўнывала. Што б там ні было, а яна нек заўсюды ў настроі...

Сапраўды, якія б трагічныя моманты не падсцерагалі сям'ю ў той час і пасля, баба Волька, бабуля наша дарагая, ніколі не журылася, не паддавалася самоце. І гэта не было выпадковасцю ці лёгкім напускным флёрам, саматужным прыкрыццём роспачы. Не, гэта зыходзіла з недасягальнай гармоніі яе душы з навакольным светам. Гармонія ж гэта ў сваю чаргу апіралася на глыбінныя каштоўнасці чалавечай існасці, на сваё, праз працу рук, разуменне сутнасці жыцця.

Дзіўна па сённяшніх мерках, бо і я, і мае дзеці, і жонка Галя, здараецца, у намнога прасцейшых абставінах паддаёмся непатрэбнаму смутку ці роспачы. А хіба ж зраўняцца нашы цяжкасці з тымі, што давялося перажыць ім! Адна вайна чаго каштавала! Эпізод з прытулкам яўрэйскай сям'і - толькі чарговы адбітак з тых бясконцых трывожных начэй і дзён. Цярпелі ад немцаў і ад сваіх. Начамі на хутар пастаянна наведваліся так званыя "народныя мсціўцы", часта, па сутнасці, бандыты, бо хто толькі пад партызан ні падстройваўся! Забіралі картоплю, муку, парасят з хлява; аднойчы да смерці збілі дзеда - ім здалося, што ён кепска пакарміў іх коней. Днём наляталі немцы ці паліцаі, шукалі дзяўчат для адпраўкі ў Германію, дзеда хапалі на прымусовыя работы...

Але баба Волька валодала рэдкім талентам мужна і спакойна пераносіць цяжкія ўдары лёсу. І пры гэтым не скамянець ад гора, не адхіснуцца ад людзей, не страціць усмешку на твары, не патушыць агеньчык у вачах. Рана памёр з раку страўніка дзед. Не адолеў нават шосты дзясятак. Баба засталася адна на хутары. Абрабляла зямлю, бегала ў калгас, трымала карову і свіней, здавала яблыкі нарыхтоўшчыкам, каб зарабіць на хлеб. Зімовымі вечарамі пры запальнічцы прала кудзелю, рабіла на кроснах прыгожыя пакрывалы.

- Як яна толькі спраўлялася?! - не раз казала маці. - Столькі дзяцей, эта парцізаншчына! Потым зямлю і ўсё астальное ў калхоз адабралі. А ніколі ж мы ні галадалі, нек умела сэканоміць, зберагчы, заўсюды на стале яда была.



*Баба Волька на нашым з Галяй вяселлі. Злева ад яе Аляксандр Спірыдонаў. За імі дзядька Антон з Марыяй. Справа Галя са мной і Валодзя Янчук, в. Хадатавічы, верасень 1977 г.*

- І разумная. Ніграматная, ня вучылася, а як на базар у Сноў паедуць, то лепш за усіх пасчытае і грошы, і колькі япрук важыць...

- А як школа пачалася, то пашыла мне зрэбную торбачку для кніжак, а дзед лапці новыя сплёў... З Хаттавіч хадзіла са мною вучыцца Фаня Ніны Янкавай, доктарам потым стала. Мы дружылі з ею. Дык мяцеліца пачнецца ці маразы, то маці заўсюды яе пакідала начавацьу нас, бо ёй далёко дадому...

Фаіна Арсеньеўна Булат скончыла медыцынскі інстытут, доўгі час працавала загадчыцай радзільнага аддзялен-



*Доктар Фаіна Арсеньеўна Булат (справа)*

ня, галоўным акушэрам-гінеколагам Нясвіжскай райбальніцы. Выдатны спецыяліст, чалавек спачувальны і добразычлівы, яна займела шырокую вядомасць і павагу сярод людзей. Дагэтуль яе імя ўпамінаюць з цеплынёй і ўдзячнасцю многія жанчыны. А сама Фаіна Арсеньеўна пры стрэчах часта добрым словам азывалася пра нашу бабулю.

Хударлявая, у фуфайцы і доўгай спадніцы, у гумавых ботах, прыгнутая долу цяжкай бясконцай працай, але з адкрытым і прыветным тварам - такой баба Волька засталася ў маёй малечай памяці. Нястомная працаўніца, разумніца ва ўсіх справах, заўжды ў настроі, з добрай усмешкай на твары. Каля яе было весялей, бадзёрай на сэрцы, не так маркотна ад беспрасветнага сялянскага побыту.

З родных у бабы меліся старэйшыя брат і дзве сястры. Адна, Зося, была замужам у Супрунавічах (недалёкая вёска ў бок Снова), мела дзіця. Але яны памерлі з тыфу на пачатку дваццатых гадоў.

Анэта, другая сястра, пайшла замуж за малаедаўскага хлопца. Яны выехалі на заробкі ў Расію. Прыжыліся на чыгуначнай станцыі Заходняя Дзвіна. Назва гэтай расійскай мясціны была на маім слыху ці не ўсе гады, бо маці часта гаварыла пра цётку Анэту.

- Да толку яна была, відная такая і разумная. Прысылала нам адзежу адтуль, а мы ім сала слалі ў Западную Дзвіну.

- Помню прыехала да нас у трыццаць дзявятым, як саветы прышлі. Бацька, на кані стрэў яе на станцыі ў Пагарэльцах, то адзета была так далікатно. Ні то што мы - у лахманах... Мы з ею ў Наруцавічы ў парк на міцінг хадзілі тады, як саветы прышлі...

Двое сыноў цёткі Анэты пагінулі ў вайну з немцамі. Абодва ваенныя лётчыкі, сталінскія сокалы, згарэлі жывымі. Уявіць толькі гэта, і сэрца зойдзецца ад смутку, а як пережыць такое маці?! Мо ратавалася цётка Анэта дочкамі, бо акрамя сыноў былі ў яе Валя, Зоя, Нюра і Зіна. Па маладосці калі-нікалі сустракаліся з імі, прыязджалі нават да нас у Хадатавічы, а дзе хто зараз - невядома. З гадамі пераціраюцца роднасныя ланцужкі, страчваюцца самыя блізкія сувязі, на іх месцы прарастаюць галінкі новага бясконцага дрэва жыцця.

Старэйшы брат бабы Волькі Антось Пасацкі пражыў жыццё ў Малаедах. Пра яго хочацца расказаць паболей. Прыкметны, незвычайны чалавек. Хата дзядзькі Антося стаяла на ўскрайку сяла, на прыгорку, пакрытая белаю бляхаю, што адразу выдзяляла яе сярод іншых. Я памятаю яго, дзядзьку Баровіка. Лысаваты, з дасціпнымі пранікнёнымі вачыма, каржакаваты. Здаўна цягнулася за ім і за яго сям'ёй, акрамя прозвішча, вясковая позва Баровікі. Пра бабу таксама за вочы казалі Волька Баровікава. Маці не ведала, адкуль такое пачалося. Але ў архіўнай даведцы дакладна значыцца, што Пасацкія і Баровікі перапляліся каля 1850 года. Значыцца, адтуль, ад прадзедаў, цягнулася, не страцілася гэтае неафіцыйнае прозвішча. Такія з'явы на вёсках не былі рэдкасцю. За многімі сем'ямі меліся неафіцыйныя гістарычныя мянушкі.

Дзядзька Антось падлеткам стаў на чале гаспадаркі. Бацькі заўчасна памерлі з тыфу. Пры ім засталіся малалетнія сёстры. І ён, па сутнасці, хлапчук, паказаў сябе смелым, спраўным гаспадаром. Матчын родны брат Лёнік расказваў пачутую ад бабы Волькі гісторыю, як нейкі злыдзень штораз запускаў коней на патраву ў яго сірочыя сенажаці. Даведзены да адчаю хлопчык пасёк іх пугаю да крыві. Гэта ўразіла нават таго нягодніка, і патравы скончыліся.

Малады гаспадар падняў сясцёр, аддаў іх замуж. Быў паранены ў царскую вайну з немцамі. Атрымліваў за гэта ад рускага цара пенсію, даволі значныя грошы, на якія купіў зямлю, стаў паважаным, заможным чалавекам.

- Добры і разумны, - казала маці пра дзядзьку. - А як бабу нашу, сястру сваю, любіў. Адзін раз мяцеліца хутар замяла, дык ён ад сяла сцежку пратаптаў, бо баяўся, што баба будзе йсці да яго ды ёй цяжка будзе...

- Ніколі не прыйшоў да нас на хутар, каб што не прынёс нам. Ці цукерку, ці яблыко, але прынясе...

Пры паляках дзядзьку Антося выбралі солтысам, накшталт старасты, пасля - войтам, гэта яшчэ вышэй. Ён арганізаваў пачатковую школу ў Малаедах, вучыў сялянскіх дзяцей. Пры немцах зноў назначылі старастам, бо ўмеў трохі па-нямецку, навучыўся на германскім фронце. І калі налягалі ў сяло браць маладых на работы ў Германію, то дзядзька Антось многіх папярэджваў, ратаваў ад аблавы. Пагаворыць з афіцэрамі, яны і едуць далей.

Перасцерагаў аб немцах партызан, меў сувязі з камандзірамі атрадаў. Але калі прыйшлі савецкія, то дзядзьку засудзілі за супрацоўніцтва з акупантамі і адправілі ў сібірскі лагер. Вярнуўся пасля смерці Сталіна, зноў наладзіў гаспадарку, памагаў бабе Вольцы, калі засталася адна. Хоць і свая сям'я ў яго была немалая.

З сям'ёй у дзядзькі Антося атрымалася цікава. Яго першай жонкай была родная сястра дзеда Васіля Драгаўца з Хадатавічаў - Ганна. Я ўжо ўпамінаў аб тым у папярэднім раздзеле. Гэта яна захварэла тыфам, яе хадзіў хаваць дзед Васіль. Ад гэтага шлюбу ў Антося Пасацкага нарадзілася чацвёра дзяцей, якія прыходзіліся нам, па матчыным вызначэнні, роднымі "з дзвюх рук". Пра іх я таксама расказваў.

Я малым доўга не разумеў, што ў нас за радня такая "з дзвюх рук". Блытаўся ў гэтым сваяцтве. Маці, бывала, казала: "З Васям Пасацкім мы двaюрадныя і па мне, і па бацьку...". Так усё пераплялося, як сышліся бацька і маці, пажаніліся.

У другім шлюбе ўдзядзькі Антося нарадзіліся яшчэ дзеці. З усімі мы радніліся, добра ведалі.

Дзядзька Антось Пасацкі застаецца ў памяці нашага роду светлым і разумным чалавекам. Пахаваны ён разам зжонкаю недалёка ад дзеда Антося і бабы Волькі на наруцаўскіх могілках, дзе шумеў некалі адмысловы еўрапейскі парк графа Чапскага. Там часта мы праходзімся з братам, углядаемся ў магільныя пліты, у фотаздымкі на помніках. І баба Волька на помніку маладая, з ясным, адкрытым тварам. Углядаемся, пазнаём нешта матчынае, нашае, нашых дачок у яе абрысах. "Яна цябе так любіла, сынок", - казала мне на бабіным пахаванні маці. Было гэта пахмурнелай восенню 1991 года.



*Баба Волька маладая. Здымак з помніка на наруцаўскіх могілках каля вёскі Аношкі*

**Дзед Антось. Смалякі**

Мне падабалася бываць у Малаедах ва ўсе мае малечыя гады. Помніцца непаўторны, асаблівы пах дзедавай хаты. Увогуле, за жыццё я прыкмеціў, што кожная сям'я мае свае адметныя пахі. Гэткімі



***Тая ж самая дарога на малаедаўскі хутар узімку. Але адна ва ўсе дні***

ж пахамі адрозніваюцца і пабудовы, у якіх жывуцьтыя ці іншыя сямейныя суполкі. Нават зараз, седзячы за камп'ютарам, адчуваю пахі дзедавай хаціны. Толькі падумалася аб тым, і з'явіліся, прыляцелі аднекуль гэтыя салодкія, непадобныя ні на што водары. А разам з імі наплылі, нібы ў кінастужцы, адна за другой замалёўкі далёкага часу.

...Зіма. Надворак, поле, сад - усё засыпана снегам. Дзед на кані прывёз нас з матуляй на малаедаўскі хутар. Мы сядзім у шырокіх санях, на пахучым сене, пакрытым саматканай кваціcтай дзяружкай. Заязджаем на двор. Пад ногі, радасна скуголячы, клубком кідаецца сабачанё. На ганак выходзіць бабуля, пачынаецца гоман. Я дзіўлюся на вялікі камень, што ляжыць каля плоту насупраць калодзежа. Яго адпраталі ад снегу, бо бралі зранку ваду. Ён не проста вялікі, а велічэзны, такіх я ніколі яшчэ не страчаў. Перад дзвярыма ў хату - яшчэ адзін, такіх жа неверагодных памераў, але плоскі, падобны на стол. Дзед палажыў яго замест ганка.

...Той валун каля калодзежа, што запаў мне ў вочы на дзедавым пляцы, адзінае, што засталося ад хутара сёння. Ён непрытульна ляжыць пасярод пустога калгаснага поля...

Мне трымціць залезці ў дзедаў патэфон. Адкуль узялося ў хаце гэтае тэхнічнае аўдыяцуда, я не ведаю. Дзед толькі ў святы ці пры гасцях дазваляў яго адкрываць і карыстацца. Але з нагоды нашага прыезду ці, мо, каб пазабавіць мяне, малога, паставіў патэфон на стол, накруціў бліcчастую



*Могілкі ў Наруцавічах. Апошні прытулак малаедаўскай радні*

ручкаю спружыну, акуратна апусціў галоўку з іголкай на чорную бліскучую пласцінку, якая закружылася. Праз хрыпоты і шум палілася песня, прыгожая і незвычайная. Дарослыя пастаялі, паслухалі і пайшлі па справах: маці з бабай гатаваць ежу на кухню, дзед на надворак, зняўшы перад тым галоўку з пласцінкі. Патэфон застаўся на стале. Я не магу стрымацца. Адкрываю, спора кручу ручку і чую, як нешта трэснула ўнутры. Ручка бязвольна апусцілася. Лопнула спружына. Я прыкрываю вечка, стаўлю патэфон назад, а сам хаваюся пад ложак, бо разумею, што зрабіў вялікую шкоду...

...Позняя восень. Гразка і холадна. Забіраюць у салдаты дзядзьку Лёніка, малодшага матчынага брата. Ладзяцца праводзіны ў бабінай хаце. Я з дзецьмі на печы. Зверху, нам добра ўсё відаць. Не спускаем вачэй з шумлівага відовішча. Стаіць гоман, многа людзей, грае гармонік. Моцна накурана. Баба Волька, маці і жанчыны з радні снуюць з талеркамі ды чыгункамі праз дзверы на кухню. Я дзіўлюся, як гэта яны там, за сталамі, нешта гавораць, ківаюць галовамі, смяюцца, пыхкаюць дымам, бо пачуць і разабраць хоць слоўца ў гэтым тлуме ніяк нельга, як я ні намагаюся...

...Мы ўжо пераехалі ў вёску, у сваю хату. Раненька да нас прыйшоў дзед Антось. Былі яшчэ мужчыны. Капалі пограб, бо восенню не будзе куды сыпаць бульбу. Маці карміла іх абедам. Дзед нетаропка і моўчкі еў. Падняўся першы, за ім мужчыны, і зноў за рыдлёўкі. Да позняга вечара выкідалі з ямы зямлю. Калі ж яны спыняцца, думаў я...

...Я вяртаюся з Баранавічаў ад матчынага стрыечнага брата, дзядзькі Анціка. Яны пасадзілі мяне на аўтобус да Снова. Адтуль іду пяшком да Малаедаў, потым кіруюся на хутар, да дзеда з бабай. Пабуду там трохі, перадыхну і пайду далей, дадому, у Хадатавічы. Мне гадоў восем. Я ўпарты і смелы, як кажа на мяне маці. Дзед ляжыць у пасцелі, хоць і летні дзень на вуліцы. Ён худы і жоўты. Моцна хворы. Прысаджвае мяне на ложак, распытвае, дзе быў. Потым кажа: "Ты, унучак, глядзі, памагай маме..." Гэта была наша апошняя з ім размова і яго апошнія, звернутыя да мяне словы. Усё жыццё я стараюся рабіць так, як наказваў перад смерцю дзед Антось...

...Маці жне картаплянік. Горача. Сонца паліць з усяе моцы. Расчырванелы высокі мужчына на ровары шпарка заязджае к нам на двор. Я пазнаю ў ім бабінага суседа Дэмуха. Гэтыя Дэмухі, ён і жонка, раз ад разу гучна, на ўсю вёску, то сварацца, то б'юцца, то мірацца, бегаючы да бабы. Але зараз Дэмух не такі, як звычайна. Ледзь прыставіў ровар да плоту, закрычаў: "Зіна, бацька памёр! Матка прыслала наказаць..." Маці скамянела з сярпом у руках. У роспачы загаласіла: "Божачкі, што ж гэта нарабілася?!"

...Дзед памёр напрыканцы лета 1962 года. А нарадзіўся ён у 1895-м. Я ўпершыню так блізка бачу нябожчыка. Труна пасярод хаты, вянкі, кветкі,



***Дзед Антось маладзенькі. З помніка на наруцаўскіх могілках***

*Дзед Антось у бальніцы. Апошняе фота. Вясна 1962 г.*



шмат людзей. Сонечны дзень.

Дзеда выносяць на вуліцу. Галосяць бабуля, маці, сястра Маня. А дзед засмучана-засяроджаны, як і пры жыцці, ляжыць у труне. Гуртам за труною рухаемся ў бок Наруцавічаў, да зелянеючага гаю, што застаўся ад пасаджанага некалі графам Чапскім еўрапейскага парку. Перад пабураным графскім палацам - вясковыя могілкі. Пазней там, каля дзеда, пахаваюць і бабу Вольку. Чаму людзі паміраюць, задалося тады мне пытанне, на якое дагэтуль шукаю пэўнага адказу...

Дзед Антось застаўся ў памяці родных неймаверным працаўнікам, чалавекам сціплым на словы і акуратным у жыцці, патрабавальным да сябе і да родных.

- Як ужэ трудзяшчы быў, то пашукаць - не найсці такога, - выказвалася ў нашых размовах маці. - А шчодры, шчодры... Ідзе ў гумно малаціць снапэ, то боты абвяжа анучамі, каб ня порціліся. Такі эканомны...

- Лапці плёў, і я насіла яшчэ іх, помню тое... У школу ў лапціках хадзіла... От, каб цяпер так пажылі, як мы некалі...

Дзеду даволі дасталося гора на яго хоць і не вельмі доўгім вяку. Маладзенькім забралі ў царскую армію на вайну з немцамі. Гібеў у акопах, хадзіў нават у штыкавую атаку. Дарэчы, было гэта каля суседняй вёскі Жанкавічы. Маладых салдат з мясцовых хлопцаў далёка не пасылалі, фронт стаяў паміж вёсак. Пераадзелі - і ў акопы. Баба Волька памятала, як іх, дзяўчатак, царскія салдаты частавалі цукрам, разбіваючы на кавалкі вялікія і круглыя, сінявата-белыя галоўкі.

Потым памянялася ўлада. Польская акупацыя. Ставілі хату, куплялі зямлю, бераглі кожны злот.

Зноўку вайна. Немцы ганялі на шашу Сноў-Нясвіж масціць каменні. Разагнешся на хвіліну, адразу атрымаеш гумовай палкай па спіне. Не было спакою і начамі. Штораз наведваліся начныя госці - партызаны. Пра некаторых казалі: не партызаны, а куфэрнікі, бо для іх найпершая справа - залезці ў куфар, забраць сала ці палатно. Тым, што на конях, - давай муку, бульбу, авёс. Чуць што - пісталет пад нос ці прыкладам па галаве. Наводзіў страх нейкі Кузняцоў, па сутнасці, бандыт з акружэнцаў, нібыта партызан, мсцівец. Неяк наскочылі ўначы на хутар, паднялі дзеда, скамандавалі: "Кармі коней!", а самі па вёсцы.

- То потым збілі бацьку на горкі яблык, места жывого ні было... Эта ж ім паказаласё, што ён даў прагорклы авёс, бо коні ні даелі, у торбах застаўся. А бацька ж па шчырасці карміў, ні падманваў... Каб ён спрындзіўся, эты Кузняцоў, такая гадасць, бандзіт... Колькі людзей яны тут перабілі адно...

Так пра бацькавы нягоды гаварыла маці.

Прыйшлі савецкія - забралі ў абоз, кінулі пад Баранавічы на прымусовыя работы. Цягаў на кані бярвенні з лесу - ваенныя рабілі там свой аэрадром.

Па вайне - пад прымусам уступай у калгас і аддай нажытую маёмасць. Гэта было цяжэй і за немцаў, і за палякаў, і за партызан. Дзеду, патомнаму селяніну, расстацца з зямлёй, што дасталася крывёю і потам, якую са слязьмі на вачах дзялілі паміж братамі і сёстрамі, ды яшчэ аддаць абібокам карову, каня, вупраж - усё роўна, што расстацца з рукамі і нагамі.

"Па вокны зямлю абрэзалі, недавяркі, -казаўдзед па матчыных успамінах, - галадуха была адна ў этым калхозе, нічога не давалі, а ўсё забралі".

Але ж сцярпелася і гэта. Праўда, не без наступстваў. Заўчасная дзедава смерць не абышлася без перажытага пер態трусу.

Дзед не любіў лішніх размоў, пустой балбатні; тварам заўсёды строгі і сур'ёзны. Хударлявы, акуратна пабрыты, з вусамі. Адмыслова разумеў звычкі птушак і звяроў. Лоўка лавіў на петлі зайцаў, ставіўersпасткі на лісаў і тхароў. І браў іх нямала. "Жыд да яго прыязджаў і купляў шкуркі тхарыныя. Добра плаціў за іх, мо пяць злотых".

Гаспадарку вёў да толку, парадак трымаў і ў полі, і ў хляве, і ў свірне. Чарку гарэлкі мог выпіць толькі на Вялікдзень ды Каляды. На гэтыя вялікія святы наведваўся хто з братоў ці родных. Садзіліся за стол, добра елі, трошкі выпівалі. Пасля абыходзілі пасевы, аглядалі жывёліну ў хляве. Зноў прысядалі за стол, выпівалі па маленькай чарачцы, вялі нетаропкую размову.

Уставаў рана. Маці казала - у чатыры ці ў палове пятай раніцы. Браўся адразу за работу. Потым, калі баба напякала што ў печы, гадзін каля васьмі, прыходзіў з надворка на снеданне. Трохі спачываў - і зноў за працу.

Што дзед Антось быў адмысловы гаспадар, я добра разумею зараз. Бо ў маленстве рэчы ўспры-

маюцца непасрэдна, без філасофскіх акалічнасцяў. Дзедаў жа хутар, як ён мне ўяўляецца сёння, меў поўны набор эстэтычна-гаспадарчых каларытаў. Хата, хлеў, гумно, сенажаць, поле пад жыта, буракі і бульбу, пад агарод. Наперадзе - прыгожы лужок, сажалка, абсаджаная высокімі вербамі і вязамі. Улетку вечарамі там грымеў нястомны жабін хор, раніцамі гучна плёскаліся карасі ды плоткі. Пасядзець каля сажалкі, паслухаць птушыныя спевы ці наглядзецца зоркамі альбо месячыкам у яе круглым люстэрку, нагуляцца ў хованкі паміж дрэвамі і хмызняком - было незабыўнай дзіцячай асалодай пры жывых дзеду і бабе. Сажалку выкапаў дзед, абсадзіў яе дрэвамі, запусціў рыбу. Як там было прыгожа і хораша! Незнаёмыя з кнігамі і мастацтвам, але светлыя душою, дзеці матухны - зямлі, нашы продкі вельмі тонка адчувалі і цанілі сапраўдную, непадробную зямную прыгажосць.

Ад дзеда Антося і бабы Волькі ў нас засталіся



***Ад дзеда Антося і бабы Волькі засталіся чыгунны прысак на вуголлях...***



***... і саматканае пакрывала, якім на святы засцілалі ложак***

чыгунны прысак на вуголлях і саматканае пакрывала, якім на святы засцілалі яны свой ложак. Фарбы і кветкі на пакрывале дагэтуль свецяцца зыркімі колерамі, і я штораз здзіўлена імі любуюся. Якія яны непаўторныя ў сваім абрысе!

Так атрымалася, што вельмі мала давялося мне бачыць дзеда і быць з ім разам. Брату Анатолю, маім стрыечным братам наогул не прыйшлося з ім стрэцца. Але ўсе мы былі са Смаляковых. Так у вёсцы называлі дзеда Антося, хоць прозвішча ён насіў Шарапа. Ды паходзіў па маці сваёй з роду Смолкаў з вёскі Панюцічы, што перад Сновам, на шашы ад Нясвіжа, хоць сам нарадзіўся ў Маладзедах. Ды ўсё роўна казалі Антось Смалякоў.

І на маці ў Хадатавічах гаварылі: Зіна Смалякова, а ў злосці Смалянка ці Смалянчыха. На мяне казалі за вочы Вася Смалянчын.




***Магіла дзеда Антося і бабы Волькі***



На сяле доўга не памірае прыналежнасць да роду, да пароды, як любіў выказацца бацька. Гэта найлепшая характарыстыка чалавека. Адкуль, з якога ён роду? А, з гэтых?! То яны людзі гарачыя, сварыцца любяць... З імі цяжка будзе жыць... Вось і адказ на ўсе пытанні.

Дзед Антось меў братоў - Міхася, Васіля, Рыгора і Уладзіка. Міхась, прыгожы і статны, дaслужыўся ў царскай арміі да афіцэрскага чыну. Пасля фронту пайшоў у прымакі ў суседнія Коханавічы. Ды пачаў прыкладвацца да бутэлькі, асабліва пасля рэвалюцыі, калі бальшавікі абрэзалі царскія выплаты, зрабілі лепшых найгоршымі. Дзед ушчуваў яго, але дарэмна. Так і памёр заўчасна з гарэлкі, замёрз недзе каля скірды п'яным.

Яго дачка Гэля выйшла замуж за Колю Царука ў Даматканавічы і часта ў нядзелю ці пасярод тыдня, наведвалася цераз лес да нас, пагаварыць з маці, сваёй стрыечнай сястрою. Прыгожая і здатная жанчына. Гаворка лілася з яе, як звонкі струменьчык з меднага глячыка. Жылося ёй нялёгка. Мужыка Колю, калгаснага трактарыста, пасадзілі за нейкі тлум у турму; яна з чатырма дзецьмі змагалася за існаванне.

Апошні раз я бачыўся з цёткай Гэляй на бацькавым пахаванні. І зараз яшчэ яна калі-нікалі наведваецца да маці пагаманіць пра жыццё. Але ўсё радзей - баляць ногі. Неяк прыязджалі з Мікалаем на кані. Ды і тое мінулася. Не можа сама, то выпраўляе свайго Царука пехатою ў Хадатавічы: "Трэба заслаць Зіне што-небудзь..." Дыбае паціху напрасткі праз лес яе Коля, нясе падарунак, гусака ці свіную дзялянку. Робіць ён гэта з ахвотай, бо ведае, што Зіна пачастуе, усадзіць за стол, пагамоніць з ім. Дый на зваротны шлях дасць бутэлечку якога вінца, то і шлях гэты з вінцом будзе адною асалодай. Я з цеплынёй узгадваю цётку Гэлю - мужную і дасціпную жанчыну, якая вытрымала цяжкія ўдары лёсу, не разгубілася, засталася бадзёрай, прыязнай да людзей.

Рыгоравы сыны Юлік, Вася і Аркадзь аселі ў Снове. Быў яшчэ Іван, пагінуў на вайне ў Берліне, за дзень да Перамогі. Гарадскі пасёлак Сноў вядомы паўсюдна як цэнтральная сядзіба славутага раней калгаса імя Калініна, а зараз такога ж слыннага агракамбіната "Сноў". Па сноўскія каўбасы ды прысмакамі чэргі ў кожнай краме. Там, у Снове, наша радня - людзі вядомыя і працавітыя. Васіль Шарапа быў умелы токар, знатны на ўвесь раён. Не раз аб ім друкаваліся пахвальныя артыкулы з фотакарткамі ў раённай газеце "Чырвоны сцяг". Карысталіся павагай сярод людзей і яго браты. Іх справу доўжаць сыны ды ўнукі.

Уладзік, трэці дзедаў брат, перабраўся ў Нясвіж. Меў дзяцей ад двух жонак. Сыны служылі на моры, там і падаліся ў рыбакі. Забралі з сабою сястру Марцэлю. Па чутках, зараз жывуць у Клайпедзе. З імі сувязі няцесныя.

Жыццё параскідала радню, перамяшала яе паміж людзей. Штодзень несупынна круціцца млын часу, меле і меле секунды, хвілі, гадзіны, дні... Як бы хацелася пагаварыць, стрэцца з бацькам, з дзядамі і бабулямі. Ды тое немагчыма. Бачыцца і гаварыць трэба пры жыцці. А зараз толькі памяць настойліва вяртае мяне да іх, бо жывуць у сэрцы іх токі, іх позвы, іх думкі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Уладзіслаў Станіслаў Рэймант*

# 1794 год

## Апошні сойм Рэчы Паспалітай*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

- А падкаморша знайшла сабе выдатнага танцора.

- Гэта граф Анквіч. Найпершы гаварун у сойме і, мабыць што, найпершы розум, але і найпершы, бясспрэчна, юргельтнік[1]. Мае тысячу пяцьсот дукатаў у месяц ад імператрыцы і вялікія праспекты[2] на будучыню. Ціхі кансультант Сіверса! - зашаптаў яму на вуха. - Гэта яго галаве, вынаходлівасці і інтрыгам абавязаны мы днём 17 ліпеня[3]. Можаш сабе ўявіць, што гэта за персона!

- Сапраўды, незвычайная! - падтакнуў Север, з'ядаючы Анквіча вачамі.

Пачакай жа, прачытаю табе цэлае літанне, ведаю яго на памяць. За Анквічам ідзе яшчэ лепшы, Мёнчынскі[4]. Само пекла выплюнула гэтага нягодніка з найглыбейшых сваіх закуткаў. Карцёжнік, п'яніца і parricida[5]. Тысяча дукатаў у месяц і права бяскарнага рабавання, дзе толькі ўдасца. Ненаедны гарляк, дзіравая кішэнь і чарвівае сумленне. Заўсёды гатовы на самую вялікую подласць. А апроч гэтага - неперасягнены сабутэльнік, чароўны гуляка, цынік і найпершы жартаўнік у свеце. Давераны Ігельстрома, правёў па яго ўказцы апошнія выбары ў Кароне, натуральна, за адмысловую даплату. Танчыць у пары з паняй Залускай[6], дамай сэрца свайго патрона і прыяцеля, якая зараз клапоціць пра кароннае падскарбства для мужа. Цалкам дабраная пара. Д'ябал будзе мець з іх пацеху.

- Хутчэй бы іх на пацеху кату, - працадзіў Зарэмба, але для затушавання гэтых слоў, дадаў хутка, - а таго, што за імі, я аднекуль ведаю.

- Бялінскі[7] - старшыня сойма. Тысяча дукатаў у месяц на рукі і гэтулькі ж прадуктамі, кватэрай і каханкамі. Слова гонару! Бакамп змушаны даваць яму кожны дзень кармавыя, інакш яму не было б чаго есці і дзе жыць. Бо ўсё прайграе. Ад Касакоўскіх таксама вывуджвае нямала. І тут стрыжэ і там голіць.

- А той руды - Машынскі? Увесь у дыяментах!

- А так, гэта наша дарагая "пярцэпта[8]", граф Фрыдарык. Думае, верагодна, што пад дарагім каменнем не бачны будзе яго горб і лісіная пыса.

- Віца-камедант нашай кадэцкай школы... Але я насілу яго пазнаў. Моцна пастарэў. Гэты, я думаю, ні ў каго не на юргельце? Залішне сам багаты!

- Багаты, бедны - якое гэта мае значэнне? Бярэ той, каму даюць. Бо не даюць задарма, дзеля нечых прыгожых вачэй. Гэты "пярцэпта" грашыма не бярэ, але так сябе нясе, што няхай яму блісне канцлерства, зробіць усё, што ад яго ні запатрабуюць. Пакуль што ўжо фанабэрыцца табакеркай з партрэтам імператрыцы, якую атрымаў за трактат. Амбітная гэта персона. Бяздушны, як камень, і прагны, як габрэй. Вельмі пры гэтым дасведчаны, і не за страх, а за сумленне працуе для Семіраміды і для Рэчы Паспалітай! Мае дзве слабасці: любіць

* Пераклад Станіслава Судніка паводле Wladyslaw St. Reymont. Rok 1794. Ostatni sejm Rzeczypospolitej. Wydawnictwo Literackie. Krakow, 1953 г.

[1] Юргельтнік (з ням.) - наёмнік.

[2] Праспекты (з лац.) - віды.

[3] 17 ліпеня - Гарадзенскі сойм зацвердзіў для соймавай дэлегацыі, якая адправілася ў Пецярбург, паўнамоцтвы для падпісання трактату пра падзел Рэчы Паспалітай.

[4] Мёнчынскі Каятан - каронны пісар польны, таргавічанін, люблінскі пасол на Гарадзенскі сойм, дзе дзейнічаў пад дыктоўку Сіверса. Давераны Ігельстрома, дбайна праводзіў скарачэнне войскаў, браў удзел у вярбоўцы ў расейскую армію.

[5] Parricida (лац,) - бандыт.

[6] Залуская Ганарата - каханка Інгельстрома, жонка Тэафіла Залускага, кашталяна бускага, пазней жонка Інгельстрома.

[7] Бялінскі Станіслаў (пам. у 1812) - чашнік вялікі каронны, як маршалак Гарадзенскага сойма, быў паслушным інструментам у руках амбасадара Сіверса.

[8] "Пярцэпта" (з лац.) - "даход".

бліснуць уменнем танчыць і з захапленнем збірае дарагія каменні. Пaглядзі, як абсыпаны імі, - зусім як Люлі[1]! Адны запінкі каштуюць не менш пяцідзесяці тысяч дукатаў. А гэта, што трасецца так пацешна з ім побач, сапраўдны кошык пры мужыцкім возе, гэта - генеральша Раўтэнфельд[2]. Генерала сам хутка спазнаеш і "палюбіш". Ён сочыць за парадкам у сойме, прысутнічае на паседжаннях з запаленым кнотам ад гармат. А таму карыстаецца "палымянай" павагай у публікі.

- Але дама мае выгляд абознай маркітанткі. Слухаю цябе далей з тым жа захапленнем.

- Асабліва не шкадуй захапленняў! - яхідна ўсміхнуўся Война. - Да канца яшчэ далёка. Бачыш вунь таго, у зялёным фраку і залацістай весце[3]? Гэта літоўскі гетман, Забела[4]. Можа быць, ты яго ведаеш, але не псуй мне прыемнасці прадставіць яго. Мае вочкі, поўныя чуласці, твар пачцівы і хаду галоднага ваўка. Вельмі годная персона! Абрабаваў роднага брата і пусціў яго з торбамі. Справа атрымала розгалас на ўсю Рэч Паспалітую. Крэатура Касакоўскіх і дарадца ва ўсякіх рабаваннях і вяленцыях[5]. Каб ты меў, рыцар, яшчэ глыбейшую эстымацыю[6] да гетмана, то скажу, што гэта ён прадаў распушчаную брацлаўскую брыгаду Крачэтнікаву[7]. Пакуль кажуць пра гэта шэптам, але вядома ўжо даволі гучна, як ён лавіў з казакамі гемайнаў і браў за іх па пяць рублёў, за афіцэраў - па пяцьдзесят, а рыштунак прадаваў асобна. Неабходна дадаць, што яму даводзілася дзяліцца са сваім камаратам[8] Златніцкім[9]. Разумееш, што гэта муж вельмі заслужаны ў справах публічных, - дадаў ён з бляклай усмешкай.

Север жыва павярнуўся. Каля суседняй калоны стаяў Якуб Ясінскі[10], яго былы палкоўнік, і як быццам уважліва прыслухоўваўся.

- Жудасныя ты распавядаеш рэчы! Мне страшна нават усё гэта чуць.

Ён з трывогай пaглядзеў на Ясінскага.

Война зразумеў яго засцярогу, але, пагладзіўшы валасы на сваіх скронях, кінуў нядбала:

- Усе пра гэта ведаюць і перадаюць адзін аднаму па сакрэце. Толькі я не патрабую ад цябе, каб ты яго захоўваў. Калі хочаш, можаш распавядаць усім.

- Я не вялікі ахвотнік распаўсюджваць плёткі, асабліва гэтак неверагодныя.

Можаш мне верыць... Ва ўсякім разе, калі табе гэта цікава, патрывай і паслухай... Вунь глядзі: ружовы фрак у кветкі, гарцап, заплецены чорнай стужкай, валасы падпудраныя, твар застылы, нос чырвоны, з каштоўнай кропляй ад табакі, рухі разлезлыя, вочы непрытомныя - гэта сам літоўскі маршалак Тышкевіч[11]. Гэта пра яго ходзіць вельмі трапны вершык:

*Булаву па палаце носіць,*
*Арбітраў[12] з залы выводзіць.*
*Ціха ўзнёслыя прапановы прагаворвае,*
*А ўслых у Сіверса прабачэння вымольвае...*

Ненавідзіць Касакоўскіх, а таму "моцна любіць Айчыну", аднак жа так баіцца ў гэтым прызнацца, што гаворыць пра яе толькі фігуральна і заве яе - "Дыянай" [13]. Часта дзьмецца на Сіверса і паціху спрыяе зялянтам[14], але ж паколькі яго

---

[1] Люлі - маркграфія, французская эмігрантка, каханка Станіслава Аўгуста.

[2] Генеральша Раўтэнфельд - жонка расійскага каменданта Гародні.

[3] Веста (з франц.) - камізэлька.

[4] Гетман польны літоўскі Забела Юзаф - таргавічанін, павешаны 9 траўня 1794 г. па выраку Найвышэйшага суда.

[5] Вяленцыя (з лац.) - гвалт.

[6] Эстымацыя (з лац.) - шанаванне.

[7] Крачэтнікаў Пётр (к. 1730 - 1792) - расійскі генерал, браў удзел сумесна з польскімі войскамі ў бітве з Барскай канфедэрацыяй і ў задушэнні паўстання Гонты і Жалязняка (1768). У 1792 г. уступіў у Польшчу для падтрымкі Таргавіцы.

[8] Камарат (з ням.) - таварыш.

[9] Златніцкі Антоні - харунжы чырванагродскі, адданы прыхільнік Шчаснага Патоцкага, браў чынны ўдзел у Таргавіцкай канфедэрацыі. У 1793 г. Здаў Камянец Падольскі ў рукі Расіі. Падчас паўстання прыгавораны завочна Найвышэйшым крымінальным судом да кары смерцю.

[10] Якуб Ясінскі (1759 - 1794) - палкоўнік, камендант Корпуса інжынераў у Вільні, аўтар рэвалюцыйнай паэзіі, быў галоўным арганізатарам паўстання на Літве. У 1794 г. як генерал камандаваў паўстанчымі сіламі на Літве; быў найвыдатнейшым прадстаўніком рэвалюцыйнага крыла паўстання, загінуў геройскай смерцю падчас абароны Прагі.

[11] Тышкевіч Людвік (пам. 1808) - прызначаны Таргавіцкай канфедэрацыяй маршалкам Вялікага Княства Літоўскага, засядаў у Гарадзенскім сойме, браў удзел у стварэнні Гарадзенскай канстытуцыі.

[12] Арбітры (з лац.) - тут: соймавая публіка.

[13] Дыяна - рымская багіня палявання.

[14] Зялянт (з лац.) - чалавек шчыры, энтузіяст; так назвалі чальцоў патрыятычнай апазіцыі Гарадзенскага сойму.

субстанцыі[1] - у расійскіх межах, а амбасадар любіць паказытаць яго ваеннымі пастоямі ў іх, то згаджаецца на ўсё. Шаноўная, хоць і пацешная фігура. За ім валачэцца, нібы стрыножаны конь, князь Сулкоўскі[2]. Кажуць - інтымны канфідэнт прускага караля. Сваю лафу[3] атрымлівае ў талерах. Далей дрыгае з пані Дзяконскай Рачынскі[4], хітрун, верны паслугач Бухгольца, не грэбуе, аднак, і рублікамі. Для поўнага камплекту бракуе нам Ажароўскага. Працытую табе толькі вершык, складзены адным з зялянтаў:

*Ні целам, ні пер'ямі*
*На быдла не падобны ані,*
*Але ўсімі сваімі дзеямі*
*Дае выяву... свінні!*

Партрэт цалкам дакладны. Пра каго ж табе яшчэ расказаць?.. Пра біскупа Касакоўскага і яго братоў[5] ты мусіш ведаць досыць. Грамадства калінебудзь ацэніць іх па справядлівасці... А заслугі астатніх таксама чакаюць яшчэ выкрыцця і адплаты. А такіх, як Падгорскі, Лабаржэўскі[6], Бакамп і шмат-шмат іншых, не трэба крэйдай пазначаць: пазнаеш іх у ночы, бо ўжо здалёк смярдзяць падлай. Вось і ўяві сабе, што за брыда сабралася ў Гародні. Ба, трапіцца сяды-тады для ўцехі і які-небудзь кунтушовы шаноўны баран, які нібы катрынка, верашчыць увесь час адно: "Воля, роўнасць, вера і liberum veto!" Але тэнар[7] усіх гэтых выкрыкаў адзін: бяспраўе, самадурства і хцівасць. Словам - пацешны звярынец гербавай шушамеці! - скончыў ён, водзячы асавелымі вачыма па вясёлым натоўпе.

- Ці не занадта ўжо змрочна глядзіш?

- Калі зманіў, няхай мне кат вырве язык! - кінуў рэзка, але праз хвілю працягваў ранейшым, кплівым тонам. - Перад тварам чужых злачынстваў лягчэй самому прасіць адпушчэнне грахоў. Кажу табе гэта не як мараліст, які бядуе над падзеннем грамадства, а як чалавек жудасна стомлены. Рады быў бы адпачыць ад гэтага лотраўскага карнавалу.

- Хіба няма іншага жыцця і радасці па-за гэтай сацыетай!

- Дзе ж мне шукаць фартуны? Чалавек прывыкае нават да гразі.

Паланез скончыўся, музыка змоўкла, гаворка адразу напоўніла велізарную залу.

- А да манастыра ў мяне няма ні найменшай схільнасці! - загаварыў ізноў праз хвіліну Война. - Хіба толькі калі б у мяне было досыць сродкаў, каб купіць тлустае біскупства ці хоць бы кракаўскую каад'юторыю[8]. Тады б я, як прымас, уладкоўваў бы раскошныя каўсеты[9] для дам і раз'язджаў бы з імі ў карэце шасцёркай, з круцыферам[10] наперадзе. Хаваў бы труфелі ў алтары ад ласага капелана, як біскуп Скаршэўскі. Аздабляў бы царкоўным срэбрам экіпажы і збрую, як Косакоўскі. Ну, і жыў бы сабе прыпяваючы, як належыць пастыру. Касцёлы яшчэ не ўшчэнт абрабаваны, хапіла б яшчэ і на маю долю. Цудоўная ідэя, ці не праўда?

Зарэмба паглядзеў на яго нейкім літасцівым паглядам.

- Глядзіш на мяне, як крумкач на падыхаючага каня.

Война адчуў сябе пакрыўджаным.

- Мне цябе жудасна шкада. Але я цябе вылечыў бы.

- Адгадваю нават, якімі лекамі. Дзякую табе, аднак не да спадобы мне салдацкая служба, не выношу паху ялавых ботаў, кашы з салам і карчомных Венер[11].

Яго нават перасмыкнула ад гідлівасці.

- Можа надысці хвіліна, калі гэта будзе адзіным медыкаментам.

---

[1] Субстанцыя (з лац.) - маёнтак, маёмасць.

[2] Князь Сулкоўскі Антоні (1735 - 1796) - генерал каронных войскаў, прызначаны Таргавіцкай канфедэрацыяй вялікім каронным канцлерам.

[3] Лафа (з тур.) - жалаванне, аплата.

[4] Рачынскі Казімір (1770 - 1824) - маршалак надворны каронны, браў чынны ўдзел у Таргавіцкай канфедэрацыі. За аказваныя паслугі атрымліваў пастаяннае жалаванне ад расійскага ўрада.

[5] Пра біскупа Касакоўскага і яго братоў... - браты біскупа Касакоўскага (1733 - 1798), ваявода віцебскі (1735 - 1798), кашталян лінфляндскі, былі праціўнікамі рэформ Вялікага сойму, належалі да прыхільнікаў прарасійскай арыентацыі; Шымон (1742 - 1794) - баршчанін, ад 1790 г. генерал на расійскай службе, арганізатар і кіраўнік Таргавіцкай канфедэрацыі на Літве, прызначаны ёй гетманам польным літоўскім. Ад часу Таргавіцы і да паўстання выконваў дыктатарскую ўладу на Літве, безаглядна выкарыстоўваючы сваю пасаду. Згінуў на шыбеніцы падчас паўстання ў Вільні ў 1794 г.

[6] Лабаржэўскі Ігнацы (пам. 1822) - маёр на расійскай службе, таргавічанін, чарнігаўскі пасол на Гарадзенскі сойм, агент амбасадара Сіверса; пасля III падзелу высокі ўраднік у Пецярбургу.

[7] Тэнар (з лац.) - сэнс.

[8] Каад'юторыя (з лац,) - управа каад'ютара, пралата, даданага для дапамогі арцыбіскупу ці біскупу.

[9] Каўсета (з франц) - пасядзелкі.

[10] Круцыфер (з лац.) - той, хто нясе крыж на чале працэсіі.

[11] Венера - у рымскай міфалогіі багіня кахання і прыгажосці.

- Можа... А пакуль - вочы долу! Цуд наближаеецца да нас!

Зарэмба ўпіўся халодным поглядам у стройную шатэнку, якая спынілася за некалькі крокаў ад іх, у коле бліскучых маладых людзей, прыцягваючы да сябе ўсе погляды. Яна прыбралася Дыянай, у валасах, мастацкі ўзбітых над ілбом і спадаўшых павойнымі локанамі, іскрыўся вытанчаны дыяментавы паўмесяц, а з амаль голых плячэй звешваўся залаты калчан, напоўнены аперанымі стрэламі. Павуцінная туніка, сапраўды вытканая з бірузы, прашытай сонечнымі прамянямі, даходзіла ў яе толькі да лытак, перавязаных залатымі стужкамі. На ўсіх дзесяці пальцах босых ног зіхацелі пярліны, перламі ж была апяразана лебядзіная шыя, і перлы, падвешаныя на залатой нітцы, туліліся між адкрытымі грудзьмі. Твар у яе быў дзёрзка прыгожы, нос арліны, бровы чорныя, нібы грозна нацягнутыя лукі, вочы вулічнай мілосніцы, і палымяныя, налітыя крывёй губы.

- Бязгрэшная Дыяна! Бяда Актэону[1]! - уздыхнуў Зарэмба. - Калі не захоча яе ўспяваць. Зграя сабак пад рукой, нацкаваць нядоўга.

- Хто гэта? Мае перлы, вартыя каралевы.

- Кошт ім ведае Рэч Паспалітая! Пра яе ходзіць вершык:

*Маркграфіня Люлі*
*Можа ўсіх прытуліць,*
*Тут і лёкаі, і каралі*
*Маркграфіня Люлі*

Палюбоўніца караля, ну - і многіх іншых.

- Маркграфіня!

- Толькі Бакамп ведае, як там у яе ідзе з тытулам, ён зводзіў яе з каралём, ён жа ёй і пратэжуе. Чуў я, быццам шукае для яе мужа. Трэба ўвесці цябе да яе. Адзіны дом у Гародні, дзе можна сустрэць усе фракцыі, усе саслоўі і ўсе гульні, ад ламбера да бернардынскага цвіка[2]. Вельмі вясёлы дамок.

- І такую прымаюць?

- Эх ты, высакародны рыцар чысціні і нявіннасці! Чалавек, начынены недарэчнымі забабонамі, вораг волі! Засячы сабе раз і назаўжды, у асвечанай штодзённасці ўсіх нацый пануе і кіруе адна несмяротная максіма: "Ni maitre, ni pretre, ni Dieu" [3].

Зарэмба жахнуўся і хацеў пратэставаць, але Война апярэдзіў яго:

- Я павінен вылечыць цябе ад гэтай парафіяльнасці. Мне вядомыя сродкі супраць самых зацвярдзелых цнотаў. Пакуль жа - бягу прадставіцца Дыяне.

Зарэмба зноў звярнуў сваю ўвагу на Ясінскага, які працягваў стаяць каля суседняй калоны і, не адводзячы вачэй ад танцораў, час ад часу абменьваўся нейкімі шэптамі і знакамі з рознымі людзьмі.

"Фармуе нейкую змову!" - падумаў Зарэмба і, не адважваючыся падысці да яго, сеў у глыбіні на лаве, дзе ўжо некалькі пажылых дам у пышных буклях з жарам малолі языкамі.

Музыка зайграла капрызны англез, больш дзясятка пар танчылі пасярэдзіне залы пад началам знакамітага маэстра Давіні, які ў белым парыку, у белым фраку, у белых туфлях і такіх жа кюлотах і пальчатках, з капялюшом пад пахай і булавой у руцэ, увесь ў вытанчаных прысяданнях і піруэтных паклонах, вёў захопленых танцам падначаленых.

Чырвоныя лакеі ў парыках разносілі срэбныя і крыштальныя збаны аршады[4] і баваруазы[5].

Пажылыя дамы забаўляліся што раз усё больш сардэчна; драпежныя погляды блішчалі, нібы стылеты, а яхідныя шпількі, празрыстыя намёкі, іранічныя ўсмешкі ўвесь час даносіліся да вушэй Зарэмбы; ён працягваў, аднак, мужна сядзець, як быццам не разумеючы іх дзівачнай латанай французчыны, заняты толькі Ясінскім і кожным яго рухам.

Складныя ларнеты з адным шкельцам падніmaліся штохвілінна, прымяраліся да розных прыгажунь, з'едлівыя ж языкі працавалі без адпачынку.

- Несялоўская! Voile et tunuque a la vestale![6] Ха-ха! А выглядае як ключніца, захутаная ў брудныя прасціны.

- Ці вось гэтая, Шыдлоўская! Яе coiffure a l'aantique[7] падобная на растрэсены сноп гарахавіння. Гэта мусіць быць у плоцкім гусце.

- Ажароўская выглядае сёння, нібы добра заседжаная канапа.

- Свой адвіслы жывот магла б пакінуць дома. Глядзець агідна.

- Валеўская не мае нічога пад тунікай! Бессаромная, нясе свае струпаватыя лапаткі, як дараносіцу. Сабака завыў бы ад такога відовішча!

- Гледзіце, у літоўскай маршалковай дэкальтэ

---

[1] Актэон - у грэцкай міфалогіі паляўнічы, які падгледзеў купаўшуюся Артэміду (рымская Дыяна), багіню палявання, за што, ператвораны ў аленя, быў разарваны ўласнымі сабакамі.

[2] Ламбер (з франц.), бернардынскі цвік - гульні ў карты.

[3] "Ni maitre, ni pretre, ni Dieu" (франц.) - "Ні пана, ні ксендза, ні Бога".

[4] Аршада (з франц.) - напітак з міндалю.

[5] Баваруаза (з франц.) - гарбата або гарачая вада з малаком.

[6] Voile et tunuque a la vestale! (франц.) - вэлюм і туніка вясталкі.

[7] Coiffure a l'aantique (франц.) - антычная прычоска.

ад пупка да мяккіх частак.

- А трасуцца яны ў яе ззаду, як быццам хочуць з сораму адваліцца.

- Не страціла б іх, як старасціха Вадзінская ў Варшаве.

- Люлі! Якія перлы! Які хвост прыхільнікаў! Парыжская пасудамыйка!

- Шамбялянша Рудзкая са сваёй рабой малпай.

Зарэмба здрыгануўся і слухаў больш уважліва, хоць са сціснутым сэрцам.

- Гэта яе новы amі! Кажуць, ён выдаткаваў на яе ўжо трыста тысяч дукатаў. Выпісвае з Парыжа эстафетамі ўборы і ласункі.

- Нехта, годны даверу, распавядаў, што яна і іншым не рэкузуе[1].

- Гэта з жалю, каб ім у складчыну лягчэй было справіцца з выдаткамі. Бедная вясталка, грошы цяпер нялёгка даюцца, а шамбялян скупы.

Зарэмба курчыўся ад нязноснай злосці, але, заўважыўшы, што Ясінскі забаўляецца, здымаючы пярсцёнак з аднаго пальца і адзяваючы на другі, і робіць гэта асаблівым спосабам, падышоў да яго і шапнуў:

- Які прыгожы пярсцёнак!

Ясінскі з папераджальнай усмешкай падаў яго.

Пярсцёнак быў залаты, формы, як звалі тады, "рымскага рыцарства", з надпісам "Fidis Manibus", датай "3 траўня" і іменем, выгравіраваным на ўнутраным боку. Такія пярсцёнкі насілі ў памяць пра Канстытуцыю.

Зарэмба выняў з камізэлькі такі ж самы і паднёс да яго вачэй.

- Падобны на ваш! - прагаварыў ён ціха, з трывогай чакаючы адказу.

- Як “Слаўся вера!” - прагучаў ледзь чутны голас.

Тады Зарэмба падышоў яшчэ бліжэй і, прашаптаў:

- Бог з табой.

І назваў сваё прозвішча.

- Стань да мяне бокам, праглядай уважліва публіку і рабі выгляд, быццам мы незнаёмыя. Ты мяне ведаеш, кадэт? З якой ты брыгады?

- З другой. Хто ж з нас не ведае палкоўніка! - сказаў радасна Зарэмба.

- Шэф[3] папярэдзіў мяне пра твой прыезд.

- Ён ужо ў Гародні?

Зарэмба разглядаўся па зале, і хоць убачыў сярод танцаваўшых Ізу, не крануўся з месца, паніклшыся важнасцю хвілі.

- Будзе на днях. Збіраецца Рада[4]. Дзе начальнік?

- Верагодна, ужо на шляху ў Кракаў.

- А шпегі шукалі яго па ўсёй Гародні і ваколіцах.

- Была такая здагадка, яго мусіў выдаць Мераслаўскі[5], сцеражыся яго; ён вядзе нейкія шашні з Таргавіцай. Меў рабіць зусім іншыя справы.

- Мне патрэбна сувязь з Мадалінскім[6] і Грахоўскім[7].

- Заўтра атрымаеш плянты[8]. Я кватарую ў доме гетманшы Агінскай, але часцей знойдзеш мяне на абедзе ў Ажароўскага ці ў Касакоўскага. Не

[1] Рэкузуваць (з франц.) - адмаўляць.

[2] Fidis Manibus (лац.) - “Верным рукам”.

[3] Шэф - гаворка пра арганізатара краёвай змовы, генерала Ігнацыя Дзялынскага (1754 - 1797), які ў канцы траўня 1793 г. утварыў у Варшаве таемны Рэвалюцыйны камітэт. У змове былі дзве групоўкі. Памяркоўная з Дзялынскім і Капостасам на чале намервалася абаперці паўстанне на прагрэсіўнай шляхце і мяшчанскай вярхушцы, мела праграму рэформ, якая не выходзіла за Канстытуцыю 3 траўня. Другая, радыкальная, якая выводзілася з Калантаеўскай Кузніцы шукала ўзору паводзін у дзейнасці якабінцаў, дамагалася суровага пакарання таргавічан і радыкальных зрухаў у сялянскім пытанні, лічачы мужыцкія масы і гарадскі люд за галоўную сілу будучага паўстання. На пачатку верасня 1793 г. змоўшчыкі завязалі кантакт з польскай эміграцыяй у Саксоніі, давяраючы кіраўніцтва будучага паўстання Касцюшку. Вялікія надзеі звязвалі змоўшчыкі з дапамогай рэвалюцыйнай Францыі. 4 сакавіка 1794 г. найчыннейшых чальцоў змовы накрылі масавыя арышты, пагражаючы поўным знішчэннем арганізацыі. На пачатку красавіка эмісар Касцюшкі Томаш Марушэўскі нанава арганізаваў змову пад назвай Рэвалюцыйнага саюза з кіраўнічым органам Радай Цывільнай і Вайсковай.

[4] Рада - Рэймант мае тут праўдападобна на ўвазе т.зв. Малую раду (Капостас, Віліхноўскі, Ельскі), прызначаную Касцюшкам (толькі аднак у верасні 1793) для каардынацыі змовы вайсковай і цывільнай.

[5] Мераслаўскі (Міраслаўскі) Мацей - чалец Каятанаўскай Кузніцы, капітан артылерыі, удзельнік польска-расійскай вайны ў 1792 г. У 1793 годзе стаў сакратаром гетмана Ажароўскага і атрымаў ранг падпалкоўніка. Аднак браў удзел у Варшаўскім паўстанні.

[6] Мадалінскі Антоні (1739 - 1803) - генерал, чалец памяркоўнага крыла краёвай змовы, камандзір брыгады дыслакаванай у Пултуску і Астраленцы. 12 сакавіка 1794 г. у паразуменні з варшаўскімі змоўшчыкамі выступіў са зброяй у руках.

[7] Грахоўскі Ян - палкоўнік, чалец краёвай змовы, загінуў у бітве пад Шчакацінамі 6 чэрвеня 1794 г.

[8] Плянта (з лац.) - план, праграма.

дзівіся нічаму, - працягваў, падсоўваючыся яшчэ бліжай Ясінскі. - Табе трэба ўвайсці ў прыяцельскія адносіны з рускімі афіцэрамі. Война табе дапаможа, ён тут запанібрата з усімі, але з ім самім будзь асцярожны: хітрун і балбатун, гатовы для дасціпнага слоўца душу прадаць. У цябе ёсць грошы?

- Бярнаўкс[1] мае даваць, колькі трэба.

- Будзь заўтра на прыёрскай імшы ў бернардынаў.

- Я там кватарую. Ці наладжана пошта з Варшавай?

Але замест адказу ён пачуў крокі, што аддаляліся, і праз нейкі час убачыў Ясінскага ў другім канцы залы ў свіцe прыгажуні Люлі. Казаў ёй якраз нейкія дусеры[2], ужо ўвесь у расшаркванні, паклонах і ўсмешках. Прыгожы твар выразна адлюстроўваў яго высакародную душу, вочы іскрыліся прытоеным агнём, вусны ж, відаць, былі красамоўныя, бо Люлі паглядала на яго што раз больш ласкава і чула.

Ён гаварыў хутка, часта адкідваючы завітыя, пышныя буклі, сплываўшыя аж на каўнер зялёнага фрака, і жэстыкулюючы правай рукой, як бы секучы шабляй.

Зарэмба глядзеў на яго гарачымі вачыма даўняга прыхільніка і пачуваўся пасля гэтай неспадзяванай сустрэчы дзіўна памацнеўшым духоўна і не такім самотным сярод вясёлага натоўпу.

"Значыць, і ён з намі! Літоўская артылерыя - наша!" - разважаў ён, насілу стрымліваючы сваю радасць.

Пачаў узважваць усе добрыя наступствы, што выцякалі з гэтага факту для справы, і звязваць іх з агульнымі задумамі.

- Заскачаце вы неўзабаве! - прашаптаў ён між волі, праводзячы сіверсавых афіцэраў ваўчыным, драпежным і бязлітасным поглядам. - Хутка скончыцца гэтае ваша сабачае вяселле.

Душа яго кіпела, абураная той расшалелай, безразважнай весялосцю, якая панавала вакол, і відам здрадлівых прадажнікаў, якіх выкрыў перад ім Война. Ён сачыў за імі прытоеным поглядам, адзначаў кожную рысачку іх твару і стараўся запомніць.

Іза пранеслася міма яго ў танцавальным віхры. Не азірнуўся нават на яе, але толькі першы раз у жыцці паглядзеў на жанчын з нянавісцю.

- Пякельныя лялькі! Зводніцы! - ліў ён на іх горкія словы і на чулыя пагляды, якімі яны адорвалі яго, адказваў суровым поглядам пагарды.

Прыпыніўся, аднак, у раззалочаных дзвярах і штораз неспакойней глядзеў на пары, якія віравалі па зале, на аголеныя грудзі, босыя ногі, празрыстыя тунікі, што нічога не хавалі, на бессаромную галізну, якую пажыралі пажадлівыя вочы мужчын, і на юрлівыя выгіны целаў, якія кружыліся ў танцы.

Дрыготка ахапіла яго, і кроў ускіпела, бо ён упершыню ўбачыў гэты "алімп", ад якога веяла ўтрапёнасцю запалу і неўтаймаванай распустай.

Саромеўся ў душы, але не мог адарваць вачэй і стаяў, як прыкаваны. Нібы сон, поўны спакус і чароўных зданяў, кружыўся перад палымянымі вачыма, выгінаўся перад ім бясконцай стужкай і непераадольна вабіў, ап'яняў, захапляў... Як бы карагод цудоўных, стройных незямных істот, што плыве ў аблоках павуцінных заслон, праз якія ігралі жывыя колеры целаў і ўвесь сілуэт іхняй страшнай прыгажосці.

Былі там псіхеі[3] з грудзьмі, падобнымі на бутоны, з тварамі як бы з месяцовага ззяння, былі высокія, ганарлівыя і непрыступныя на выгляд Дыяны, з усталяваўшайся славай распусніц.

Былі вясталкі[4], спавітыя ў непарочную белізну імартэляў, самі падобныя на белыя лілеі, дзёрзка страляўшыя вачамі.

Былі царэры[5], поўныя каралеўскай велічы, сеяўшыя вакол прагу жарсных пажаданняў і шалаў.

Былі німфы і дрыяды, апранутыя зусім a la sauvage, толькі ў кветкі, пёры, каштоўныя камяні і бессаромную галізну.

Былі і дзяўчаткі, якія ледзве выйшлі з дзіцячага ўзросту, збянтэжаныя сваёй галізной, спалоханыя і ашалелыя, як вакханкі.

Было і шмат іншых, адна прыгажэйшая за другую, і кожная, паводле модным звычаям, выстаўляла ўсё, што толькі было, на паказ і на продаж.

- Што ж гэтыя вы ў такой салітудзе[7]? - раздаўся раптам побач ціхі салодкі голас.

Павярнуўся. Перад ім стаяла подкаморша з чароўнай усмешкай на вуснах.

- Я заблудзіўся сярод цудаў! - паказаў вачамі на натоўп танцораў.

[1] Бярнаўкс - варшаўскі купец і банкір. Восенню 1793 г. быў зняволены на нейкі час Сіверсам з-за падазрэння ў пасярэдніцтве паміж краёвай змовай і Парыжам. Браў удзел у паўстанні як член Допытнай дэпутацыі (інстытуцыя, якая збірала следчы матэрыял супраць таргавічан), выкладваў вялікія сумы на патрэбы паўстання.

[2] Дусер (з франц.) - камплімент, ветлівасць.

[3] Псіхея - у грэцкай міфалогіі прыгожая багіня, каханка Эраса, бога кахання.

[4] Вясталка (з лац.) - жрыца Весты, багіні хатняга агменя.

[5] Царэра - рымская багіня земляробства.

[6] A la sauvage (франц.) - як дзікаркі.

[7] Салітуда (з франц.) - самотнасць.

- Я магу быць вашай Арыяднай[1]!

Яна намачыла языком сакавітыя, пунсовыя вусны, тыфтыковы echare[2] зваліўся з яе плячэй, так што яна ўся заблішчала перад яго вачамі, як бы зусім голая.

Ён адступіў, злёгку збянтэжаны пышнасцю яе прыгажосці і юрліва палымянымі вачыма.

- Вашмосць, пратанчыш са мной англез!

Ткнула яна яго далікатна ў грудзі веерам.

- Які я няшчасны! Я не адрозніваю казачка ад менуэта!

- Шкада, а то вы - мужчына на славу! - выпаліла яна проста з моста, разглядаючы яго з непрыхаванай асалодай.

Север ускіпеў і выпаліў, таксама без затрымкі:

- Ні для чаго такса - я не прадаюся.

Пакланіўся горда і адышоў.

Подкоморша як бы атарапела, але доўга яшчэ сачыла за ім вачамі.

А ён блукаў па пакоях, шукаючы самотнасці, але ўсюды было поўна людзей. У зацішных бакоўках, дзе матавае святло, якое пралівалася з алебастравых урнаў, як бы запрашала да засяроджаных дум, хаваўся гарачы шэпт любоўных прызнанняў ці драмалі стомленыя матроны, у парадных жа пакоях, пасля ад'езду Сіверса і ўсяго дыпламатычнага кору[3], госці зацята рэзаліся ў карты. Пакоі былі літаральна біткам набіты і цёмныя ад дыму, бо мужчыны палілі люлькі, нягледзячы на прысутнасць дам і звычаі. "Фараон" панаваў усяўладна. Столікі былі ў аблозе. Над зялёным полем схіляліся драпежныя галовы, блішчалі ліхаманкава вочы, і трэсліся рукі. Час ад часу раздаваліся важкія дэкларацыі, пасля якіх наставалі хвіліны пакутнага чакання, парушанага толькі сухім шамаценнем выкіданых карт, і да таго напружанага, што чуваць было, дыханне са свістам і дрыжыкі ног. Потым раздаваліся раптам адразу выбухі праклёнаў, гвалтоўныя спрэчкі, звон перасоўванага золата і цяжкае, балючае маўчанне.

І так ішло па колу, пры штораз іншым стале і ў іншым пакоі.

Пры гэтым пілі так бязмерна, што лакеі ледзь паспявалі падаваць і наліваць.

Зарэмба меў ужо досыць тых уражанняў, калі побач з ім апынуўся Война. Вочы ў яго дзіўна блішчалі, і шчокі гарэлі.

- Пэўна, прайграўся?

- Ганебна, да самых запінак! Пазыч мне, што толькі можаш!

Зарэмба падаў яму даволі важкі мяшэчак.

- Дукатаў пяцьдзесят будзе! - прашаптаў Война, узважваючы мяшэчак у руцэ. - Давай згуляем на палову!

- Як хочаш. Хто ж гэта цябе так абчысціў?

- А гэты дарагі твой таварыш, Навакоўскі.

- Добра, што ты мне нагадаў пра яго; мне трэба з ім пабачыцца.

- Толькі не гуляй з ім; яму заўсёды так шанцуе ў картах, як быццам у яго нейкі таемны звяз з Фартунай. Ён сядзіць там, у круглым пакоі. У мяне прадчуванне, што я адыграюся. Дзякуй табе!

Пляснуў па адтапыранай кішэні і паляцеў.

Зарэмбу перахацелася раптам бачыць Навакоўскага.

Ён вярнуўся ў залу на ранейшае месца, пад калоны хораў, і сачыў адтуль вачамі за Ізай. Яна шпацыравала ў суправаджэнні рабога, бледнага пана, які лашчыўся да яе, як собачка, і нечага настойліва ад яе дамагаўся. Яна не адказвала, водзячы нахмуранымі вачамі вакол. Некалькі разоў адчуў на сабе яе пільны пагляд, але, як быццам нічога не бачыў.

Прайшла міма яго надзьмутая падкаморша - не заўважыў яе; прайшоў Ясінскі - не ўбачыў; нейкія юнакі за яго спіной дзяліліся адзін з адным інтымнымі заўвагамі пра розныя прыгажунь - не чуў нават іх галасоў. Яе адну толькі бачыў ва ўсёй зале, толькі яе адну...

Але нават не захацеў наблізіцца да яе. Аддаваў перавагу таму, каб глядзець так, здалёк, і запамінаць навекі яе цудоўныя формы. Навошта яму больш! Наглядзіцца толькі і сыдзе! Вырашаў, не быўшы ў сілах крануцца з месца.

Яна заўважыла яго і прыпынілася, утапіўшы ў ім дапытлівыя вочы. Загадкавая ўсмешка слізганула па яе вуснах, а ў яго гвалтоўна забілася сэрца... Яна адышла і знікла ў натоўпе. Музыка зайграла зноў, пачынаўся новы танец. Давіны, нібы белы вятрак, размахваў рукамі, расстаўляючы непаслухмяныя вясёлыя пары.

Раптам Зарэмба схіліўся нібы пад прыцэльным ударам, мароз прашыў яму сэрца... Яна ішла да яго з нейкім ціхім заклікам, вусны яе трапяталі, здавалася, вымаўляі яго імя. Яна плыла, нібы хваля, расштурхваючы вірлівы натоўп з каралеўскай годнасцю. Чорныя локаны павойным роем віліся па яе ілбе, скронях і шыі. Высокія, адкрытыя грудзі дзёрзка выдаваліся наперад. Яна ішла хадой калы-

[1] Арыядна - у грэцкай міфалогіі дачка цара Міноса, якая дапамагла Тазэўру выбрацца з лабірынта пры дапамозе дадзенага яму клубка нітак.

[2] Тыфтыкова (з тур.) echare (франц.) - ядвабны шаль.

[3] Кор (з франц.) - цела, корпус.

[4] Моція (з франц.) - палова.

хаўшайся кветкі. Хвілямі яе закрываў і захопліваў з сабой натоўп танцу. Чакаў тады з пакутлівым трапятаннем, пакуль яна зноў выплыве, пакуль ізноў заззяе яе залацістая туніка, абсыпаная ружамі, і смуглыя, аголеныя да каленяў ногі. На вуснах яе гуляла ўсмешка, усмешка збянтэжанай радасці, а карыя з кропачкамі вочы блішчалі нібы ў тыгра на паляванні.

Яна была ўсё бліжэй і бліжэй; ён чуў ужо стук яе сандаляў, нясцерпны жар ахапіў яго, сэрца білася ўсё мацней і мацней, яму захацелася кінуцца перад ёю ніцма, але ён не паварушыўся і адразу ж пачаў роспачліва узбройвацца абыякавасцю, засланяцца шчытом кплівай усмешкі.

- Я чакала, што, можа, ты са мной прывітаешся.

Ён здрыгануўся. Гэта яна кажа, працягвае руку, яе карыя вочы глядзяць на яго...

- Як я мог асмеліцца, пані шамбялянша... Як мог бы я адважыцца!..

Ён абарваў, настолькі ўласны голас здаўся яму чужым і праціўным.

Яна паглядзела са здзіўленнем і ўсё яшчэ ў чаканні, але ён не прамовіў больш ні словы, толькі ўпіваўся ў яе няўмольным халодным поглядам.

- Пані шамбялянша, мы чакаем! - выклікнуў хтосьці, падбягаючы з крыўляннямі танцора.

Яна падала яму руку і пайшла, хаваючы гнеў.

Зарэмба зрабіў некалькі крокаў услед за ёй, але натоўп падзяліў іх і адапхнуў яго на ранейшае месца.

Велізарная зала закруцілася ў яго ў вачах, усё змяшалася ў адну віхуру - і агні, і чырвоная абіўка, і людзі, і бліскучыя люстэркі, і на чале карагоду белы Давіны, які размахвае булавой, прыбранай стужкамі і скача, як патузваны шнурком блазан, ды верашчыць рыпучым старэчым голасам.

Зарэмба мацней прыхінуўся да калоны і ўжо ні на хвіліну не спускаў вачэй з Ізы. І ні пра што не шкадаваў, не даваў мучыць сябе нудзе. Быў зусім спакойны, але ў гэтай перамозе над сабой быў нейкі горкі прысмак адрачэння, балела яму нешта.

А Іза танчыла зараз як быццам толькі для яго.

Увесь час праплывала перад яго вачамі, нібы залацістая аблачына.

Была падобная на кветку, на месяцовую здань і ў той жа час - на буру, на віхуру.

Твар яе палаў, вочы сыпалі бліскавіцамі, набрынялыя вусны мільгалі ў прасторы пунсовай стужкай, вабіла спакуслівая ўсмешка, вытанчаныя выгіны цела дыхалі жаданнем...

Кожны яе рух быў песняй нуды, успамінаў і кахання...

- Не спакусіш мяне! - адказвалі яго гордыя, задзірлівыя вочы. - Я не аддамся больш на пакуту! Ты забіла маё каханне! - мільгала ў яго ў мазах разам з успамінамі пра нейкія прыгаслыя клятвы і палымяныя пацалункі.

Ён адганяў тыя ўваскрэслыя мары, гнаў іх прэч з памяці, але не мог адарваць ад яе вачэй і сысці, як вырашаў кожную хвіліну.

Ачуўся толькі, калі нехта пхнуў яго ў локаць.

- Чаго табе?

За яго спіной стаяў яго famulus[1] і даверaны - Кацпер.

- Прыехаў капітан і нейкі тоўсты пан, - шапнуў ён яму на вуха.

- Добра, хай Мацей пад’язджае.

- У нас няма пропускаў.

Север паглядзеў, не разумеючы, пра што мова.

- На вуглах стаяць ронты[2], і казацкія патрулі на вуліцах. Кожны павінен мець дазвол ад кашталяна Гародні.

- Як жа мы патрапім дахаты? Прыйдзецца чакаць раніцы.

- Трэба ехаць цяпер, справа важная. Я дамовіўся ўжо з адным басняком[3]. Абяцаў правесці нас.

Север яшчэ раз пагледзеў на Ізу. Яна танчыла, увесь час гледзячы ў яго бок, уся - усмешка, уся - нямое маленне, уся - нібы крык тужлівага кахання.

Ён схаваўся за натоўп гледачоў на танцы і сышоў.

Унізе пад тэрасай чакаў нейкі чалавек, які шапнуў:

- Ідзіце за мной!

І рушыў наперад, аглядаючыся ва ўсе бакі.

На ўсходзе загаралася ўжо світанне. Парк чарнеў і ахутваўся густой смугой, якая цягнулася ад Нёмана. Аднекуль з пашаў даносілася ржанне коней.

Зарэмба азірнуўся на палац; ён зіхацеў усімі вокнамі, капэла грымела, натоўпы танцораў праносіліся па зале, і раз-пораз вырываўся змяшаны гул смеху, тупату і галасоў,.

- Хто, кажаш ты, чакае мяне? - спытаў, спыніўшыся раптам, Север.

- Пан капітан Качаноўскі[4] з нейкім тоўстым панам.

Зарэмба пайшоў так хутка, што спадарожнікі ледзь паспявалі за ім.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[1] Famulus (лац.) - давераны слуга

[2] Ронт (з франц.) - патруль.

[3] Басняк - жаўнер лёгкай кавалерыі.

[4] Качаноўскі - чалец краёвай змовы, давераны Касцюшкі.

***Віктар Дземеш***

# КАБ І СЛОЎЦАМ НЕ ЗГРАШЫЦЬ
## альбо маё бачанне Сымона Буднага

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Частка VI**

**Ранак Лёсу**

Сымон, ты стрэсаў зведаў многа,
Сцінаўся, ды дабро дарыў,
Віляла, збочвала дарога,
Якую сам сабе тарыў.

Свет гэты ўвачавідкі вырас,
Што раньш было - заўваж - няма,
Цяпер у нас - каронавірус,
А пры табе была чума.

Упраўна - быццам бы з расою,
Вядомы ты ці імярэк,
Касіла жыцці, як касою,
Нібы без ліку чалавек.

Сымон, твой колас аж згінаўся,
Але не лёг перад касой,
І ранак Лёсу зноў займаўся
З цнатлівай, горкаю расой.

**Навек з Літвой**

За адступленне, дапаўненне,
Чытач, прабач мяне - я твой!
Напяты ў трансе ад малення,
Нагрэты да вады кіпення,
Я, як Сымон, навек з Літвой.

Ад тэмы адваліўся ціха
З-за пандэміі, што ідзе,
Што наступае, рэй вядзе,
Што нам прынесла гора-ліха,
І ў перманентнай мы бядзе.

Сымон, і ён зазнаў такое,
Калі гула ва ўсіх званах
Чума, пазбаўшы ўсіх спакою,
Лячыў сябе вадой святою,
Пасты трываў штодзень манах.

**Я выстаю з табой, павер**

Я назнарок пра Прэзідэнта
Скажу тут пару цёплых слоў,
Што маналітней ён цэменту,
Што ён лагічны да высноў.

Убачце ж, па-мужчынску правіць
Краінаю - і ўсім, і ўсім,
Ну як такога не праславіць
І не схіліцца перад ім?

Памылкі, хто ў жыцці не робіць?
Што галава, то й розум свой,
А хтосьці нам краіну гробіць,
Чарнявіць сінь над галавой.

Вось гэта толькі без каментаў,
Як Радзівілу ў час служыў,
Сымон бы зладзіў з Прэзідэнтам,
З карысцю б і наш век пражыў.

Заўважу, што і сам я вырас,
Бо лінію прамую гну,
За Прэзідэнтам праз злы вірус
Прварвуся й вокам не маргну.

Пайду туды, куды пакліча,
І ведаю, што буду жыць,
Ён нам краіну узвялічыць,
Якою вельмі даражыць.

*Спяшайцеся на лядовыя пляцоўкі -*
*там няма Cavid-а,*
*умацоўвайце свой імунітэт.*
***А. Лукашэнка.***

Гуляйце ж у хакей - Cavid не любіць смелых
Ён, як сабака, чуе, дзе ўкусіць, каго.

Людзей, дзе дэфіцыт здаровых клетак цэлых,
Вынішчвае з гіпербалоіда свайго.

Хакею не было, калі свой крыж нёс Будны,
А веры шчырай больш - у Бога, у людзей.
Цвярозы лад жыцця -
хадзіў па сцежках путных
І дыхаў чысцінёй для моцнасці грудзей.

Нясвіж. Сярэднявечча.
Чума! Чума! Чума!
Наблізілася вечнасць
І вотхлані няма.

Адзін піў, весяліўся,
Бо прахла ўсё навек.
Сымон тады маліўся,
Пакорны чалавек.

**Аж сам расцвіцеш**

Паслухайце Бацьку свайго:
- Калі не баішся Cavid-а,
Хоць ён і каварны, як гніда,
Тады й не падхопіш яго.

У скверы, дзе свежай ліствою -
З іголачкі - свята настоем ,
Бальзамам жывым для настрою -
Так пахне, аж сам расцвіцеш...

Я ў жудаснай, чырвонай зоне,
Дзе кожны перахварэў,
Таму грызе штоноч бяссонне,
Таму я, можа, азвярэў.

Злы, быццам чорт галодны.
Сымоне, мой далёкі брат,
Скажы, як выцярпеў ты родны
Чуму сярод тых страшных страт.

Ці волі там было паболей,
Ці можа той святой любові,
З якою дзень распачынаў?
Што жыў ты будзеш - ведаў, знаў.

Я выцягну свой страх з закуткаў
І сам пачну яго таптаць,
Каб потым больш ні на мінутку
Пра тое ўжо не шкадаваць.

**Я з Паэтам**

Народ узрушша не хавае,
Такія ўжо людзіны мы.
“Пайшла на спад Cavid-а хваля” -
Паведамілі сродкі СМІ.

І вакцынацыі, і ўпёртасць
Дапамаглі адолець зло,
І, можа, годнасць, можа, цвёрдасць,
Як ні было б, а пранясло.

Што ж дачакаліся, і летам
На мора нехта паляціць,
А я з Сымонам, я з паэтам
Прадоўжу рыфмаў плесці ніць.

**Да будучых радкоў**

Век насядае грозны,
У ім - то бляск, то цьма.
Што больш для нас сур’ёзна:
Cavid - гад ці чума?

Чума - яна далёка,
Cavid дзяўбе цяпер,
Ды не слязі ты вока,
У Бога spраўна вер.

Змагаемся і будзем
Трымацца на плаву,
Бо як-ніяк, мы - людзі
І маем галаву.

Я гордым застаюся,
Хоць мне ўжо ёсць гадкоў.
З Сымонам расстаюся
Да будучых радкоў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Уладзімір БРУЙ*

# НЯБЕСНЫ БАНК

Па гэтай вясковай дарозе ў любую пару года прыемна ехаць не толькі таму, што яна пакрыта даволі роўным пластом асфальту, але і таму, што ўсё вакол уяўляе сабой вельмі жывапіснае відовішча. Шырокія палі і шэрагі дрэў уздоўж шашы не ствараюць уражання чагосьці манатоннага ці аднастайнага. Калісьці ў гэтай мясцовасці стаялі суцэльныя хутары, на якіх жылі нашы з жонкай продкі. Шаша плаўна ідзе на ўздым, і неўзабаве за касагорам хаваецца гарызонт. Прыходзіцца дадаць газу, каб машына не губляла абароты, і лінія паміж небам і зямлёй нечакана ламаецца, і ўзнікае дзіўнае адчуванне, быццам ты апынуўся ў кабіне самалёта або планёра.

Крыху ніжэй, злева ўзнікаюць хаты вёсачкі, яшчэ ніжэй і правей пачынаецца яшчэ адно выбудаванае ў адну звілістую вуліцу сяло, а ў самым нізе, зноў налева адгаліноўваецца глініста-жвіровая грунтоўка, якая ідзе паўз некалькіх дамоў да ўзгорка, на якім згадваюцца старыя сельскія могілкі.

Гэта і ёсць мэта нашай паездкі. Сучасныя пахаванні з абавязковымі металічнымі агароджамі пастаянна выклікаюць у мяне адразу некалькі пытанняў: што і ад каго могуць зберагчы гэтыя агароджы і як яны могуць перашкодзіць любому злоснаму намеру?

Хутка мы ўжо дабрылі амаль да самага падножжа ўзгорка. Бліжэй да вяршыні сустракаюцца лапіны, зарослыя непраходнымі хмызнякамі і іншай дробнай расліннасцю. Некалькі дзесяцігоддзяў таму ў гэтай мясцовасці здарылася страшэнная навальніца. Ураганны вецер паклаў амаль усе векавыя дрэвы, многія агароджы і помнікі былі разбураны, павалены або пахілены. На працягу многіх гадоў людзі саматужна пілавалі і прыбіралі зламаныя ствалы, галіны ды вецце, а асобных куткоў з забытымі магіламі так і не кранула чалавечая рука - паступова яны ператвараліся ў непраходныя звалкі для ссечанага быльнягу, выдранага пустазелля ды рэштак жалобных вянкоў.

Жонка першая ўспамінае, дзе нам трэба спыніцца. Выходзім з машыны, вымаем з багажніка рыдлёўку, ручную пілку, сякеру. Праз шырокую брамку ўваходзім на тэрыторыю могілак. Пераадольваем даволі круты ўздым, абыходзячы як вельмі старыя, пакрыўленыя, часам з нечытэльнымі надпісамі камяні, так і даволі новыя помнікі. Раз-пораз позірк машынальна выхоплівае знаёмыя партрэтныя выявы ці імёны. Нарэшце ўзбіраемся на даволі роўную пляцоўку і спыняемся перад агароджай вакол магілы майго цесця. На ёй сціплы надпіс: "Корсак Яўген Казіміравіч. 1914-2002".

Жонка пачынае прыбірацца ўнутры агароджы, а я - высякаць парослы наўкола хмызняк. Расчысціўшы праход паміж цесцевай і суседняй магіламі, я аддаўся думкам і пачуццям, што раптам агарнулі мяне, а затым пачаў маліцца.

Скончыўшы малітву, павярнуўся да жонкі, а яна кіўнула на суседнюю магілу і спытала:

- Ведаеш, хто тут пахаваны?

Я паціснуў плячыма, а яна сказала:

- Той самы … .

Я імгненна зразумеў, пра каго ідзе гаворка.

У гэтым месцы я хацеў бы разарваць дагэтуль роўны ланцужок падзей і перанесціся ў самы пачатак Другой сусветнай вайны, якую мой цесць Яўген Казіміравіч Корсак сустрэў у якасці жалнежа польскага войска. Яго падраздзел не паспеў уступіць у бой з гітлераўскімі захопнікамі, калі бессэнсоўнасць далейшага супраціву стала настолькі відавочнай, што камандзіры не толькі не ўтрымлівалі салдат, але хутчэй спрыялі таму, каб тыя... проста разышліся па сваіх хатах.

Дома Яўген прабыў зусім нядоўга і быў мабілізаваны на гэты раз ужо ў Чырвоную Армію. Служба ў сапёрным батальёне заключалася ў тым, што яго байцы практычна не выпускалі з рук рыдлёвак - у раёне Брэста будавалася інжынерная лінія абароны.

Раніцай 22 чэрвеня 1941 года грукат выбухаў, кулямётных чэргаў з самалётаў з чорнымі крыжамі на крылах змяшаўся з дзікімі крыкамі параненых, стогнамі кантужаных. Трэба быць рэдкім героем, чалавекам неверагоднай волі і загартоўкі, каб захаваць розум сярод гэтага апраметнага пекла, не паддацца паніцы ды распачаць якія-небудзь асэнсаваныя дзеянні.

Калі авіяналёт скончыўся, пачаўся артабстрэл. А ўслед за ім нямецкія аўтаматчыкі прачасалі размяшчэнне часткі, якая спыніла сваё існа-

ванне літаральна за некалькі гадзін, сагналі ў калону ўсіх здольных перасоўвацца савецкіх салдат і загадалі рухацца ў невядомым напрамку. Здавалася, што і святло, і сонца проста перасталі існаваць і людзі страцілі ўсялякую здольнасць арыентавацца ў прасторы.

Першай прыкметнай кропкай адліку далейшых падзеяў стаў лагер ваеннапалонных. Хворых і слабых, якія не змаглі выйсці на працу, тыя, хто вяртаўся ў лагер увечары, больш не бачылі. Не ўсе вярталіся і з працы.

У іх лік цудам не патрапіў Яўген Корсак. Аднойчы, калі ўжо стаяла халодная восень, падчас працы яму стала настолькі дрэнна, што ён упаў на зямлю і не змог падняцца. Канваір загадаў адцягнуць яго і кінуць у выкапаную траншэю. Суайчыннікі, якія выканалі гэтую каманду, адыйшлі на некалькі крокаў у бок і, утуліўшы галовы ў плечы, назіралі за тым, як салдат здымае з пляча вінтоўку і накіроўвае яе ствол уніз.

"Ну, вось і ўсё",- падумаў Яўген. І раптам нечый голас выразна прамовіў да яго: "Паглядзі яму ў вочы". Ён прыўзняў галаву і велізарным высілкам прымусіў сябе пагаядзець у вочы, як яму здавалася, немінучай смерці.

Светлавалосы, блакітнавокі немец з тварам, які нёс на сабе адбітак нейкай хваробы, паглядзеў на яго халодным бязлітасным позіркам і прыжмурыў, цаляючы, адно вока. Тут іх погляды сустрэліся. Ні за што на свеце салдат не чакаў, што ахвяра будзе разглядаць яго не з дзікім страхам, а з чымсьці па-добным да простай чалавечай цікаўнасці. Праз некалькі імгненняў ён прыбраў з курка палец, які раптам стаў да нерухомасці непаслухмяным, апусціў стрэльбу, а потым закінуў яе за плячо.

Далей канваір паклікаў да сябе палонных, што стаялі ў поўным здранцвенні, і жэстам загадаў ім выцягнуць Яўгена з ямы.

Лежачы на сырой зямлі, Яўген адчуў, што можа прапаўзці некалькі метраў да невялікай бярозкі. Не ўсведамляючы, што робіць, ён стаў грызці кару і з прагнасцю высмоктваць з яе ялкавы сок.

Увечары яму дапамаглі дабрацца да лагера. За ноч вязню стала лягчэй, і ён цудоўным чынам пайшоў на папраўку і змог выходзіць на працу.

Да нараджэння маёй жонкі заставалася амаль сем гадоў. Калі мы сталі з ёй сустракацца, здалёк яна часта здавалася мне стройнай белай бярозкай...

Неўзабаве адбылася яшчэ адна лёсавая падзея, якая азначала, што шанцы Яўгена на выжыванне падняліся на значную вышыню. Аднойчы ўвесь лагер быў выстраены на пляцы і нямецкі афіцэр звярнуўся да ваеннапалонных з пытаннем:

- Хто з вас можа гаварыць па-нямецку?

Надыйшла доўгая паўза. Немец пераводзіў погляд з аднаго канца ладу на другі і заўважыў, як сусед Яўгена штурхнуў яго локцем і сказаў:

-Гена, ты ж, здаецца, крыху кумекаеш і балакаеш па-іхняму?.

На што Яўген прашаптаў:

- Ці ты ў сваім розуме? Я нямецкую мову ў школе вучыў толькі паўтара гады. Не хапала мне выйсці і зарабіць гумай па спіне.

Не атрымаўшы адказу ні ад аднаго чалавека, афіцэр падыйшоў і ткнуў пальцам у грудзі Яўгена.

- Sprechen Sie Deutsch?
- Schlecht.
- Wo haben Sie Deutsch gelernt?
- In der Schule.
- Wo sind Sie geboren?
- Weissrussand, Neswiz Gebiet.[1]

На гэты імгненны экзамен хапіла б ведаў пятага класа (усяго ж цесцю выпала скончыць іх шэсць), а наступную фразу немца пасля ўступнага кароткага "гут" Яўген нейкім цудам зразумеў як каманду паставіць людзей ў калону па чатыры.

Можа падацца, што мой будучы цесць апынуўся адзіным чалавекам, што загаварыў па-нямецку, таму што астатнія не жадалі гаварыць на мове ворага. Я распытваў яго пра гэта, і ён запэўніў мяне, што ў лагеры было шмат афіцэраў ад малодшага лейтэнанта да падпалкоўніка, якія вывучалі нямецкую мову ў сярэдніх школах ды ваенных вучэльнях і, да таго ж, зусім не супраць былі заняць цёплае месцейка перакладчыка, але

[1] - Размаўляеш па-нямецку?
- Дрэнна.
- Дзе вучыў нямецкую мову?
- У школе.
- Дзе нарадзіўся?
- Беларусь. Нясвіжскі раён.

проста не маглі звязаць пару слоў і не разумелі іншаземную гаворку.

Да майго паступлення на перакладчыцкі факультэт Менскага інстытута замежных моваў заставалася дваццаць пяць гадоў, а да паступлення маёй малодшай дачкі Алены ў той жа інстытут, які пасля набыцця Беларуссю незалежнасці атрымаў статус лінгвістычнага ўніверсітэта (дарэчы, Алена стала першай асобай жаночага полу, прынятай на перакладчыцкі факультэт, да таго ж без экзаменаў) - пяцьдзясят.

Гады палону ўмясцілі ў сябе столькі падзей, што нават просты пералік іх у рамках гэтага аповеду-сведчання быў бы фантастычна цяжкай задачай. У асноўным, ваеннапалонныя былі занятыя рознай цяжкай працай на прыватных нямецкіх фермах, дзе гаспадарыць засталіся жанчыны. Мужчыны ж амаль усе пагалоўна былі адпраўленыя на фронт. У многія хаты прыходзілі пахаванкі.

Камусьці, пэўна, падасца непраўдападобным, але здзекаў над работнікамі не было. Наадварот, быў свайго роду конкурс на тое, каб займець тых, хто лепш спраўляецца з плугам, касою, цяглавай жывёлай.

Такіх стараліся сытна накарміць, апрануць. Часам дачыненні даходзілі да асаблівай блізкасці, але калі пра гэта станавілася вядомым старасце вёскі, то ў навучэнне іншым немку стрыглі нагала і адпраўлялі ў спецыяльны лагер, дзяцей жа яе - у інтэрнат. Доля "апаганшчыка" чысціні арыйскай расы магла быць рознай, часам самай сумнай.

Аднойчы цесця папрасілі сабраць групу ваеннапалонных для працы ў вінных склепах. Майстар вінзавода, які прыехаў у лагер, стаяў перад палонным перакладчыкам у позе пакорлівага просьбіта.

- Эўген, прашу цябе, падбяры, калі ласка, такіх, каб маглі адпрацаваць дзень, загрузіць машыны, а потым няхай п'юць віно - колькі захочуць.

- Майн гер, цяжкую вы мне ставіце задачу… Што змагу - зраблю, хоць ніякіх гарантый, выбачайце, не будзе.

На заводзе ўсё ішло нармальна на працягу дзвюх-трох гадзін, але неўзабаве адзін рускі ваеннапалонны аднёс у глыбіню склада плеценую бутлю з віном, спачатку прыклаўся да яе сам, а потым пачаў частаваць прыяцеляў. Да абеду грузчыкаў пачало "штарміць": яны спатыкаліся аб парог, падалі на лесвіцы, некаторыя змарнелі і пагрузіліся ў сон…

Як гэта ні дзіўна, але пры размовах аб тым, як пакутавалі ў гітлераўскім палоне савецкія людзі, для цесця менавіта гэты ўспамін быў адным з самых непрыемных.

Аднойчы ноччу, калі Чырвоная Армія ўжо вызваляла Польшчу, паблізу лагера, дзе ўтрымліваўся Яўген, быў збіты савецкі самалёт. Лётчыка, які саскочыў на парашуце, захапілі адразу ж пасля прызямлення. Здарылася так, што для яго допыту даставілі Яўгена Корсака. На любое пытанне лётчык адказваў грубай рускай лаянкай. Мабыць, гэты адважны афіцэр думаў толькі пра немінучую смерць і быў да яе гатовы. Але, на шчасце, ніхто з нямецкіх афіцэраў не разумеў, што кажа палонны. Гэтым скарыстаўся Яўген і пачаў перакладаць адборныя мацюкі як просьбу аб памілаванні.

Лётчыка пакармілі і адправілі на начлег. Да раніцы ён збег з лагера.

Яшчэ два эпізоды здаюцца асабліва значнымі. Дакладней, дзве сустрэчы, дзве размовы, якія адбыліся ўжо пасля вызвалення Германіі войскамі саюзнікаў.

Адзін немец, які ў Першую сусветную вайну правёў некалькі гадоў у рускім палоне, ставіўся да Яўгена з сімпатыяй і неяк спытаў яго:

- Дадому збіраешся? Глядзі, Эўген, там цябе чакаюць Сталін і Сібір!

- За што?

- Там знойдуць, за што. За гэтым справа не стане, - адказаў стары.

Другая сустрэча адбылася аднойчы з пажылым беларусам, які ў тую ж сусветную вайну, наадварот, трапіў у нямецкі палон і асеў ў Германіі назаўжды. Ён таксама разумеў, які лёс чакае савецкіх палонных па вяртанні на радзіму, але напрыканцы размовы сказаў:

- Каб жа хоць на адну хвіліначку перанесціся дадому, прайсці тымі сцежкамі!..

Апошнія словы стрэмкай увайшлі ў сэрца майго будучага цесця і адыгралі не апошнюю ролю ў тым, што праз год пасля дня Перамогі ён накіраваўся дадому.

Але гэта здарылася не адразу. Вяртанню папярэднічалі ўгаворы савецкіх афіцэраў, якія неаднаразова прыязджалі ў лагер перамешчаных асобаў. Хоць апошнія мелі магчымасць выбіраць эміграцыю ў многія краіны Захаду, словы агітатараў гучалі вельмі пераканаўча:

- Таварышы, вас чакаюць дома маці, жонкі, дзеці. Вас чакае Радзіма! Перамога даруе ўсё,

нават тое, што вы працавалі на ворага…

Нарэшце, спехам спакаваліся рэчы, і тыя, хто быў ахвотны вярнуцца, занялі месцы ў нямецкім пасажырскім цягніку, які пад гукі аркестра рушыў у кірунку Радзімы-маці.

Але неўзабаве высветлілася: яна не ўсіх чакала з аднолькаваю пяшчотаю. Як толькі цягнік наблізіўся да мяжы, прыліплыя да вокнаў пасажыры ўбачылі загароды з калючага дроту і ўзброеных вайскоўцаў з сабакамі. Пасля прыпынку ўсім было загадана выйсці з рэчамі і зшыхтавацца ў шэраг. Цягнік пайшоў назад, і некалькі савецкіх афіцэраў пачалі дапытваць па чарзе ўсіх, хто прыбыў. На кожнага ўжо заведзена была "справа". Калі падышла чарга Яўгена, яго здзіўленню не было мяжы. Той самы лётчык, чыю лаянку ён з такім страхам перакладаў і які потым уцёк з лагера, цяпер ужо ў палкоўніцкіх пагонах, быў начальнікам усёй той камісіі. Ён адразу ж пазнаў перакладчыка з нецэнзурнай рускай на нямецкую мову і сказаў на дасканалай мове Гётэ і Шылера:

- Ты ыратаваў мне жыццё, я ўсё разумеў, што ты перакладаў. - Затым, звярнуўшыся да сваіх падначаленых, коратка ім паведаміў. - Гэта наш чалавек.

Такім цудоўным чынам, у адрозненне ад большасці сваіх паплечнікаў, мой будучы цесць вярнуўся дадому. Спачатку лёс яго складваўся на здзіўленне ўдала. Ніхто не перашкодзіў яго вяртанню ў бацькаву хату. Яўген Казіміравіч купіў каня, нешта прымудраўся зарабляць, ухіляючыся ад уступлення ў калгас. У наваколлі яго ведалі як чалавека наравістага, дужага, які часцяком распачынаў бойкі на масавых гулянках ды вяселлях і часцей за ўсё выходзіў з іх пераможцам. У трыццаць тры гады ён-такі пасталеў, ажаніўся з прыгожай дзяўчынай, якая да таго ж была добрая швачка і майстрыха на ўсе рукі.

Сваю старэйшую дачку я назваў Соф'яй у гонар бабулі. У 1948 годзе, у трэцюю гадавіну Перамогі, нарадзілася мая будучая жонка. Да нашага сціплага студэнцкага вяселля заставалася роўна дваццаць гадоў.

Яўген Казіміравіч пачаў будаваць дом… І вось тут ход падзей зноў пачынае набіраць лёсавызначальныя абароты. Малодшы брат цесця ў той час сустракаўся з дачкой работніка сельсавета (таго самага, што быў узгаданы маёй жонкай на могілках). Пасля таго, як яна распавяла хлапцу пра сваю цяжарнасць, той з аднаму яму вядомых прычынаў не пасяшаўся заняцца падрыхтоўкай да вяселля. А бацьку-сельсаветчыку нехта нашаптаў, што шлюбу, нібыта, перашкаджае старэйшы брат незгаворлівага жаніха - Яўген.

Ліквідаваць такую перашкоду для сталінскага дзяржпартработніка было, што называецца, справай тэхнікі. Практычна імгненна быў згатаваны данос у "адпаведныя органы" аб тым, што Яўген Корсак у вайну добраахвотна здаўся ворагу ў палон, там супрацоўнічаў з фашыстамі, а ў цяперашні час праводзіць злосную варожую прапаганду сярод мясцовага насельніцтва.

Арышту чакаць доўга не прыйшлося. Наперадзе ў Яўгена Казіміравіча была турма ў Баранавічах. Дастаўлены невядома з якой далечыні на допыт і вочную стаўку падпалкоўнік засведчыў, што ў зняволенні Я. Корсак нікога не выдаваў, а наадварот, у лагеры для ваеннапалонных усяляк дапамагаў зняволеным у іх патрэбах. Знайшоўся, аднак, і сведка, які сцвярджаў, што Корсак аднойчы моцна збіў яго ў лагеры.

Яўген Казіміравіч прызнаўся, што такі эпізод сапраўды меў месца. Сведка аднойчы скраў у яго ключы, выйшаў за тэрыторыю лагера, быў злоўлены і заявіў ахове, што перакладчык Корсак сам даў яму ключы. Вось па такой прычыне і здарыўся ўзгаданы інцыдэнт.

Увесь ход следства наўрад ці меў якое-небудзь значэнне, таму што суд праштампаваў стандартны ў такіх выпадках прысуд - 25 гадоў лагераў. Канчатковай кропкай суровага і доўгага этапу стаў лагер у Башкірыі. Там патрабавалася бясплатная працоўная сіла для будаўніцтва важнага аб'екта, прызначэнне якога вязням заставалася невядомым. Яўген трапіў у брыгаду цесляроў. Людзі ў ёй падабраліся моцныя і здатныя. Усе стараліся працаваць у поўную сілу, таму што выкананне або перавыкананне плана азначала датэрміновае вызваленне.

Праз нейкі час цесць стаў брыгадзірам, у сярэднім за месяц у залік ішлі 150% выпрацоўкі.

А дома, па завяршэнні суда над галавой сям'і, новае жыццё пачыналася з таго, што трохгадовая дачка, як у тумане, седзячы на руках ў бабулі, назірала праз аконную шыбу, як адводзяць з двара і прывязваюць да чужога воза іх карову. Дарэчы, карова тая была прыведзена ў новую сям'ю як пасаг маці.

Прайшоў год, другі, пайшоў трэці, і толькі тады з'явілася ў гаспадарцы замест каровы чорная козачка - ыратавальніца ад галоднай смерці. Яшчэ адна карміцелька - швейная машынка - запомнілася дзяўчынцы тым, што маці часта

даводзілася хаваць яе ў самых розных месцах ад набегаў нястомных і ненавісных фінагентаў, што вывіжоўвалі людзей, якія займаліся рознымі промысламі, ды абкладвалі іх непасільнымі падаткамі.

У брыгадзе Яўгена Корсака з'явіліся два вернікі. Яны вылучаліся спакойным норавам, ніколі не брыдкасловілі, заўсёды гатовыя былі прыйсці на выручку, аказаць дапамогу. У хвіліны перакураў яны звычайна адыходзіліся ў бок і ціха маліліся. Неяк непрыкметна брыгадзіра пацягнула да іх. Яны спакойна і проста адказвалі на яго пытанні, тлумачылі, што значыць слова "баптыст", што такое Біблія або Евангелле, якое значэнне для чалавека мае вечнае жыццё. Пры невялікай адукацыі яны мелі ясныя адказы на любыя пытанні, якія задавалі ім зняволеныя.

Непераадольнай сілай Яўгена цягнула да гэтых людзей. Нягледзячы на смяшкі і кпіны з боку астатніх рабочых, якія, зрэшты, хутка і спыніліся, ён кожную вольную хвілінку праводзіў з гэтымі двума братамі-вернікамі. Вечары напоўніліся асаблівым зместам. На месца картачных гульняў і парожніх размоў на адны і тыя ж збітыя тэмы прыйшлі шматгадзінныя размовы пра Бога, Ісуса Хрыста, выратаванне душы, нябеснае царства, нараджэнне звыш…

Гутаркі завяршаліся чытаннем урывачкаў з Слова Божага ды малітвамі. Неўпрыкмет прыйшоў дзень, які падзяліў на дзве зусім розныя часткі ўсё жыццё майго цесця. Ён звярнуўся да Госпада з малітвай пакаяння. У сэрца прыйшла неверагодная радасць, яно напоўнілася невядомай дагэтуль любоўю да ўсіх людзей.

Здавалася, само цела здабыло бязважкасць, нібы з плеч звалілася велізарная глыба незразумелага грузу. Перад вачыма імгненнай чарадой пранесліся многія падзеі жыцця, і прыйшла думка пра тое, што яна не аднойчы магла перапыніцца, але нейкая дзівосная сіла мяняла абставіны, пасылала абарону, дапамогу. Асаблівае месца сярод гэтых успамінаў заняў той момант, калі чыйсьці голас прамовіў: "Паглядзі яму ў вочы".

Яўген выразна і ясна ўсвядоміў, што гэта быў голас самога Збавіцеля!

Першае практычнае выпрабаванне вызнання жывога Бога ўзнікла літаральна вечарам наступнага дня. Справа ў тым, што кожны брыгадзір абавязаны быў па заканчэнні працы з'яўляцца ў кантору і дакладваць пра тое, якія гутаркі вялі паміж сабой чальцы брыгады. "Кума" асабліва цікавілі выказванні пра Сталіна, палітыку партыі, лагернае начальства. Нешта ўнутры запярэчыла, і, хоць Яўген і да гэтага не выяўляў ніякага імпэту ў стукацтве, яму падалося гэта зусім недапушчальным для чалавека-вер-ніка. Калі ён падзяліўся гэтай думкай з братамі, яны сказалі:

- Вырашай сам… Але мы разумеем, што той, хто прадае сваіх блізкіх, ёсць Юда.

Пасля таго, як Яўген некалькі дзён не з'явіўся да "кума", яго выклікалі ў кантору адмыслова. Ён адразу ж пачаў казаць, што дакладваць яму няма чаго, што непатрэбных размоў яго людзі не вядуць, а план пастаянна перавыконваюць. А ўжо раніцаю яму паведамілі, што наконт яго ля канторы вісіць загад.

Яўген падышоў да дошкі аб,яў і прачытаў, што з сённяшняга дня яго вызвалілі ад пасады брыгадзіра цесляроў і перавялі простым рабочым у брыгаду бетоншчыкаў. Праца там была, вядома, намнога цяжэйшая, нават - забойчая, але і там прынцып "галота на выдумку хітрая" спрацоўваў у поўнай меры: калі план нельга было выканаць фактычна, знаходзілася мноства спосабаў завысіць аб'ёмы работ на паперы.

Магутная міна запаволенага дзеяння была закладзена ў саму сутнасць сацыялізму і дзейнічала з аднолькавай непазбежнасцю і за турэмнай агаро-джай, і на волі: у канчатковым рахунку, у прыпісках былі зацікаўленыя ўсе - і ніжэйстаячыя выканаўцы, і вышэйстаячыя кантралёры ўсіх прыступак. Апошняй прыступкай кантролю быў сам таварыш Сталін, які, аднак, не мог разарвацца паміж усімі калгасамі, прадпрыемствамі і астатнімі прамежкавымі інстанцыямі і вымушаны быў рабіць ацэнкі і прымаць рашэнні, зыходзячы з паперак, якія траплялі да яго на стол.

Уся гэтая задума з паходам у светлую будучыню скончылася тым, што недзе ў сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя партыя камуністаў абвясціла народу аб пабудове развітога сацыялізму, а затым, замест таго, каб прызнацца людзям, што ў краіне не стала ежы, была прынята Харчовая праграма.

У лагерах па-асабліваму цяжка даводзілася з надыходам халадоў. Слупкі тэрмометраў у Башкірыі зімой апускаліся да - 40 і ніжэй. Адным марозным днём Яўген сустрэўся з земляком, які паведаміў, што праз некалькі дзён павінна выйсці на свабоду прачка і ён можа паспрыяць Корсаку заняць яе месца.

Новае месца працы, якая заключалася ў

мыцці пасцельнай бялізны, падалося сапраўдным раем. Калі хто-небудзь з лагернай адміністрацыі або аховы прыносіў у пральню споднее, за гэта належала плаціць тры рублі, што адпавядала прыкладна цане бохана хлеба.

Аднойчы Яўген знайшоў на падлозе гаманец, у якім былі грошы і дакументы. Ён панёс яго да свайго начальніка. Той не хаваючы здзіўлення, узяў кашалёк, раскрыў яго…

- Я магу ісці?- спытаў Яўген.

Начальнік уважліва паглядзеў на яго і спытаў:

- Паслухай, Корсак, ты, напэўна, баптыст?

Яўген адчуў, як да горла падступіў камяк. Нешта ўнутры заклікала сказаць "не". Ён успомніў, як лютавала лагерная ахова, калі знаходзіла падчас шмону не тое каб Біблію або маленькае Евангелле, але нават лісток-другі з тэкстам Святога Пісання.

Ніхто і не рызыкаваў трымаць пры сабе цэлыя кнігі. Тых, у каго іх знаходзілі, падвяргалі абразам і збіццю. У той жа час іншы голас казаў "Не падмані", і ён згодна кіўнуў:

- Так.

Начальнік пасля хвілінкі маўчання адказаў:

- Ну добра, ідзі…

У бараку ён падышоў да братоў і расказаў пра тое, што здарылася.

- Малайчына, Яўген, - адразу ж сказаў адзін з іх, - напісана: "А хто зрачэцца Мяне перад людзьмі, таго зракуся і Я перад Айцом Маім Нябесным".

Аднойчы Яўгену трапіў на вочы адзін лядашчы нават па лагерных мерках чалавек - былы мусульманскі мула. Ён быў апрануты ў неймаверныя рызманы, якія ніяк не саграваλі худзенечкае цела, бо матляліся на ім, нібы лахманы на пудзіле, і вецер прабіваў іх наскрозь.

Ужо знаёмы голас прамовіў Яўгену: "Дай яму грошай". Яўген дастаў з кішэні тры рублі і працягнуў іх небараку. У таго акругліліся вочы, ён стаяў, не смеючы працягнуць руку, баючыся злога розыгрышу або верагоднага за ім удару ці іншага здзеку.

Тады Яўген сам сунуў яму грошы са словамі:

- Можа, у цябе няма за што паслаць родным ліст, вазьмі, купі канверт і марку…

Той упаў на калені і са слязьмі пачаў цалаваць руку нечаканаму дабрадзею.

Сам Яўген пісаў дадому рэгулярна, атрымліваў адтуль пасылкі з салам, цыбуляй ды часнаком, што лічылася ў лагеры самай цвёрдай валютай.

Аднойчы браты чыталі апошнюю старонку Евангелля ад Марка, і пры словах: "Хто будзе верыць і хрысціцца, выратаваны будзе; а хто не будзе верыць, асуджаны будзе", - Яўген спытаў:

- Браты, а як жа мне быць? Я ж яшчэ не прыняў хрышчэння…

Тыя пaглядзелі адзін на аднаго, затым старэйшы з іх сказаў:

- Я думаю, Госпад што-небудзь угледзіць. Бо тваё жаданне ёсць па волі Яго.

Надыйшло лета. Зняволеным зваршчыкам даручылі зрабіць вялікія ёмістасці для вады. Браты-вернікі перамовіліся з імі. Тыя паабяцалі часова заварыць адтуліны, каб вернікі маглі здзейсніць свой абрад, а потым вярнуць усё ў належны стан. Хрышчэнне адбылося. Яўген адчуў у сабе новую духоўную сілу, яшчэ больш зацвердзіўся ў веры.

Праз пэўны час у лагер трапіў яшчэ адзін вернік. Гэта быў вельмі пажылы чалавек. Але хадзіў ён прама, трымаўся вельмі ўпэўнена і годна, яго незвычайную ўнутраную сілу адчувалі ўсе насельнікі калоніі. Аднойчы падчас малітвы ён пачаў прарочыць і сказаў, апроч іншага, словы, якія асабліва ўрэзаліся ў памяць Яўгена:

- Праз тры гады памрэ Сталін, а яшчэ праз тры гады, калі трава будзе па костачку, вы пойдзеце дадому...

Словы гэтыя не выходзілі з галавы Яўгена і яго таварышаў. Ажылі мары аб свабодзе, сустрэчы з роднымі.

Два гады таму краіна адзначыла сямідзесяцігоддзе вялікага правадыра сусветнага пралетарыяту, але ўсе бачылі яго толькі на партрэтах - такім моцным, бадзёрым і практычна несмяротным.

Тым не менш, у яго скон можна было неяк паверыць, але каб вызваліць гэтую вялікую масу людзей, якая складаецца з ворагаў народа, пакінуць краіну без арміі дармовых работнікаў? Вось у гэта паверыць было цалкам немагчыма.

Ды нездарма сказана ў кнізе прарока Ісаі: "...так будзе са словам Маім, якое выходзіць з вуснаў Маіх: і не вяртаецца да Мяне пустым, але зробіць, што толькі Я захачу, і будзе мець поспех у тых, да каго Я паслаў. Бо з радасцю выйдзеце і ў супакоі вас выведуць; горы і ўзгоркі перад вамі спяваць будуць песні, а ўсе дрэвы навакольныя пляскаць будуць у далоні. Замест церняў вырасце кіпарыс, замест жыгучкі вырасце мірт, і будзе

гэта на хвалу Госпаду, як знак вечны, які не знішчыцца".

Слова, прамоўленае старцам, не вярнулася да Госпада дарэмным: у 1953 годзе памёр Сталін, а ў 1956 годзе Яўген пакінуў Башкірыю, калі там ужо зазелянела трава, а па прыбыцці дадому, ў родную Беларусь, яна ўжо была гатовая да першага ўкосу.

Дома чакала не толькі радасць сустрэчы, але і неразуменне таго, як чалавек мог "паламаць бацькоўскую веру", стаць нейкім сектантам, адмовіцца ад ранейшых вясёлых кампаній, выпіўкі, курэння...

Але гэта ўсё было хоць і ў блізкай ужо, але ў будучыні. А пакуль што зноў быў цягнік, плацкартны вагон, былі думкі пра жонку, пра дачушку: ці прызнае, ці будзе хавацца за матчыну спадніцу, як ад чужога?

Аднаго дня праваднік цягніка абвясціў: "Наступная станцыя - Гарадзея".

"Вось і скончыліся пакуты, - прамільгнула першая думка, - але як расказаць родным людзям, што я ўжо іншы чалавек, не той забіяка і выпівака, які мог нават на ўласную жонку падняць руку? Як адкрыць сваю душу і сказаць, што я ўсіх іх люблю? Ці зразумеюць?"

У думках усплывалі падзеі, пра якія не хацелася ўспамінаць, але рашэнне было адназначным: прасіць прабачэння ва ўсіх, каго калісьці пакрыўдзіў.

На наступны дзень Яўген Казіміравіч пайшоў адведаць бацьку і маці. Ён адчыніў дзверы і, заўважыўшы разгубленасць усіх прысутных, міжволі затрымаўся на парозе. За сталом, побач з бацькам, сядзеў той самы чалавек, вінаваты ва ўсіх яго шматгадовых пакутах. Бацька з ім ужо некалькі гадоў былі сватамі таму, што дзеці іх пажаніліся адразу пасля асуджэння Яўгена, мелі агульных унукаў.

На той момант даносчык быў ужо не ранейшым начальнікам, а радавым калгаснікам. Убачыўшы свайго "хросніка", ён збялеў ад страху, учапіўся пальцамі ў абрус на стале, агледзеўся па баках, спадзеючыся ўбачыць хоць адно адчыненае акно. Пакуль доўжылася гэтая грозная нямая сцэна, астатнія ў здранцвенні чакалі развязкі. І тут адбылося тое, што проста ашаламіла ўсіх прысутных і ў што не маглі паверыць многія з тых, каму пра гэта распавядалі пасля.

Яўген падышоў да цесця брата, абняў яго і пацалаваў. Потым сказаў:

- Мой дарагі, ты не ўяўляеш, як я ўдзячны табе. Толькі дзякуючы табе я паверыў у майго Госпада Ісуса Хрыста.

Мне прыгадваюцца шматлікія неверагодныя падзеі, аб якіх давялося чытаць ці чуць. Але ні Аляксандр Матросаў, які кінуўся грудзьмі на кулямётную амбразуру, імя якога насіў мой піянерскі атрад, ні біблейскі Самсон, які забіў аслінай пашчэнкай тысячу чалавек, не ўздымаюцца ў маіх вачах на такую вышыню, як мой цесць Яўген Казіміравіч Корсак.

Пры пэўным высілку, у пэўнай сітуацыі можна не падмануць, не скрасці, не забіць, але любіць свайго ворага - гэта не імгненнае гераічнае намаганне і наступнае святкаванне перамогі. Гэта пастаяннае знаходжанне ў веры, следствамі знешніх праяваў якой з'яўляюцца паслухмянасць і пакорлівасць. Менавіта гэтыя рысы, якія не толькі я адзін, але і ўсе, хто ведаў майго цесця, пастаянна назіралі ў яго абліччы, з'яўляюцца для мяне яскравай ілюстрацыяй таго, што азначае ці як канкрэтна праяўляецца нараджэнне звыш, якое даруе чалавеку Госпад.

З ласкі Божай Яўген Казіміравіч абрабляў новую жыццёвую ніву. Здолеў уладкавацца на працу. На свет з'явіліся двое сыноў. Меншы яшчэ не пачаў хадзіць, як давялося пераносіць з хутара ў вёску сваю хату. Гэта быў час, калі спецыяльныя брыгады прыязджалі па камандзе начальства на хутары, раскрывалі дахі дамкоў ды з'язджалі пад акампанемент жаночых праклёнаў і дзіцячых слёз. Амаль тры месяцы сям'я майго будучага цесця яшчэ заставалася ў доме без даху.

Дажджы ішлі, што называецца, проста на галаву. Ратаваліся кавалкамі брызенту, зацягвалі на кроквы шчыты, вароты, дзверы, дошкі…

З радыёпрымачоў несліся лозунгі з заклікамі да выканання рашэнняў чарговага з'езда партыі, зводкі з цэхаў і палёў і паведамленні аб пачатку новага этапу "разгорнутага будаўніцтва камунізму". Між тым грошай у людзей амаль не было.

Не было і будматэрыялаў, асабліва для даху. Жыццё ў такіх варунках патрабавала цяжкай, напружанай працы і цярпення. Але Бог быў ва ўсім надзейным апірышчам і падмогай.

Якія б ні складваліся абставіны, Яўген Казіміравіч ніколі не працаваў у нядзелю. У астатні час у яго дом маглі пастукаць ноччу, папрасіць дапамогі, і ён нікому не адмаўляў.

У царкве ўсе, ад малечы да самых пажылых, звярталіся да яго ласкальна: брат Генік. Калі яму даводзілася аказваць дапамогу сваім па веры

ў будаўніцтве або рамонце, ён альбо браў самы мінімум, альбо наогул адмаўляўся ад платы, кажучы пры гэтым: "А, няхай ідзе ў нябесны банк".

Ён не быў красамоўным прапаведнікам, але часам уздымаўся на кафедру, і ўся царква, як адна душа, ведала, што зараз прагучаць словы, з якіх пачынаецца чатырнаццаты раздзел Евангелля ад Яна: "...няхай не трывожыцца сэрца ваша; верце ў Бога, і ў Мяне веруйце. У доме Айца Майго прыстанішча многа. А калі б не так, Я сказаў бы вам: Я іду падрыхтаваць месца вам. І калі пайду і падрыхтую вам месца, прыйду зноў і вазьму вас да Сябе".

Гэтыя словы былі сэнсам усяго яго жыцця. Госпад адмераў Яўгену Казіміравічу амаль 88 зямных гадоў. У Святым Пісанні сказана: "Дзён гадоў нашых - семдзесят гадоў, а пры большай моцы - восемдзесят гадоў; і самая лепшая іх пара - праца і хвароба" (Псалтыр, 89:10).

Мне ўяўляецца, што ў "Нябесным банку" былі ўлічаны шчодрыя прынашэнні і ахвяраванні цесця, і Госпад адмераў яму Сваю дзесяціну ў вы-глядзе дадатковых васьмі гадоў.

А што да працы і хваробы, то мяне ніколі не пакідала ўражанне, што за працаю цесцю проста не было калі хварэць. У семдзесят гадоў ён не саступаў маладым, гуляючы ўпраўляўся з касой або сякерай. Толькі пасля "большай моцы" ён пачаў паступова слабець.

Апошнія яго гады прыйшліся на разруху, і многія цяжкасці, якія рушылі за перабудовай і развалам Савецкага Саюза, асабліва балюча ўдарылі па людзях старэйшага пакалення. Па дзеянні "Нябеснага банка" Яўгену Казіміравічу з Германіі прыйшло ўздапаможанне як былому вязню фашысцкіх канцлагераў, а ў польскай амбасадзе яму сталі выплачваць штоквартальную грашовую дапамогу як былому жаўнеру польскага войска. Складзеных з гэтых грошай зберажэнняў сталася цалкам дастаткова для пахавання і цесця, і цешчы.

Як тут не ўспомніць, што тым, хто любіць Бога, хто пакліканы па Ягонай пастанове, усё спрыяе на добрае.

Дарэчы, і пахаванне Яўгена Казіміравіча не абышлося без яскравага сведчання аб тым, што Бог да апошняй хвіліны не пакідаў гэтую душу без знакаў Яго ўвагі.

Суботнім вечарам, даведаўшыся, што Яўген Казіміравіч адчувае сябе вельмі слаба, яго наведаў пастар евангельскай царквы. Старац ужо не мог гаварыць. Пасля заключнай малітвы пастар спытаў:

- Брат Генік, вы ўсё чулі, пра што мы гаварылі ды маліліся?

У адказ Яўген Казіміравіч ледзь прыкметна варухнуў рукой і павекамі вачэй.

Ноччу нам з жонкай паведамілі пра смерць бацькі. З самае раніцы, калі я сеў у машыну, і ўвесь час, пакуль займаўся рознымі справамі па падрыхтоўцы пахавання, бесперапынна ішоў дождж. Ён працягваўся і падчас развітальнага служэння ў доме нябожчыка, але, калі пачалі выносіць труну на вуліцу, у адно імгненне, нібы хтосьці рассунуў цёмна-шэрыя нябесныя фіранкі, лівень спыніўся і засвяціла сонца.

Жалобная працэсія рухалася пад блакітным небам. Прайшло кароткае служэнне. Калі гучалі словы апошняй малітвы, я заўважыў, як на жоўты пясок магільнага гурбанка пачалі падаць кроплі дажджу. Усе, хто прысутнічаў, убачыўшы, як набліжаецца велізарная чорная хмара, дружна накіраваліся да машын. Лівень аднавіўся з ранейшай сілай…

У 2014 годзе Яўгену Казіміравічу Корсаку споўнілася 100 гадоў. Я не магу напісаць, як часам у такіх выпадках пішуць, "споўнілася б", таму што ведаю, што смерць над вернікам не мае ўлады, і яму дадзены такі прывілей - "пераходзіць ад смерці да жыцця".

Мой цесць у сваім жыцці заваяваў адну вялікую вяршыню - вяршыню волі. Той сапраўднай маральнай і духоўнай волі ці свабоды, якую вернікі перажываюць у вязніцы, ва ўмовах голаду ды ўсялякай нястачы, калі яны ўскладаюць усё сваё спадзяванне на жывога Бога. Толькі ўзышоўшы на пэўную вяршыню, можна ацаніць усё, што адбылося ў мінулым, даць дакладную ацэнку і не дапусціць ніякай крыўды, памятаючы пра тое, што крыўдзіцелі верніка служаць не сабе і кіруюцца не сабой, але ворагам душы чалавечай, а вялікі і літасцівы Бог дапускае для сваіх дзяцей пэўныя выпрабаванні і дарue патрэбныя сілы для іх пераадолення.

"Таму, калі Сын вас вызваліць, сапраўды свабоднымі будзеце" (Евангелле паводле Яна, 8:36).

# Беларускія школьныя сшыткі












# Беларускія школьныя сшыткі
























**Нясвіж. Гатэль “Беласток”**